Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№51 (4595) 24 снежня 2010 г.

## У нумары:





# Сімвал велічы і магутнасці

**Ім валодалі Ільінічы, Радзівілы, Вітгенштэйны, Святаполк-Мірскія… Кожны новы гаспадар рабіў свой унёсак у знешні выгляд Мірскага замка, і таму да нашых часоў ён дайшоў як дзіўны сплаў готыкі, рэнесансу і барока. Сёння Мірскі замак — адна з найвялікшых каштоўнасцей беларускага народа. Аб'ект, які ўваходзіць ледзь не ва ўсе турыстычныя маршруты для іншаземцаў. А яшчэ — сімвал нашай велічы і магутнасці.**



Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка падчас наведвання Мірскага замка.

Апошнім часам у Мірскім замку вяліся актыўныя рэстаўрацыйныя работы. Аматары беларускай даўніны хваляваліся — чым скончыцца распачатая справа? Якім паўстане перад намі пасля рэстаўрацыі замак, што ў 2000 годзе быў унесены ў Спіс сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны ЮНЕСКА?

1 снежня 2008 года для наведвальнікаў адкрылася Паўднёва-заходняя вежа замка. Стала зразумела, што работы тут вядуцца скрупулёзна, беражліва, з веданнем справы. А 1 снежня 2010 года завяршылася рэстаўрацыя памяшканняў у Паўночным корпусе замка.

16 снежня 2010 года адбылося ўрачыстае адкрыццё Замкавага комплексу "Мір". І вылілася яно ў сапраўднае свята з тэатралізаваным паказам, канцэртнымі выступленнямі ансамбляў "Класік-Авангард", "Пастараль", "Харошкі", "Талака". З мастацкай выстаўкай, у якой прынялі ўдзел такія вядомыя майстры Беларусі, як Віктар Альшэўскі, Міхаіл Баразна, Уладзімір Зінкевіч. Са шматлікімі гасцямі, у ліку якіх, між іншым, былі высокія асобы з Літвы, Польшчы, Расіі, Швецыі. Урэшце, з гашэннем паштовай маркі, спецыяльна выпушчанай да мерапрыемства, і святочным феерверкам з выкарыстаннем гістарычных феерверачных традыцый славутага Казіміра Семяновіча.

На адкрыццё замка прыбыў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Ён падышоў да народных умельцаў, паразмаўляў з музыкамі, членамі гістарычных клубаў і дзецьмі, якія бацькі прывялі на свята. Кіраўнік дзяржавы шчыра радаваўся значнай падзеі. Памяняў беларускія грошы на манеты, якія тут жа, у Мірскім замку, выраблялі кавалі, і набыў за гэтыя ўмоўныя грошы некалькі сувеніраў.

Патрапіўшы ў адкрытыя для агляду адрэстаўрыраваныя залы, Аляксандр Рыгоравіч уважліва агледзеў іх і прыйшоў да высновы, што праца, зробленая рэстаўратарамі, заслугоўвае пахвалы. Паводле слоў Прэзідэнта, замак не проста адбудоўваўся. Паступова, крок за крокам, аднаўлялася перарваная сувязь часоў, вярталася многавяковая слава і адраджалася гістарычная самасвядомасць і вера ў тое, што беларусы — народ герояў і тытанаў духу.

Міністр культуры Беларусі Павел Латушка паведаміў Прэзідэнту, што завершана толькі першая чарга рэстаўрацыі Мірскага замка і будуць яшчэ тры, апошняя з якіх павінна быць скончана ў 2013 годзе. Плануецца аднавіць італьянскі і англійскі паркі, сажалку і іншыя аб'екты, што знаходзяцца на прызамкавай тэрыторыі, і Аляксандр Рыгоравіч ухваліў такія планы.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Прэзідэнт адзначыў, што ў Беларусі больш як 20 замкаў, якія маюць патрэбу ў аднаўленні. Некаторыя трэба рэстаўрыраваць, іншым паказана кансервацыя, таму што ад іх засталася толькі малая частка альбо фундаменты. З прапановай стварыць адпаведную праграму па аднаўленні замкаў да Кіраўніка дзяржавы звярталася Міністэрства культуры. Паводле папярэдніх ацэнак, на гэтыя мэты патрабуецца каля 150 — 180 мільярдаў беларускіх рублёў. "Гэта невялікія грошы на сем гадоў. Мы абавязкова іх адновім. За сем гадоў гэта пад'ёмна па грошах", — адзначыў Прэзідэнт.

У той жа час, падкрэсліў Аляксандр Рыгоравіч, існуе праблема са спецыялістамі, якія мелі б вопыт у гэтай справе. Аднак яна таксама будзе вырашацца — у Беларусі пачнуць рыхтаваць сваіх рэстаўратараў.

На пытанне журналіста, чаму Беларусь ніяк не ператворыцца ў еўрапейскі цэнтр культурнага турызму, што прынесла б істотны даход у казну, Аляксандр Лукашэнка адказаў, што прайшло яшчэ зусім мала часу, і краіна знаходзіцца толькі ў пачатку гэтага шляху. "Іншыя дзяржавы могуць гэтым пахваліцца, таму што яны з гісторыяй, якая ўжо адбылася. Нам жа пакуль ранавата хваліцца, але ўжо ёсць што паказаць свету", — сказаў ён, назваўшы акрамя Мірскага замка яшчэ палац у Гомелі і Нясвіжскі палацава-паркавы ансамбль. "У нас гэта пакуль яшчэ не стала бізнесам — гэтаму трэба вучыцца. А ў тым, што гэты бізнес будзе, я зусім не сумняваюся, таму што кожны год падвойваецца колькасць людзей, якія прыязджаюць на падобныя аб'екты", — падкрэсліў Прэзідэнт.

Паводле яго слоў, існуе таксама праблема турыстычнай інфраструктуры, але яна не такая вострая. Ёсць прапанова сумяшчаць гісторыка-культурны напрамак, паляўнічы, спартыўны са стварэннем гатэляў. "Думаю, што гэта справа часу. Праблему з гатэлямі можна вырашыць на працягу года, — сказаў Аляксандр Рыгоравіч. — Мы толькі на пачатку шляху", — дадаў ён.

А на сёння замкавы комплекс Мір лічыцца самым запатрабаваным турыстычным аб'ектам Беларусі. Чакаецца, што да канца 2010 года яго наведаюць больш як 180 тысяч турыстаў, а ў 2011-м гэтая лічба дасягне 400 — 450 тысяч.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Фота Мікалая Пятрова, БелТА

## Пункцірам

• Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча з 80-годдзем з дня заснавання. "Творчасць вашага славутага калектыву ўвабрала ў сябе самыя лепшыя традыцыі і дасягненні беларускага мастацтва", — гаворыцца ў віншаванні.

• Прэзідэнт Беларусі ўзнагародзіў медалём Францыска Скарыны старшыню Пастаяннага камітэта па эканамічнай палітыцы Мілі Меджліса Азербайджанскай Рэспублікі Зіяда Самедзадэ за значны ўнёсак ва ўмацаванне сяброўскіх адносін і супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Азербайджанам.

• У Іерусаліме на сцяне храма Pater Noster будзе змешчана табліца з малітвай "Ойча наш…" на беларускай мове. Храм быў узведзены па загадзе візантыйскай імператрыцы Алены побач з гротам, дзе Хрыстос вучыў апосталаў гэтай малітве. Адметнасцю гэтага месца з'яўляюцца шматлікія керамічныя табліцы з тэкстамі малітвы "Ойча наш…" на амаль 130 мовах свету. Малітва на беларускай мове ўпрыгожыць храм намаганнямі Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

• Новы год балетная трупа Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі сустрэне ў Кітаі, дзе пройдуць гастролі калектыву. У планах гастроляў — класіка, два балеты П. І. Чайкоўскага "Лебядзіное возера" і "Спячая прыгажуня". Гэтыя балетныя спектаклі пабачаць у трынаццаці буйных гарадах Кітая.

• У Мінску адкрылася выстаўка казахскай культуры і быту. У экспазіцыю, размешчаную ў будынку беларускага БТА-Банка, уключаны нацыянальныя казахскія касцюмы, прадметы быту, музычныя інструменты і іншыя экспанаты, якія адлюстроўваюць лад жыцця, звычаі і традыцыі казахскага народа. Выстаўку адкрыў Надзвычайны і Паўнамочны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Анатоль Смірноў.

• Двухметровы бронзавы помнік Уладзіміру Караткевічу працы беларускіх скульптараў Алега Варвашэні і Канстанціна Селіханава ўсталяваны ў Кіеве на вуліцы М. Кацюбінскага. Помнік размешчаны недалёка ад Пасольства Беларусі ва Украіне і таму будзе ўспрымацца як своеасаблівы сімвал нашай краіны.

• Музей Марка Шагала ў Віцебску рыхтуе да выдання бюлетэнь з матэрыяламі юбілейных XX Міжнародных Шагалаўскіх чытанняў. Гасцямі гэтага мерапрыемства, якое не так даўно з вялікім рэзанансам праходзіла ў родным горадзе сусветна вядомага мастака, сталі мастацтвазнаўцы, выдаўцы, кінематаграфісты, якія займаюцца вывучэннем і папулярызацыяй творчасці мастакоў-авангардыстаў. З тэкстамі іх дакладаў цяпер з задавальненнем пазнаёміцца ўсе жадаючыя.

• Святочнае шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурак адбудзецца 25 снежня ў Мінску. Шэсце гэтае адкрые ў сталіцы праграму святкавання Новага года і Нараджэння Хрыстова. Мерапрыемства пачнецца а 12-й гадзіне з запалення цэнтральнай ёлкі Мінска. На гэты ж дзень запланаваны калядны кірмаш і святочныя гулянні. Усяго ў Мінску ў святочныя дні будзе працаваць больш як 60 пляцовак, на якіх адбудзецца больш як 100 мерапрыемстваў. У Навагоднюю ноч будзе прапанавана каля 30 культурна-забаўляльных праграм.

Падрыхтавала Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Працаваць яшчэ эфектыўней!

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі — самае шматлікае. Яно налічвае ў сваіх шэрагах 270 літаратараў. Кіраваць такой колькасцю творчых людзей — надта адказна. Аднак старшыня сталічнага аддзялення Міхась Пазнякоў не скардзіцца на цяжкасці. У яго, сапраўды, шмат спраў, але ён іх паспяхова вырашае.**

Таму на справаздачна-выбарчым сходзе аднагалосна ён быў абраны старшынёй на другі тэрмін. Лічбы ж і факты, прыведзеныя Міхасём Пазняковым у справаздачным дакладзе, уразілі слухачоў. Акрамя таго, што за пяць гадоў яго кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыяй было праведзена, як тое належыць па статуце, чатыры сходы, адбылося яшчэ 32 пасяджэнні савета Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Абмеркавана творчасць 298 літаратараў, прэтэндэнтаў на пасведчанне члена Саюза пісьменнікаў. Прайшло азнаямленне з сотнямі кніг, тысячамі публікацый у перыядычных выданнях. Праведзена больш як 1100 кансультацый з літаратарамі-пачаткоўцамі, рэцэнзаваны 46 рукапісаў, адрэдагаваны — 34, укладзены 24 кнігі.

Створаны шэраг літаб'яднанняў і маладзёжных літаратурных студый, дзе прайшло за гэтыя гады амаль 120 пасяджэнняў. Пісьменнікамі Мінска выдадзена больш чым 400 найменняў кніг, з іх 38 выйшлі ў "Бібліятэцы Саюза пісьменнікаў Беларусі" і "Бібліятэцы дэтэктыўнай і фантастычнай літаратуры". За апошнія пяць гадоў творчая праца многіх членаў аддзялення была адзначана ўзнагародамі і прэміямі. Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь уганараваны паэт Міхась Башлакоў. Ордэнам Дружбы і ордэнам Кірылы Тураўскага — Мікалай Чаргінец, ордэнам Францыска Скарыны ўзнагароджаны чатыры пісьменнікі; медалём Францыска Скарыны — шасцёра; спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта краіны за літаратурныя творы — трое; Літаратурнай прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі — пяцёра. Акрамя гэтага, уладальнікамі Рэспубліканскай прэміі "Залаты Купідон" за лепшыя творы года сталі 23 чалавекі.

Прадстаўляючы Саюз пісьменнікаў Беларусі, літаратары Мінска актыўна ўдзельнічалі ў самых розных міжнародных форумах у Беларусі і далёка за яе межамі. Нямала мерапрыемстваў праведзена сумесна з Упраўленнем культуры Мінгарвыканкама. Сталі традыцыйнымі літаратурныя вечары, прэзентацыі кніг, фестывалі, святы паэзіі і беларускай песні, урокі ведаў, юбілейныя творчыя вечарыны, святы гумару, "круглыя сталы", мітынгі, канферэнцыі. Штогод пісьменнікамі сталічнага аддзялення наладжваецца да 700 мерапрыемстваў.

Асобным кірункам дзейнасці з'яўляецца работа з юнымі літаратарамі. Іх выяўляюць падчас правядзення гарадскіх, рэспубліканскіх, міжнародных літаратурных конкурсаў для моладзі і потым курыруюць, дапамагаючы іх творчаму станаўленню. У недалёкай будучыні плануецца распачаць выданне кніжнай серыі "Мінскія маладыя галасы" (5 — 6 кніг на год) і "Бібліятэчкі Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі". Але такія добрыя дасягненні і такія цудоўныя перспектывы не азначаюць, што сталічным пісьменнікам можна ўжо спачываць на лаўрах. На справаздачна-выбарчым сходзе прагучалі прапановы па пашырэнні дзейнасці арганізацыі.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Прынятыя ў СПБ



ЦІТАРЧУК
Марыя
Раманаўна
Паэтэса, празаік

Нарадзілася 20 ліпеня 1985 года ў г. Гродна. Скончыла рамана-германскае аддзяленне філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы па спецыяльнасці "Лінгвістычнае забеспячэнне міжкультурных камунікацый". Працуе малодшым навуковым супрацоўнікам у аддзеле рэдкай кнігі і старадрукарскіх выданняў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Друкавалася ў абласных і рэспубліканскіх выданнях, у тым ліку ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" і часопісе "Маладосць". Аўтар кніг "Верасднёўскія мроі: вершы, апавяданні" (2007), "В лучах серебряного сна" (2010).



ЧУДАЎ
Валерый Іванавіч
Паэт,
перакладчык

Нарадзіўся 24 кастрычніка 1946 года ў г. Вуглегорску Сахалінскай вобласці (Расія). Скончыў Ленінградскае вышэйшае ваенна-марское інжынернае вучылішча імя Ф. Дзяржынскага. Праходзіў службу на атамных падлодках Паўночнага і Ціхаакеанскага флатоў. З 1992 года — у запасе. Капітан II рангу. Пачаў друкавацца як перакладчык-празаік з 1988 года. Кнігі з яго перакладамі дэтэктываў з англійскай мовы на рускую і беларускую выходзілі ў выдавецтвах "Мастацкая літаратура", "Сэр-Вит". У 2007 годзе свет пабачылі паэтычныя зборнікі аўтара "И живы памятью веков", "Скифский перстень".

## Надзённае

# Час для новых прапаноў

**Пасяджэнне за "круглым сталом" на тэму "Тэатральна-музычнае мастацтва Беларусі і Расіі. Перспектывы ўзаемадзеяння" адбылося ў Мінску. Яно ладзілася па ініцыятыве Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы ў межах кампаніі па вылучэнні твораў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2011 — 2012 гады. Інфармацыйную падтрымку забяспечыў прэс-цэнтр прэміі Саюзнай дзяржавы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь — выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі".**



Амаль тры дзясяткі зацікаўленых асоб сабрала гэтае мерапрыемства, скіраванае на актывізацыю мастацкіх калектываў і суполак Беларусі і Расіі ў дзейнасці па вылучэнні работ на атрыманне прэстыжнай прэміі. Удзельнікі "круглага стала" абмяркоўвалі пытанні саюзніцкага супрацоўніцтва ў сферы культуры, разважалі пра сучасны стан і перспектывы ўзаемадзеяння ўстаноў культуры і творчых аб'яднанняў нашай краіны і Расійскай Федэрацыі. Яны таксама разглядалі асаблівасці правядзення кампаніі па вылучэнні на прэмію за 2011 — 2012 гады, маючы на мэце прыцягнуць шырокую грамадскую ўвагу да высокай узнагароды Саюзнай дзяржавы (памер кожнай прэміі — 180 тыс. у доларавым эквіваленце). Прынамсі, першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч звярнула ўвагу на важную ролю СМІ ў працэсе станаўлення Саюзнай дзяржавы. І выказала пажаданне, каб нашы СМІ больш абмяркоўвалі творчае жыццё, дасягненні творчых асоб, праблемы развіцця духоўных асноў саюза Беларусі і Расіі.

Пасяджэнне праходзіла ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі, спрадвек адкрытым для міжнароднага супрацоўніцтва, дзе толькі апошнім часам ажыццёўлена некалькі значных інтэрнацыянальных, у тым ліку беларуска-расійскіх, праектаў. Пра іх нагадаў намеснік генеральнага дырэктара НАВТ Валерый Гедройц.

Спецыяліст-эксперт аддзела сацыяльнай палітыкі Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы Людміла Курыловіч распавядала пра адметныя акцыі ў сферы культурных стасункаў дзвюх краін. Гэта Год культуры Расійскай Федэрацыі ў Беларусі і наш Год культуры ў Расіі; майстар-класы для навучэнцаў мастацкіх устаноў; стварэнне беларуска-расійскага маладзёжнага сімфанічнага аркестра; сумесны кінапраект "Брэсцкая крэпасць" ды інш. Расказаўшы пра парадак вылучэння твораў на саюзную прэмію, іх далейшага разгляду, адбору намінантаў і вызначэння лаўрэатаў (асобных выканаўцаў, аўтарскіх калектываў), Л. Курыловіч падкрэсліла, што цяпер адпаведныя прапановы можа ўносіць не толькі творчы саюз, а і кожная арганізацыя, якая працуе ў сферы культуры. Для гэтага трэба накіраваць заяўку ў Міністэрства культуры сваёй краіны да 1 лютага наступнага года. І яшчэ: летась зацверджаны дыплом намінанта для заахвочвання ўсіх вылучаных, нават калі яны не стануць лаўрэатамі.

Атрымалася даволі палемічная размова, удзельнікі якой, называючы прыклады супрацоўніцтва з расійскімі калегамі ў сферы фестывальнай, гастрольнай дзейнасці, у сумеснай падрыхтоўцы канцэртных праграм, тэатральных прэм'ер, сцвярджалі, што жаданаму пашырэнню і стабільнасці такіх кантактаў замінаюць фінансавыя праблемы. Выступоўцаў хвалявала не столькі тое, якія творы можна прапанаваць на атрыманне чарговай прэміі, колькі мажлівасць разлічваць на падтрымку з боку Саюзнай дзяржавы ў ажыццяўленні высокамастацкіх, значыць і высоказатратных, беларуска-расійскіх праектаў… А Пастаянны Камітэт адкрыты для творчых прапаноў.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: удзельнікі "круглага стала" спецыяліст-эксперт аддзела сацыяльнай палітыкі Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы Л. Курыловіч, першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Л. Ананіч і намеснік генеральнага дырэктара НАВТ оперы і балета Беларусі В. Гедройц.

Фота Віктара Кавалёва

Літ-абсягі

# Вершы і гваздзікі для Уладзіміра Караткевіча

У дзень нараджэння свайго вялікага сына Орша сустракала гасцей першым снегам. На беразе ракі ў парку, дзе некалі стаяў дом бацькоў Караткевіча і прайшлі першыя гады жыцця Уладзіміра Сямёнавіча, адбыліся літаратурныя чытанні "І не знікаць паэтам вечна". Вядучымі мерапрыемства сталі героі яго твораў: кароль Стах, Гервасій Выліваха, Бярозка, Юрась Братчык. Кожны выступоўца клаў да помніка чырвоныя гваздзікі. На свята прыехалі школьнікі з Лагойшчыны — і многія з іх здымалі выступленні ўдзельнікаў чытанняў на мабільныя тэлефоны, бо гэта была выдатная магчымасць павітацца і нават задаць некалькі пытанняў вядомым вучоным, паэтам, родным Уладзіміра Сямёнавіча...



Памяць пра Караткевіча захоўваецца аршанцамі — музей, школа і бібліятэка носяць яго імя. Да юбілею Уладзіміра Караткевіча Орша рыхтавалася старанна — цэлы тыдзень у горадзе праходзілі мерапрыемствы, прысвечаныя пісьменніку: літаратурна-музычныя гасцёўні, вечарыны, літаратурныя гадзіны, выстаўкі кніг і дзіцячых малюнкаў у музеі і бібліятэках. Афіша Палаца чыгуначнікаў запрашала паглядзець "Ладдзю роспачы" — пастаноўку Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Аршанскі тэатр "Белая пчала" прапанаваў гледачам батлейку "Казка чатырох чараўніц", а полацкі народны тэатр "Пілігрым" — п'есу А.Дударава "Вераб'іная ноч" (абедзве — паводле матываў твораў пісьменніка). Прайшоў у гарадскім Доме культуры паказ кінастужкі "Дзікае паляванне караля Стаха". На гэты тыдзень прыпалі і дзве прэзентацыі кніг — казак Уладзіміра Караткевіча "Лебядзіны скіт", якую аздобіў мастак Мікалай Купава, і аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха", выдадзенай Беларускім фондам культуры на чатырох мовах. Гучала шмат вершаў — з любоўю дэкламавалі творы Караткевіча школьнікі і настаўнікі, паэты, пісьменнікі. Вершы, прысвечаныя Уладзіміру Сямёнавічу, гучалі ў выкананні Сяргея Панізніка, Давіда Сімановіча, іншых удзельнікаў літаратурных чытанняў 26 лістапада ля помніка паэту і на ўрачыстым адкрыцці ІІІ Міжнароднай канферэнцыі "Уладзімір Караткевіч — глабальны погляд", на прэзентацыі зборніка членаў клуба паэзіі "Лотос" і сустрэчы з маладымі паэтамі — удзельнікамі літаратурнага конкурсу. Запомніўся аршанцам і гасцям горада святочны канцэрт "Быў. Ёсць. Буду." і "Беларуская песня" Зміцера Вайцюшкевіча на вершы Уладзіміра Караткевіча. Шмат народу сабрала ў Аршанскім музеі У.С.Караткевіча ўрачыстая цырымонія гашэння паштовых канвертаў з арыгінальнай маркай, прысвечаных 80-гадоваму юбілею пісьменніка, пры дапамозе спецыяльнага штэмпеля (распрацаваны з пэўнай нагоды, ён ліквідуецца адразу пасля мерапрыемстваў). Першы штэмпель даверылі паставіць пляменніцы Караткевіча Алене Сінькевіч. У цырымоніі прымаў удзел міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: урачыстая цырымонія гашэння паштовых канвертаў з арыгінальнай маркай. Пляменніца У.Караткевіча Алена Сінькевіч, дырэктар Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны Ірына Воранава, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка.

Фота Сяргея Сляпцова.

Арт-лінія

# Калі ласка, на «біс»!

"Такой праграмы ў нашых сценах дагэтуль не было", — з радасцю зазначыў мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Адам Мурзіч, прадстаўляючы журналістам гасцей з Францыі — удзельнікаў незвычайнага канцэрта.

У чым жа незвычайнасць? І ў нязвыклым рэпертуары. І ў тым, што аркестр тэатра параўнальна нядаўна, дзякуючы вядомаму праекту маэстра А. Анісімава, пачаў асвойтвацца ў новым і складаным для сябе амплуа — інтэрпрэтатара акадэмічных сімфанічных партытур. І ў тым, што яму ўпершыню давялося выступаць пад кіраўніцтвам замежнага дырыжора, упершыню граць у партнёрстве з іншаземным піяністам, які супрацоўнічае са знанымі творчымі калектывамі.

Праграма складалася з выбітных, прыгожых і папулярных узораў класікі: Сімфоніі № 9 ("З Новага Свету") А.Дворжака і Трэцяга фартэпіяннага канцэрта С.Рахманінава. Да прыезду гасцей музыканты рыхтавалі матэрыял пад кіраўніцтвам маладога дырыжора тэатра Юрыя Галяса. А знайсці агульную мову з французскімі партнёрамі аказалася проста: маэстра Рыгор Пенцеляйчук і саліст Дзмітрый Найдзіч — парыжане ўкраінскага паходжання, "народжаныя ў СССР".



Дарэчы, даўно жывучы за мяжой, яны ўспрымаюць як норму надзвычай патрабавальнае, ды ў той жа час вельмі пачцівае і трапяткое тамтэйшае стаўленне да культурных каштоўнасцей, да класічнага мастацтва, да творчага чалавека. Але яны, як ніхто іншы, разумеюць сённяшнія эканамічныя праблемы ў нашай культуры, якія адчуліся падчас першай жа рэпетыцыі. Высветлілася, што тэатральны раяль, прызначаны для саліста, не адпавядае ўзроўню паўнавартаснага фартэпіяннага выканальніцтва, што на "скрынцы з клавішамі" належным чынам сыграць такі шэдэўр, як Канцэрт Рахманінава, проста немагчыма. Марнаю аказалася спроба кіраўніцтва тэатра ўзяць у арэнду інструмент з іншых музычных устаноў, а "банк канцэртных раяляў" у сталіцы не створаны (ёсць нагода задумацца пра гэта)... "Але ж як прафесіянал я мушу нават у экстрэмальных умовах выступаць перад публікай, якая мяне чакае", — пракаменціраваў сітуацыю Д.Найдзіч і ўрэшце пацвердзіў сваю бліскучую рэпутацыю выступленнем перад нашымі захопленымі меламанамі.

Наступным вечарам віртуозны і артыстычны парыжанін, які "не можа зрабіць выбар" і змушаны "дзяліць сябе" паміж акадэмічным выканальніцтвам, джазам, аўтарскімі музычна-тэатральнымі спектаклямі, граў ужо на сучасным канцэртным раялі. У Віцебску. Туды П.Пенцелейчука і Д.Найдзіча разам з аркестрам БДАМТ запрасілі арганізатары XXII Міжнароднага музычнага фестывалю імя І.Салярцінскага... Госці паехалі, пакінуўшы сваім беларускім прыхільнікам надзею на новы творчы візіт.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: мастацкі кіраўнік БДАМТ Адам Мурзіч і госці з Францыі — дырыжор Рыгор Пенцеляйчук ды лаўрэат міжнародных конкурсаў піяніст Дзмітрый Найдзіч.

Фота Віктара Кавалёва

Повязі

# У казачным свеце сербаў

Надзвычай цікавым мерапрыемствам Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі стаў вечар "Падарожжа ў свет сербскай казкі". На ім адбылася жывая і зацікаўленая гаворка пра дзве перакладныя кнігі — "Мовы ўсяго жывога. Сербскія народныя казкі" (выдавецтва "Мастацкая літаратура", 2007) і зборнік літаратурных казак слыннай сербскай пісьменніцы Грозданы Олуіч "Нябесная рэчка" (выдавецтва "Літаратура і Мастацтва", 2009).

Старшыня таварыства "Беларусь — Сербія" — ён жа укладальнік і перакладчык абедзвюх кніг — акадэмік Сербскай акадэміі навук і мастацтваў І.Чарота вёў вечар і грунтоўна выклаў, што ўяўляе сабою сербскі казачны эпас як феномен, а таксама ў чым выяўляецца яго ўплыў на мастацкую літаратуру. Публіка, што называецца, была падрыхтавана да таго, каб належным чынам асэнсоўваць мастацтва слова сербаў, асаблівасці іх светаадлюстравання, духоўна-маральныя ідэалы.

Значэнню еднасці, актыўнага супрацоўніцтва паміж літаратурна-выдавецкімі суполкамі і, адпаведна, узаемаўзбагачэння братніх народаў прысвяціў сваю змястоўную прамову дырэктар РВУ "Літаратура і Мастацтва", галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" А.Карлюкевіч.

Экскурсаводамі па чароўным казачным свеце сербаў сталі студэнты-сербісты БДУ Юлія Галяк, Кацярына Гусянкова, Анастасія Майсюк, Наталля Мацюшэўская, а фрагменты казак чыталі іх калегі Яна Гоціна, Ганна Суман, Ірына Прыстром.



Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Сербіі доктар Срэчка Джукіч, узяўшы заключнае слова, падзяліўся асабістым вопытам, як ён з маленства і да цяперашняга часу ўспрымае казкі — і народныя, і літаратурныя. Высокі дыпламат асабліва падкрэсліў ролю казак у выхаванні гарманічнай асобы чалавека і выказаў шкадаванне, што ў сучасных умовах гэты фактар ігнаруецца.

Аздобіў вечар народны ансамбль "Світанак" пад кіраўніцтвам Надзеі Хоміч. Гэты творчы гурт, які летам пабываў у Сербіі, натхнёна выконваў і беларускія, і сербскія песні, кожным нумарам сваёй праграмы нагадваючы пра яднанне і сяброўства.

А. І.

На здымку: прафесар Іван Чарота і Пасол Сербіі доктар Срэчка Джукіч.

Фота Кастуся Дробава

З-пад пяра

Творчая сустрэча паэтэсы Валянціны Паліканінай з чытачамі адбылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Вельмі артыстычна, пранікнёна чытала Валянціна Пятроўна вершы, адказвала на пытанні. Намеснік дырэктара ўніверсітэцкай бібліятэкі Ірына Стралкова выканала пад гітару песню "Дзве душы" на словы паэтэсы. Артысты тэатра "Вуліца" паказалі фрагменты паэтычнага спектакля на яе вершы. Першапачаткова пастаноўкі рабіліся толькі паводле творчасці Паліканінай. Дарэчы, і назву тэатру даў аднайменны верш паэтэсы.

Таіса ГУРКО-СУПРАНОВІЧ

Латвійскае таварыства беларускай культуры "Світанак" у Рызе правяло чарговае мерапрыемства — урачыстую вечарыну, прысвечаную 130-годдзю педагога, фалькларыста Сяргея Сахарава, які ў 1921 годзе ўзначаліў Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвіі. Пяшчотна гаварылі беларусы Рыгі і пра сёлетніх юбіляраў, выдатных майстроў беларускага пісьменства Ларысу Геніюш і Уладзіміра Караткевіча. Прагучалі галасы Ларысы Антонаўны і Уладзіміра Сямёнавіча, запісаныя ў 1968 годзе. Парадавалі нашых землякоў песні прафесійнай спявачкі Людмілы Ігнатавай, а таксама галасістыя ўдзельнікі самадзейнага ансамбля пры таварыстве "Світанак".

Сяргей ПАНІЗНІК

Юнакі і дзяўчаты Ляхавіцкага раёна выступілі ініцыятарамі цікавай акцыі. Гэтай восенню яны наведаліся ў вёску Фляр'янава, што непадалёку ад Ляхавіч, каб назбіраць жалудоў з магутнага дуба, які сёння з'яўляецца адной з галоўных фляр'янаўскіх славутасцей. Калісьці, гасцюючы ў сядзібе сваіх сяброў, пана і пані Бохвіцаў, гэты дуб пасадзіла на памяць пра сябе сусветна вядомая пісьменніца-раманістка Эліза Ажэшка. Назбіраныя з Дуба пані Элізы жалуды плануецца вясною выкарыстаць дзеля ўтварэння сквера ў гонар пісьменніцы.

Фёдар ЛАПАНІК

Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь знаёміць наведвальнікаў з творчасцю маладых і таленавітых дызайнераў адзення. На адмысловую выстаўку, ініцыятарам якой выступіў кіраўнік цэнтра маладзёжнай моды Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандр Варламаў, патрапілі камплекты з нацыянальнага фестывалю-конкурсу моды і фота "Млын моды-2010", а таксама адзення з фонду "Беларускага Цэнтра моды". Экспанаты сапраўды скараюць і прыцягваюць. Напрыклад, калекцыя Марыны Дзейкун стваралася на аснове гістарычных касцюмаў Францыі XVII стагоддзя. Вынікам супрацоўніцтва музея і беларускай fashion-індустрыі можа стаць адкрыццё ў 2012 годзе на яго базе залы беларускай моды.

Ілона КУПРЭЙЧЫК

"Абуджаць у чалавеку Чалавека" — менавіта гэтак называлася літаратурная вечарына, якая адбылася ў дзіцячай бібліятэцы № 4 г.Мінска. А званым госцем на ёй стаў вядомы паэт і празаік Міхась Пазнякоў, які выступіў перад вучнямі 11-х класаў сталічных СШ № 61 і № 90. Загадчык бібліятэкі Людміла Бусел прадставіла школьнікам паважанага літаратара, прачытаўшы яго вершы і кароткія апавяданні пра чалавечую дабрыню, чуйнасць і спагаду. Нібы зачараваныя слухалі старшакласнікі аповед пісьменніка пра яго родны кут, вучобу і працу, пра беларускую мастацкую літаратуру... Пісьменнік вёў са школьнікамі размову на роўных, і яны не саромеліся задаваць пытанні.

Павел КУЗЬМІЧ

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне дырэктару РУП "Дом прэсы" Віталю Аляксеевічу Назаранку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю СЫНА.

# Дзе схаваны д'ябал,

## або Пра некаторыя хібы ў кіраўніцтве Саюза беларускіх пісьменнікаў

**Жыццё ў пісьменніцкім асяродку — заўжды прадмет завостранай увагі грамадскасці. Часам — занадта пільнай і вельмі патрабавальнай. Але гэта не выпадкова. Мастакі слова ва ўсе гады свайго служэння чытачу, народу неслі асаблівую адказнасць за напісанае і здзейсненае. Відавочна, што з гэтай пазіцыі і падыходзіць да ацэнак работы кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў старшыня рэвізійнай камісіі СПБ, вядомы публіцыст і празаік Васіль Якавенка.**

Каго як, а пісьменнікаў у народзе заўжды шанавалі, як шанавалі наогул таленавітых людзей — каваль ён альбо майстар слова. Пісьменнікі надзелены праявамі вышэйшага духу. Самі ж яны, ведаючы, што адораныя Божаю ласкай, імкнуліся стаць не столькі поплеч з багамі, колькі, у дасціпнай фантазіі, спусціць багоў на зямлю, надаючы ім рысы і характары супляменнікаў. Дастаткова згадаць ананімныя паэмы "Энеіда навыварат", "Тарас на Парнасе"… Іх стваральнікі-дойліды не шкадавалі пры гэтым сатыры і для сваіх паплечнікаў. А ў мінулым стагоддзі была створана сатырычная паэма "Сказ пра Лысую гару", у якой зусім зняты арэол таямнічай і гордай славы з літаратараў, адбылося заземленне іх у дробныя жыццёвыя клопаты ды побытавыя варункі — гратэск.

Але мала што там было. Пісьменнікі ўсё ж трымалі гонар нацыянальнай творчай арганізацыі. Яны трымалі свой гонар нават ва ўмовах, калі парушылася Савецкая імперыя і новая ўлада, прыйшоўшы на зломе эпох, упарта спрабавала рэстаўрараваць аджылае.

Тое, пра што пойдзе гаворка ніжэй, нібыта не для шырокага друку, тым не менш, паколькі гэтая тэма закраналася і раней (глядзі "Народную волю", 7 верасня 2010 г.), нам не выпадае абмінаць увагай гэткі абсяг. Тэма ж патрабуе паглыбленага аналізу.

Не, гэта ўжо не гумар і не сатыра, гэта чыстая драма, якую перажывае Саюз беларускіх пісьменнікаў, прычым цяпер не столькі з-за блакады звонку, колькі па суб'ектыўных прычынах, па неабачлівасці, па розных хібах ягонага кіраўніцтва. Дарэчы, зазначу, аўтары артыкула "Мільянеры-жабракі, або Дзіўнае існаванне Саюза беларускіх пісьменнікаў" Э. Ялугін і інш. спанатраныя ў жыцці і творчасці людзі, яны працяглы час ведалі свайго кіраўніка А. Пашкевіча блізка, працавалі з ім поплеч, па-рознаму перажывалі за агульную справу. Іх сумленнасці і прынцыповасці можна даваряць без усялякіх агаворак. Здавалася б, зрэшты, — як даваряць і тым падпісантам з прадстаўнічага пісьменніцкага органа, зноў жа каларытным асобам… Жалю варта, аднак калі матухна праўда і начавала ў "Заяве" шаноўнай Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў ("Народная Воля" за 21 верасня 2010 г.), то рана рушыла.

Што ж насамрэч адбываецца?

Рэвізійная камісія, абраная на з'ездзе і падначаленая выключна з'езду, выказала Радзе СБП у рапарце за 20 красавіка гэтага года сваю заклапочанасць злоўжываннем службовым становішчам кіраўніка А. Пашкевіча ды растранжырваннем ім грамадскіх сродкаў. Тады на пасяджэнні Рады ўсёткі хапіла мудрасці (па прапанове Генадзя Бураўкіна) не пакінуць рапарт без увагі і даручыць сакратарыяту сустрэцца з рэвізійнай камісіяй, вывучыць прэтэнзіі.

Толькі ж А. Пашкевіч у шапку не спаў, ён сфальсіфікаваў рашэнне Рады на сваю карысць і абвясціў праз колькі дзён у літаратурным дадатку да газеты "Новы час", што Рада прыняла пастанову аб поўным даверы яму. На падман чытачоў і перш-наперш сяброў саюза Рада ніяк не адрэагавала. Гэтую яе пасіўнасць вельмі цяжка вытлумачыць з пазіцый абароны ёю інтарэсаў простых членаў аб'яднання і ўсёй пісьменніцкай арганізацыі. Між тым менавіта абыякавасць Рады дала зялёнае святло далейшым дзеянням старшыні саюза: парушаючы Статут арганізацыі, Пашкевіч увогуле адмовіўся ад далейшага супрацоўніцтва з рэвізійнай камісіяй, прычым напісаў і разаслаў сябрам рэвізійнай камісіі скаргу на яе старшыню. Марна...

Як рэагаванне на дэструктыўную дзейнасць кіраўніка аб'яднання і наогул драму, якую паўтара дзесяцігоддзя перажывае творчае аб'яднанне, і з'явіўся трывожны артыкул "Мільянеры-жабракі…".

Тады на прынцыповыя крытычныя заўвагі па ягоным адрасе спадар Пашкевіч падрыхтаваў адказ і паспрабаваў склікаць Раду, каб усе падпісаліся пад тэкстам. На заклік старшыні, аднак, сабралася ўсяго 8 чалавек (з 30, што застаюцца ў складзе Рады), яны падпісалі "Заяву", і дзейны Алесь кінуўся далей па кватэрах радцаў, дзе ўгаворваў і знайшоў яшчэ 8 заступнікаў.

У тэксце "Заявы Рады" амаль скрозь дапускаецца свядомы сэнсавы перакос. Да прыкладу, сцвярджаецца: аўтары артыкула "Мільянеры-жабракі…" усю віну і адказнасць за недахопы ў працы Саюза беларускіх пісьменнікаў цягам двух дзесяцігоддзяў ускладваюць на цяперашняга кіраўніка…

Ого! Тое было б зусім не паджэнтльменску. Да цяперашняга кіраўніка прад'яўляюцца канкрэтныя, а не размытыя ў часе прэтэнзіі, у тым ліку фінансавыя: па сённяшні дзень рэвізійная камісія не атрымала ад спадара Пашкевіча пісьмовага тлумачэння, куды дзеліся сродкі ў суме 410 тысяч расійскіх рублёў, атрыманыя саюзам ад Міжнароднага літаратурнага фонду ў 2007 — 2008 гадах. Дзеля прыклёпу, няйначай, у "Заяве Рады" згадваецца кніга В. Быкава "Парадоксы жыцця", выдадзеная на сродкі таго ж МЛФ шэсць гадоў таму. А дзе ж пазнейшыя сродкі? Куды яны пайшлі?

Версія. Падказалі яе пісьменнікі, якія жывуць непадалёк ад Пашкевіча. Ён — як сапраўдны гаспадар і ўласнік — пашырыў жылплошчу, купіў сабе ў Мінску трохпакаёвую кватэру, зрабіў у ёй еўрарамонт…

Маладая сям'я Пашкевіча, напэўна, мела патрэбу ў новай кватэры, і я не ханжа, тыя грошы маглі б законна пайсці на сямейныя клопаты пры адной умове — рашэнні Рады, з улікам ягоных, скажам, выключных заслуг перад беларускай літаратурай і СБП… Але ж па згаданай суме Рада ніякіх рашэнняў не прымала, відаць, наогул пра грошы нічога не ведала. Пэўна, таму А. Пашкевіч на першы ж запыт рэвізійнай камісіі, куды падзеліся 410 тысяч расійскіх рублёў, хлусліва заявіў: "ГА СБП указаныя сродкі ад Міжнароднага літаратурнага фонду не атрымлівала". І далей, калі пісьменнікам удалося публічна выкрыць ману, ён з пакрыўджаным тварам звярнуўся да заступніцтва Рады.

Подпісы пад "Заявай Рады", канечне, уражваюць — лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі, народны паэт… Відавочна, парад мундзіраў тут павінен закрыць сабой прабоіну



ў цёмных справах старшыні, прыкрыць яго грамадзянскую непрэзентабельнасць. Толькі ж не варта забываць, што і "давер Рады" не вызваляе кіраўніка ад справаздачы перад рэвізійнай камісіяй. А стаўшы на абарону сумніўных фінансавых аперацый Пашкевіча, усе шаснаццаць членаў Рады самі выглядаюць далёка не лепшым чынам. Дзе ж тыя вышыні маралі, за якія пісьменнікі змагаюцца?!. Сумна, спадарства, сумна.

Ужо проста няўклюднымі і сляпымі да жалю падаюцца тыя інсінуацыі (іх няможна нават назваць крытычнымі заўвагамі), што скіраваны ў бок І. Пераверзіна, чалавека-стоіка, кіраўніка МСПС і МЛФ, абараняючага законныя інтарэсы шматлікіх пісьменніцкіх суполак і іх сяброў у былой савецкай прасторы. Такая рэакцыя радцаў незразумелая асабліва пасля таго, як адтуль былі атрыманы і моўчкі патрачаны сумы, эквівалентныя прыблізна 14 тысячам долараў. Беларускія пісьменнікі, зазначу, заўсёды мелі ад МЛФ падтрымку. А народная мудрасць павучае: не плюй у калодзеж…

Недасведчанасць шаснаццаці членаў Рады заключаецца і ў тым, што кантакты з Іванам Пераверзіным перапыніліся не ў момант, калі ён "заплюшчыў вочы на незаконны пераслед беларускіх літаратараў і ўзяў удзел у заснаванні ў Мінску так званага Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі", а гады на два-тры раней. Алесь Пашкевіч пазбягаў сустракацца з Пераверзіным, нават калі той запрашаў яго ў Маскву на важныя мерапрыемствы. Не паехаў Пашкевіч і на жалобную паніхіду па смерці С. Міхалкова. Не жадаючы бачыць Пераверзіна, адмовіўся зноў жа ад удзелу ў канферэнцыі Міжнароднай садружнасці пісьменніцкіх саюзаў — паслаў за сябе А. Данільчыка з цвёрдым наказам: не галасаваць за Пераверзіна ў час пераабрання старшыні гэтай арганізацыі. Справа ў тым, што спадару Пашкевічу, як і некаторым ягоным паплечнікам у Маскве, патрэбен быў хтосьці іншы, а не Пераверзін на гэтай ключавой, вырашальнай пасадзе. І таму да палітычных стасункаў дзвюх дзяржаў фінты Пашкевіча ніякіх адносін не мелі і не маюць.

Шкада, вельмі шкада, што сябры Рады падтрымліваюць зманлівую інфармацыю, якая вешаецца, як локшына, ім на вушы. З іншага боку, як сведчаць размовы Пашкевіча з найбольш даверанымі яму асобамі, кіраўнік саюза ганарыцца сваім уменнем маніпуляраваць супольнай думкай радцаў, маўляў, рабіць гэта ўжо не так і складана, асабліва калі мець у кішэні "цукерку".

Зноў жа да "фінансавай гераікі" кіраўніцтва саюза належыць аднесці стварэнне сайта www.litbel.org. Саюзу пашчасціла атрымаць спонсарскую дапамогу ў суме больш як 40 мільёнаў беларускіх рублёў! За гэтыя грошы можна было б зрабіць шмат прыстойных сайтаў. У СБП стварылі адзін, дый то недарэчны; на ім нават Статут саюза немагчыма паглядзець, як, зрэшты, і нумар (хоць які) літаратурнага часопіса "Дзеяслоў" за апошнія два-тры гады!

На Радзе ў свой час узнікла пытанне: куды пайшлі грошы, выдзеленыя на гэты праект? "На аплату працы", — адказваў сцішаным, няпэўным голасам адзін з наменікаў, які карыстаецца асобым даверам у Пашкевіча. Вынік… Заробак хлопцы мелі, а патрэбная праца не выканана. Сайт застаўся далёка не завершаным.

У чым я пераканаўся, добрая палова з тых 16 падпісалі "скляпаную" на скорую руку А. Пашкевічам заяву не паводле сваіх высокіх прынцыпаў, а насуперак ім — з пачуцця локця. Адзін з іх на пастаўленае субяседнікам пытанне шчыра патлумачыў свой учынак: "Я хачу есці хлеб з маслам, а каб не падпісаў, быў бы выкінуты за борт".

У "Заяве Рады" зазначана: разам з А. Пашкевічам былую запазычанасць па зарплаце ад Беллітфонду праз ліквідацыйную камісію "атрымалі каля двух дзясяткаў супрацоўнікаў Беллітфонду", у тым ліку, вядома ж, і В. Хурсік. Віктар Хурсік сапраўды атрымаў сто тысяч рублёў і цяпер шкадуе, што не перадаў іх Вячаславу Дубінку, — не ведаў…

Па пісьмовай дамове, заключанай старшынёй Беллітфонду А. Пашкевічам з В. Дубінкам, апошні вырабіў у скураным пераплёце новыя членскія білеты СБП дый іншыя заказаныя яму мастацкія рэчы. Пашкевіч павінен быў аплаціць закупленыя Дубінкам матэрыялы і ягоную працу сумай, якая складалася з 3,5 мільёна беларускіх рублёў. Толькі ж пісьменнік Дубінка, які жыў небагата, не атрымаў ні капейкі і пры кожным звароце да Пашкевіча чуў адно ў адказ: "Няма грошай!". На самай справе А. Пашкевіч проста не падаў на В. Дубінку ў ліквідацыйную камісію дакументы. Сам жа ён без усялякіх клопатаў атрымаў не 3,5, а больш як 23 млн. рублёў.

Вось так, зусім не паймеўшы належнае за працу, і пайшоў нядаўна на той свет наш слаўны і сціплы чалавек. Пра яго проста не было клопату…

Яшчэ адзін штрых: пісьменнік Э. Ялугін перадаў асабіста А. Пашкевічу грошы за новы членскі білет, аднак не атрымаў ад куміра Рады ні білета, ні грошай назад.

Як кажуць, д'ябал схаваны ў дробязях. Дый ці такія то дробязі? На пісьменніцкім сайце няма нават інфармацыі шмат пра якіх членаў творчага аб'яднання, прынятых Радай (без прыёмнай камісіі, дарэчы) у апошнія два-тры гады. І няма таксама абяцанай А. Пашкевічам кнігі пра Б. Кіта. Урэшце, як у насмешку, замест выдання падрыхтаванай паўнавартаснай кнігі пра найвыдатнага земляка — з нагоды ягонага 100-гадовага юбілею — А. Пашкевіч амаль год абяцае выдаць то кнігу, то буклет (на тыя тры тысячы долараў, якія атрымаў), то зноў кнігу… І на гэта наша "літаратурная дума" не знаходзіць у сабе натхнення, каб адрэагаваць.

Аднойчы на пасяджэнні Рады СБП я паставіў пытанне аб даўно наспелым — выданні новага тэлефоннага даведніка сяброў саюза, бо існуючы даведнік на працягу чвэрткі веку не перавыдаваўся. А. Пашкевіч тут жа парыраваў: "Васіль Цімафеевіч, калі ў вас ёсць грошы, давайце будзем выдаваць!". І гэта ў той час, калі кіраўніцтва саюза, тоячыся ад калег, атрымлівала мільёны… А падобны даведнік — элемент арганізацыйнай работы, грамадскага клопату; калі ён адсутнічае, тады, наадварот, гэта сведчыць пра нядбайнасць у рабоце з пісьменнікамі. Урэшце, пасля неаднаразовых напамінаў А. Пашкевічу гэты даведнік нібыта рыхтуецца.

Калі шчыра, тыя словы кіраўніка саюза яскрава адкрылі для мяне ўсю сутнасць яго надта супярэчлівай натуры. Здзівіла і дзівіць, чаму сябры Рады гэтак пасіўна і абыякава ставяцца да прынцыповых пытанняў жыцця аб'яднання? Нават не пацікавіліся, дзеля чаго кіраўнік саюза адкрываў рахунак у Гродне.

Адказ на гэта, па-мойму, утрымліваецца ў артыкуле "Мільянеры-жабракі": СБП хутчэй за ўсё нагадвае напаўлегальнае прыватнае прадпрыемства спадара А. Пашкевіча! Менавіта таму ў яго самога няма ніякага інтарэсу да арганізацыйнай работы саюза пісьменнікаў. Таму і ніякага зрушэння душы пры маім напаміне, напрыклад, пра 80-гадовы юбілей Алеся Петрашкевіча; ні

разу за дзесяць гадоў не запрасілі хоць на якое-небудзь мерапрыемства і такую вядомую пісьменніцу, як Лідзія Арабей, не павіншавалі яе ні з 80-годдзем, ні з 85-годдзем… Карціна тыповая.

Па маіх назіраннях, з паўторным абраннем Пашкевіча на пасаду старшыні пачаўся працэс карпаратывізму, калі сплятаюцца фінансавыя і творчыя інтарэсы, а вярхушка СБП, як правіла, абслугоўвае сваіх прыхільнікаў-сябрукоў, забываючы пры гэтым пра астатні склад аб'яднання. У такім выпадку нават некаторыя сябры Рады могуць і не ведаць пра адмысловасць свайго творчага аб'яднання, якое ў паперах, што падаюцца ў Мінюст, дый у вачах недасведчаных грамадзян лічыцца даволі плённым, прыстойным, спаважным. Думную "карпарацыю" больш не цікавіць лёс грошай Беллітфонду, якія належаць яго былым сябрам, пісьменнікам — з Рады нібыта і без таго стае.

Згадаю яшчэ адзін барабанна-гучны момант з той жа "Заявы Рады" пра поспехі саюза. Удумайцеся: толькі за апошнія два гады творчы саюз змог правесці каля паўтары тысячы сустрэч пісьменнікаў з чытачамі амаль ва ўсіх рэгіёнах краіны! Упускаецца тут адна "дробязь": за што, якія шышы? Дый тыя сустрэчы арганізоўваліся не столькі саюзам, колькі згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", а ўдзельнікамі акцыі былі не сотні членаў саюза, не, — усяго невялікае кола пісьменнікаў-радцаў або літаратараў, блізкіх да Рады.

Усё было б і нябласа, калі б кіраўніцтва аб'яднання заўсёды было шчырым і паважлівым да сваіх калег. Навошта, скажам, апраўдвацца ў законнасці сваіх дзеянняў, калі Пашкевіча абралі старшынёй Беллітфонду па сумяшчальніцтве насуперак патрабаванням Статута. Тут не спрацацца трэба, шаноўныя мэтры-радцы, падпісанты "Заявы", а ўзяць у рукі Статут Беллітфонду і прачытаць, перш чым станавіцца ў позу і даводзіць абсурднае.

Я ўжо выказваў сябрам рэвізійнай камісіі свае меркаванні, і яны са мной пагадзіліся. Калі кіраўніцтва грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў" працуе не ў прававым полі, як, да прыкладу, ТБМ імя Ф. Скарыны, то рэвізійная камісія пачувае сябе няпэўна. Яна становіцца пятым колам у самаробным вазку карпаратыўных інтарэсаў, і ў такім выпадку рэвізійную камісію наогул не варта выбіраць.

Можна доўга шукаць катоў пад лавай, задавацца пытаннем, каму было выгадна друкаваць артыкул "Мільянеры-жабракі…", як і гэты мой артыкул, але ж адказ па вялікім рахунку будзе адзін — нашаму грамадству. Нельга стаць уладарамі душ, парушаючы тое, на чым душы трымаюцца. Нельга весці за сабою народ, патураючы раскрадванню грамадскіх сродкаў, жульніцтву і незнарок дэградуючы.

І апошняе. Свой пасаж "Каму гэта выгадна?" шаснаццаць членаў рады павінны былі б адрасаваць кіраўніку саюза А. Пашкевічу, паколькі ён звёў ролю грамадскага аб'яднання да нуля. Намі ўсімі ў грамадскай дзейнасці павінен кіраваць самы шчыры клопат пра стан спраў у творчай прафесійнай суполцы і нацыянальнай літаратуры. Прыклад папярэднікаў абавязвае.

Прапаную Радзе разгледзець пытанне аб адстаўцы дзеючага старшыні СБП і правядзенні датэрміновага з'езду Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Васіль ЯКАВЕНКА,
старшыня рэвізійнай камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў

**Уладзімір ШУГЛЯ — назіральнік на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад Расійскай Федэрацыі. Грамадзянін Расіі, беларус, Уладзімір Фёдаравіч жыве ў Цюмені. Добра вядомы ў дзелавых колах па тых праектах, якія запачаткаваў па наладжванні супрацоўніцтва Цюменскай вобласці і Беларусі. Да таго ж, у сібірскім рэгіёне працуе шмат беларусаў. Тых, хто ў розныя часы, знаходзячыся на скрыжалях гістарычных падзей, звязаў свой лёс з гэтымі мясцінамі.**



# Усвядомлена і ўрачыста

І беларускае слова самаходзь прамаўляюць тут амаль з той жа фанетыкай, згадваючы беларусаў-самаходаў, тых сялян-перасяленцаў, якія ў другой палове XIX стагоддзя па розных прычынах ажыццяўлялі свой паход у Сібір, сяліліся тут цэлымі сем'ямі. Ганаровы Консул Рэспублікі Беларусь у Цюменскай вобласці Уладзімір Шугля ўдакладняе: "На сённяшні дзень у вобласці пражываюць каля 50 тысяч беларусаў. І ў мінулым, дваццатым стагоддзі, калі Заходнесібірскі нафтагазавы комплекс асвойваў увесь Савецкі Саюз, тут таксама шмат дапамагалі беларусы. Горад Лангепас і цяпер называюць беларускім — усе будаўнікі былі з гэтага краю".

Старшыня савета "Саюза інтэграцыі братніх народаў" Уладзімір Шугля — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, часта наведвае Беларусь. Якраз гэтымі днямі, 21 — 24 снежня, праходзіла абмеркаванне і падпісанне дамовы паміж прадстаўнікамі Цюменскага дзяржаўнага ўніверсітэта, якія прыехалі сюды дэлегацыяй, і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У эканамічнай сферы, як заўважыў Уладзімір Фёдаравіч, "не толькі вядуцца перамовы, а мы прайшлі ўжо гэтую стадыю і адкрылі сервісны цэнтр Мінскага трактарнага завода, Мінскага аўтамабільнага завода, у нас створана зборачная вытворчасць Магілёўліфтмаша. Цяпер па дарогах Цюмені ездзяць 41 аўтобус-МАЗ, 47 трактароў Мінскага трактарнага завода, закупленыя толькі за 2 апошнія месяцы. І вырашаецца пытанне пра адкрыццё зборачнай вытворчасці Гомсельмаша". Вельмі актыўна ідзе гандаль таварамі народнага спажывання. І самае галоўнае — мы ідзём па ўсіх напрамках культурнага, гуманітарнага супрацоўніцтва.

"Вось зусім нядаўна прыязджаў да нас пісьменнік Сяргей Трахімёнак, мы арганізоўвалі літаратурную вечарыну з яго ўдзелам, гэта было літаральна некалькі месяцаў таму — згадвае Уладзімір Фёдаравіч. — Беларускія выданні трапляюць на паліцы кнігарань, у нас вельмі шмат кніг, выдадзеных мінскімі выдавецтвамі. Шмат духоўнай літаратуры ад Выдавецтва Беларускага Экзархата. Раз на два гады праходзяць Дні беларускай культуры. Не радзей, чым раз у два гады праходзіць абмен дэлегацыямі дзелавых колаў Беларусі і Цюмені".

Уладзімір Шугля (другі ўжо раз) быў назіральнікам на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Разам з трыма калегамі з Валагодскай вобласці наведалі 10 выбарчых участкаў у Барысаўскім раёне. "Мая мама з Барысава, тата — з Карэлічаў, вось і папрасіўся назіральнікам у родныя мясціны, — распавядае Уладзімір Фёдаравіч. — Нідзе парушэнняў заканадаўства не заўважыў".

— Што з'яўляецца найбольш складаным у місіі назіральніка?

— Цяжкасцей асаблівых, пэўна, няма. Мы прысутнічаем, сустракаемся з людзьмі, бачым іх настрой. Усё прайшло спакойна і ўрачыста, акрамя таго, што адбылося ў Мінску на плошчы перад Домам Урада. А праца наша пачыналася з самага рання і да закрыцця ўчасткаў.

— Як вы ацэньваеце сам ход і вынікі выбараў? Ці змянілася што ў паводзінах беларусаў, калі іх увага была скіравана да палітыкі?

— Ведаеце, было прыемна адчуваць той дух, які валадарыў на выбарчых участках. Для людзей гэта свята! Мы атрымліваем шмат інфармацыі, аналізуем. Выбарчая кампанія была добра арганізаваная, па ўсіх правілах. Людзі адкрыта выказваліся і былі ўпэўненыя ў сваіх памкненнях. Я думаю, беларусы зрабілі правільны, усвядомлены выбар. І таму я станоўча ўспрымаю палітычнае будучае Беларусі.

— Што найбольш запомнілася з тых дзён, якія вы правялі ў Беларусі ў якасці назіральніка?

— У Барысаўскім раёне запомнілася вёска Зембін — адно са старажытных мястэчак. Там выбарчы ўчастак быў, і мы наведалі музей карцін французскай мастачкі, беларускі Хадасевіч-Лежэ.

Не чакаў, што такая карцінная галерэя можа быць у вёсцы. Такім высокім узроўнем культуры можна толькі захапляцца! Прычым, што характэрна, гэта не адзіны музей у сельскай мясцовасці на Барысаўшчыне. Да ўсяго, мы пабачылі помнік ахвярам вайны 1812 года каля вёскі Брылі Барысаўскага раёна. Гэта ўражвае. Так што мы не толькі папрацавалі, але і ўбачылі шмат культурных набыткаў. На многіх участках былі канцэрты, людзі слухалі, глядзелі.

У самім жа Барысаве яшчэ правёў перамовы з прадстаўнікамі райвыканкама пра далейшае супрацоўніцтва ў галіне гандлёва-эканамічных сувязей.

Ірына ТУЛУПАВА

# Ідзе, жыццём асветлены…

Ніводнага разу з тае пары, як працавалі разам на чале з выдатным вучоным-педагогам і рэдактарам Анатолем Сабалеўскім у часопісе "Тэатральная Беларусь", не бачыў Івана Стадольніка злаславым. Заклапочаным назіраў, а злаславым — не.

Нехта пра яго так і сказаў: "Беларускі менталітэт". Па праўдзе кажучы, такія ярлычкі не люблю. Менталітэт — не наша слова. Ды і асацыяцыя: мента — прылада біць мух. А ён і гэтую надакучлівую пачварку не пакрыўдзіць. Тут, напэўна, нейкія гены перадаліся.

У аўтабіяграфіі Іван Стадольнік напісаў: "Дзядуля быў зусім непісьменны. Але калі ў царскую вайну забралі ў войска, яму прысвоілі чын капрала толькі за тое, што ён меў багата зямлі. Чамусьці царскія камандзіры лічылі, што шматзямельныя хлопцы больш здатныя ваякі, чым малазямельныя. Але ваякам дзядуля аказаўся кепскім: забіць чалавека для яго быў смяротны грэх. І калі гучала каманда "плі!", ён хрысціўся, заплюшчваў вочы і пускаў кулю ў белы свет". Вось такі "пацыфізм".

А ў натуры Івана Стадольніка гэта рыса характару мае выразную акрэсленасць: ён усяму жывому спагадае дабра.

Бацька Івана загінуў пры штурме Кёнігсберга 8 красавіка 1945-га, хату са звонкага докшыцкага бярвення, якую Кастусь пабудаваў перад вайной, разам з усёй вёскай спалілі фашысты.

Сям'я жыла ў суседзяў. У першым класе правучыўся Іван толькі да зімы, пакуль можна было хадзіць басанож. А чытаць будучага пісьменніка навучыла цётка Гелена, якая пры цары яшчэ скончыла чатыры класы школы. Вучыла па малітоўніку. Маці, шчырая вернiца, была ўсцешаная.

Грошы на "Буквар" ды на сшыткі зарабіў сам — здаваў жалязякі на металалом, косці, адбываў за некага радоўку, пасвячы кароў.

Пасля школы працаваў у калгасе, ды вырашыў шырэйшы свет асвоіць — падаўся ў Казахстан на цалінныя і залежныя землі.

У Какчатаўскім стэпе Івана залічылі цесляром, на вакантную пасаду. А на самой справе быў качагарам.

На зернесушыльні было чатыры печы. Тапілі іх карагандзінскім вугальком. Згружалі яго на станцыі, за некалькі сотняў метраў ад зернесушылкі. Адтуль і цягалі Іван з напарнікам насілкамі чорныя скрыгалі. Адна справа ў сухмень. А як паліе!.. Прыгадваўся тады той самы Паўка Карчагін са школьнай праграмы па літаратуры.

Ды нічога, вытрымаў цяглавіты беларус. Нават на касцюм з гадзіннікам зарабіў. І меншай сястры Манечцы таксама гадзіннік купіў, жаночы. Праз усё жыццё радасць нясе.

Пасля цаліны прыехаў паступаць у Полацкае медыцынскае вучылішча самавітым дзецюком. Дзіва, што аднакурсніцы стралялі вачыма, нібыта прымяраліся. З пышнай шавялюрай, з выразна акрэсленымі рысамі твару Іван Стадольнік, як яны шапталіся, нагадваў самога Максіма Горкага. Ну проста выліты, як на партрэце! Ды і ў газету полацкую пiша — допісы, вершы. І нават пра кахане.

Дарэчы, Максіма Горкага Іван Стадольнік любіў. На ўступных экзаменах нават сачыненне напісаў па рамане "Маці". Кажа, гэта і вырашыла яго лёс. І як медыка, і як будучага пісьменніка.

У Мосарскай участковай бальніцы на Глыбоччыне, куды Іван Стадольнік трапіў па размеркаванні, ён сярод васьмі маладзенькіх медыцынскіх сясцёр, аднаго фельчара ды акушэркі таксама пачуваў сябе ўпэўнена, нават выконваў абавязкі загадчыка медпункта, пакуль сам загадчык адсутнічаў.



Пра час медыцынскай практыкі Іван Канстанцінавіч любіць згадваць. Асабліва на пісьменніцкім лецішчы, на Лысай гары.

Выдатны пісьменнік, былы партызан Алесь Савіцкі мае звычку, каб правесці сонца, падыходзіць адвячоркам да дуба, што расце за плотам дачных прысядаў, дзе пад шатамі — вялізны камень. Мы, "тэатралы", — Іван Стадольнік, Яўген Міклашэўскі і я — кіруемся туды пазней: сустракаць месяц.

Камень пад дубам — дзівосны. Ён вялізны і плоскі. На ім, здаецца, можна рассадзіць усіх пісьменнікаў Лысай гары, якія дажылі да гэтага часу.

Мы сядаем на цёплы ад дзённага сонца камень, углядаемся ў неба, дзівімся, як настойліва выбіваецца з баравых нетраў маладзік, і ў чарговы раз гадаем: адкуль узяўся гэты дзівосны камень?

Аднаго разу Іван Стадольнік выказаў гэткую смелую думку:

— Хлопцы, тут схаваны скарб! Можа, нават Напалеона! Не шкодзіла б валун падкапаць! З усіх бакоў, — у сваіх разважаннях Іван робіцца катэгарычным і ўжо настойліва падбівае зрабіць той падкоп у найбліжэйшы час, пакуль іншыя не дакумекалі.

Вялікія ў яго здольнасці запаліць душу, падбіць на нешта, няхай нават і зусім недасяжнае. І так падасць, што не паверыць немагчыма! То раскажа ён, як на лецішчы табаку вырошчваў. А каб жонка не паварывала на карысць клубніц, прыдумаў ёй, што купіў на Камароўцы расаду японскай салаты, якая гоніць з чалавечага цела ўсялякія радыёнукліды. То жонка адразу перахапіла аграрную ініцыятыву — усё лета і акучвала, і палівала, і пільнавала тую "салату".

Праўдзівыя ці выдуманыя гісторыі разышліся па кнігах Івана Стадольніка "Хачу табе шчасця", "Лістапад на пачатку лета", "Як тут не смяяцца" і інш.

Яго новыя творы напоўненыя і жыццёвым аптымізмам, і някідкай чалавечай дабрынёй, і добразычлівым гумарам.

У гэтым верасні Івану Стадольніку споўнілася 70 гадоў. І пражыта багата, і перажыта таксама. І ёсць творчы набытак, і, галоўнае, ён папаўняецца. Мне здаецца, Іван Стадольнік піша, як жыве. І жыве, як піша, углядаючыся ў праявы чалавечага побыту. І, дарэчы, прозвішча ў яго зямное, загадкавае і высакароднае.

Бяру ў рукі кнігу…
Часопіс гартаю…
Адкуль гэта прозвішча? —
Сёння гадаю:
Стадольнік…
Стадола?..
Сто долей, магчыма?..
Ужо семдзесят у яго
за плячыма.

Як старац, паволі
пад хмарай узбор'я
ідзе поўны думаў
па Лысагор'і.

Малыя глядзяць на яго,
як на дзіва…
Тут столькі паэтаў вялікіх
хадзіла!..
І, як напамінак пра дух іхні
вольны,
гамоніць з вятрамі
Іване Стадольнік.

Генадзь ПАШКОЎ

# Супраць чаго бунтуюць продкі



Малюнак Алесі Ісы

Віктар Казько ў сваіх творах заўсёды шукае адказы на пакутлівыя пытанні сучаснага жыцця. Адчуваючы трагічнасць існавання чалавека на зямлі, пісьменнік адлюстроўвае пошукі чалавекам тых сіл, што дапамогуць выстаяць і дадуць новы штуршок для руху наперад, да лепшай долі. У аповесці "Сказ пра ката, каторы смяяўся" атрымала свой працяг узнятая яшчэ ў рамане "Бунт незапатрабаванага праху" тэма бунту продкаў, якіх выракліся ці забылі сучаснікі. Згодна з пісьменнікам, папярэднікі інфернальна назіраюць за сваімі нашчадкамі і спрабуюць накіраваць іх у належнае рэчышча, дасылаючы найбольш відушчым знакі.

Адзін з цэнтральных персанажаў аповесці, гаспадар, атрымлівае тры такія знакі, першы з якіх — гэта магіла бабулі, якую ён адчайна шукае і выпадкова знаходзіць іншую, з падобнай фотакарткай, датамі жыцця і нават імем як у ягонай бабулі. Згодна з гэтым знакам ён выбірае сабе месца пад пабудову новай хаты. Другі знак — сямёра кацянят, што знаходзяць яго жытло сярод холаду ночы. У выніку коцік па мянушцы Біч, якога персанаж пакідае сабе, ратуе яго ад невылечнай хваробы.

Валошкі — гэта апошні знак, які дазваляе здзейсніць, магчыма, самую важную справу — яднанне чалавека і прыроды. Гэта павінна ўзнавіць даўно парушаную на зямлі раўнавагу, без якой немагчыма жыццё. Сваю былую сілу, на думку пісьменніка, чалавек здолее знайсці ў мінулым. І выратаванне яго залежыць ад здольнасці знітаваць у адно старое і новае, бо інакш усіх чакае толькі вечнае забыццё.

Паважлівае стаўленне да папярэднікаў вяртаецца чалавеку праз іх спрыянне і дапамогу з таго свету. У тыя моманты жыцця, калі, здаецца, выйсця няма, а такое часта выпадала на долю гаспадара, памерлыя дапамагаюць яму. Гаспадар вельмі моцна звязаны са сваімі продкамі, нездарма праз кіламетры і маразы, што аддзялялі яго ад радзімы, ён беспамылкова і выразна адчуў смерць роднай бабулі.

Увага да спачылых продкаў заканамерна прыводзіць чалавека на могілкі, дзе вельмі выразна бачна цесная злучанасць жыцця людзей і прыроды, якая праяўляецца праз гарманічную заручанасць памерлых людзей і па-сялянску каржакаватых дубоў. Гаспадар міжволі прыходзіць да думкі, што гэта "ня дрэвы, а незапатрабаваны прах людзей. Незапатрабаваная і растрачаная прыжыццёвая іх моц", і яму міжволі мроіцца, што будучыня прарасце з праху продкаў, прадвеснікамі чаго і з'яўляюцца моцныя дрэвы.

Тэма повязі пакаленняў непазбежна звязваецца з матывам памяці; прычым, амаль кожны знакавы для жыцця гаспадара ўспамін аказваецца шчодра палітым крывёю. Памяць крыві выяўляецца самым надзейным сродкам спагнання з чалавека ўсіх яго пазык перад жыццём. Яна вядзе чалавека па жыцці, дае падказкі ў складаных і важных справах, дапамагае пазнаць памочніка ў здзяйсненні наканаванага. Такім памагатым для гаспадара становіцца коцік Біч — былы інтэлігентны чалавек і адначасова "біч Божы", які і з'яўляецца цэнтральным героем аповесці, пасрэднікам паміж гэтым светам і тым.

Біч здзяйсняе то цалкам натуральныя і ўласцівыя кату дзеянні — дзярэ шпалеры ў кватэры, ловіць мышэй, дражніць суседскіх сабак, змагаецца за сваё права быць галоўным у гаспадарскім падвор'і, то раптам пераносіцца ў іншасвет, дзе размаўляе з Цмокам і разам з ім вандруе на месяц па месяцовай сцежцы. І першыя, і другія дзеянні апісваюцца В. Казько як цалкам верагодныя і праўдзівыя, таму і ўспрымаюцца яны як рэальныя.

Асноўны матыў аповесці, які рэалізуецца ў некалькіх планах твора, а таксама вызначае танальнасць і задае рытм тэксту, — гэта вяртанне да вытокаў. Нездарма амаль усе персанажы аповесці выгнаннікі, незалежна ад таго, па сваёй волі яны пайшлі ў свет ці да гэтага іх вымусілі абставіны. Вандруе ў маладосці па свеце ў пошуках лепшай долі гаспадар, падарожнічаюць сямёра кацянят у надзеі знайсці, дзе прытуліцца і ўратавацца ад холаду, блукае недзе пад зямлёй крыніца, абураная спробай чалавека закаваць яе ў мармур, ратуецца па іншых краінах ад наступстваў чалавечага гаспадарання Цмок, коціцца па ваколіцах страх, дабіраючы моцы ад чалавечых заган, і нават тыя, хто не пакідаў Беларусі, жывуць выгнаннікамі ў роднай краіне, дзе іх здольнасці застаюцца незапатрабаванымі.

Былым вандроўнікам, якія вярнуліся на радзіму і знайшлі сабе паплечнікаў, як гэта атрымалася ў гаспадара з коцікам, што прывёў у хаўрус яшчэ і Цмока з іншымі зданямі, і наканавана здзейсніць галоўную справу жыцця — адрадзіць парушанае братэрства паміж прыродай і чалавекам, разбурэнне якога пагражае знікненнем самога роду чалавечага з твару зямлі. Найбольш спрыяльнымі ў гэтай справе істотамі з'яўляюцца продкі; менавіта ім аўтар адводзіць важнае месца. Невыпадкова сустрэча гаспадара з коцікам адбываецца ў дзень шанавання продкаў — на Дзяды.

Аднавіцца да жыцця і здзейсніць жаданае дапамагла герою атрыманая ім у спадчыну сялянская зацятасць. Памяць продкаў не пакінула яго ў спакоі. Менавіта яна прымусіла распачаць яшчэ адну будоўлю. Гаспадар не проста ўзводзіць хату, а нібыта аднаўляе сваю долю. Так праз памяць папярэднікі дапамаглі яму знoўку знайсці сябе, пачаць новае жыццё.

Амаль усе персанажы аповесці без выняткаў пакутуюць ад вымарачанасці і бессэнсоўнасці існавання, абумоўленых перакуленасцю свету. Яна праяўляецца праз тое, што такія знакавыя для беларусаў птушкі, як буслы, у творы паўстаюць першымі вестунамі няшчасця. Другім незаўважаным знакам з'яўляецца атрутнасць ліпавай квецені, якая забівае пчол; у выніку з вёскі знікае музыка, якая заўсёды спадарожнічала ёй раней. Перакулены свет яшчэ трымаецца, нібыта па звычцы, але ўжо дрыжыць, трымціць, незваротна мяняецца, пакуль яшчэ незаўважна для тубыльцаў, але ад гэтага яшчэ больш жахліва.

Слепата і глухата да знакаў-папярэджанняў прыводзіць людзей да няўвагі і неразумення самім сабе, ігнаравання свайго ўнутранага свету. Маральная недасканаласць персанажаў робіць іх безабароннымі перад варожым пранікненнем, што тлумачыцца В. Казько не толькі бяспамяцтвам нашчадкаў, але і тым, што часам побач з людзьмі знаходзяцца нябачныя ці не заўважаныя намі духі, якія здольныя адмоўна паўплываць на чалавечае жыццё. Таму пісьменнік папярэджвае, што трэба заўсёды пільнавацца, каб не падпусціць варожае чалавеку блізка да сваёй сям'і.

Пакутуе ад сурокаў, што наклалі на яго яшчэ ў дзяцінстве, гаспадар, міжволі выпускаюць блукаць жах вяскоўцы, што прыйшлі падзівіцца на забойства. Пісьменнік папярэджвае аб тым, што жах, які беспакарана творыцца на зямлі, робіцца магчымым дзякуючы раўнадушна-безуважнаму стаўленню чалавека да свайго жыцця. Страх, што жыве ў душы гаспадара, народжаны жаданнем і адмаўленнем Бога. Ён выклікае адчуванне няпэўнасці і хісткасці жыцця, якое страціла апірышча.

Персанажы твора не толькі пакутуюць ад неспрыяльных абставін, але некаторыя з іх здольныя на выхад з будзённасці. Прычым, такія пераходы адбываюцца нібыта мімаходзь, паміж гаспадарчымі справамі і клопатамі, як правал і пралом у нешта незразумелае і невядомае. Будзённасць і шараговасць існавання чалавека на зямлі перарываецца нешматлікімі ўспышкамі-азарэннямі, калі можна зразумець, што сапраўднае ў чалавеку "адабрана ці ўкрадзена — вымарачана". Таму такімі важнымі з'яўляюцца пошукі асобай таго натуральнага, пракавечнага, што знаходзіцца недзе глыбока ў душы.

Матыў адраджэння былога і знітавання яго з новым праяўляецца і праз цыклічнасць кампазіцыі аповесці, якая пачынаецца з апісання абставін знікнення крынічкі, што дала жыццё рэчцы Пціч, а заканчваецца аднаўленнем яе, і гэта дае шанц на выратаванне чалавека, працяг яго існавання на зямлі. Тым не менш В. Казько далёкі ад аптымістычных прагнозаў. Усё, здавалася б, выпраўлена — крынічка вяртаецца да сваіх вытокаў, але гаспадар адчувае адразу некалькі расчараванняў, з трывогай разважаючы над тым, "што будзе з гэтай іх новастворанай братчынай — яднаннем чалавека, звера і зданяў. Ці не нараджэнне гэта новага, і больш жахлівага звера, а не абнаўленне — вяртанне веры, дабрыні і сумлення". Песімізм пісьменніка выкліканы найперш слепатой і глухатой асноўнай масы людзей, якія не заўважаюць знакаў з таго свету і не чуюць прароцтваў найбольш відушчых з продкаў.

Пісьменнік папярэджвае, што без беражлівага захавання спадчыны продкаў, чэрпання з яе адвечнай мудрасці не будзе будучыні ні ў народа, ні ў чалавецтва наогул. Спробамі спыніць чалавека на яго бадзёрым шляху да ўласнай гібелі прасякнуты многія творы пісьменніка апошніх гадоў. Застаецца спадзявацца, што папярэджанні будуць пачутыя і сучаснік-беларус затрымаецца над безданню бяспамяцтва і нявер'я, няхай і на самым яе ўскрайчыку. Затрымаецца, каб асэнсаваць сваю гісторыю, запаветы продкаў, самога сябе.

Ксенія КУШНАРОВА

## Віншуем

З 80-годдзем Мікалая Мікалаевіча Арочку, паэта, літаратуразнаўца, крытыка, празаіка, перакладчыка.

З 75-годдзем Эдуарда Марцінавіча Скобелева, празаіка, паэта, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

З 75-годдзем Ніну Васільеўну Галіноўскую, паэтэсу.

З 75-годдзем Валянціну Пятроўну Лемцюгову, мовазнаўцу.

З 50-годдзем Галіну Аляксандраўну Булыку, паэтэсу.

З 50-годдзем Ігара Міхайлавіча Пракаповіча, паэта, краязнаўца.

## Юбілейны каляндар

275 гадоў Давыду Зыгмунту Пільхоўскаму, пісьменніку, перакладчыку, выдаўцу, дзеячу эпохі Асветніцтва на Беларусі.

140 гадоў Фердынанду Рушчыцу, жывапісцу, графіку, тэатральнаму мастаку і педагогу.

120 гадоў Мікалаю Ільічу Аладаву, кампазітару і педагогу, народнаму артысту БССР.

115 гадоў Гіршу Мордухавічу Камянецкаму, паэту. Пісаў на ідыш.

100 гадоў Уладзіміру Ільічу Сядуру (псеўд. Глыбінны), празаіку, літаратуразнаўцу, мастацтвазнаўцу. Жыў у ЗША.

90 гадоў Ганне Антонаўне Сондак, літаратуразнаўцу, педагогу.

85 гадоў Івану Цітавічу Шуцько, празаіку, паэту.

85 гадоў Анатолю Іванавічу Кісялеўскаму, мовазнаўцу.

70 гадоў Браніславу Аляксандравічу Плотнікаву, мовазнаўцу.

# Поўніць зорнае неба, як ліра




Малады празаік Яўген Малевіч нарадзіўся ў Гомелі. У 2009 годзе паступіў у Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны на філалагічны факультэт. Вялікі ўплыў на яго творчасць аказалі тыя пісьменнікі, з якімі Жэня сустракаўся падчас наведвання школы-студыі "Малады літаратар" у Гомельскім абласным палацы творчасці дзяцей і моладзі. Сёлета мінскае выдавецтва "Ковчег" выпусціла яго першы зборнік навел на рускай мове "Эксперимент". Рэдактар зборніка — Ніна Шклярава, кіраўнік школы-студыі "Малады літаратар".

У зборніку — дзесяць абсалютна розных апавяданняў, якія аб'яднаны ідэяй — маладосці, праз якую можна спазнаць мудрасць. У аснову некаторых сюжэтаў пакладзены рэальныя падзеі з жыцця аўтара і яго сяброў.

Зборнік пачынаецца творам "Орфей на крыше". Аўтар заснаваў яго на грэчаскім міфе пра Арфея і Эўрыдыку. Трагічная і ў той жа час прыгожая гісторыя кахання. "Мне вельмі зразумелая яго гісторыя. Я ўпэўнены, што нічога не адбываецца проста так. Калі ты кагосьці кахаеш і прысвячаеш яму песні, то нават калі ўсё гэта знікне, народзіцца нешта большае… Пачуцці людзей поўняць душу свету, як ліра Арфея дапаўняе зорнае неба!" — піша Яўген Малевіч. Галоўны герой навелы — Аўтар — шукае на гэтым свеце сапраўднае пачуццё… Але калі ён бачыць, што на ўсіх дахах сядзяць людзі ў цёмных каптурах, то адразу разумее, што тут кахання няма і быць не можа…

Апавяданне "Город детей" зусім не падобнае да ўсіх папярэдніх у зборніку. Дзеці — гэта чалавецтва, якое будуе свой індывідуальны свет. У вобраз галоўнага героя, маленькага хлопчыка Сашы, Яўген уклаў адважнасць, глыбокія думкі, уласцівыя не кожнаму дарасламу. Гэта навела — своеасаблівая філасофія жыцця.

Апошняе апавяданне ў зборніку — "Абсолютно не придумано" — пабудавана выключна на рэальных падзеях. Гэта апавяданне пра хлопца з Македоніі, з якім аўтар пазнаёміўся ў Швейцарыі. Менавіта там адбываецца ўсе падзеі, якія апісаны ў творы. "Гэта часцінка майго жыцця, той час, тыя людзі, з якімі я там пазнаёміўся, з якімі ездзіў… Усё гэта фарміруе маю асобу…" — прызнаецца аўтар.

"Эксперимент" — зборнік навел, дзе прысутнічаюць незвычайныя сюжэты, жывая атмасфера. Аўтар спрабуе вырашыць складаныя філасофскія пытанні. "Эксперимент" можна назваць кнігай пра жыццё моладзі.

Ала ДАРАШЭНКА

# Пад пільнай чытацкай увагай

**"У мастацтве любая дактрына — гэта алібі, якім мастак спрабуе апраўдаць уласную абмежаванасць".**

Альбэр Камю




Вершамі галоўнага рэдактара часопіса, вядомага паэта Міколы Мятліцкага адкрываецца адзінаццаты нумар "Полымя". Аўтар адкрыта агучвае сваю грамадзянскую пазіцыю, пра што сведчыць самы першы верш, змешчаны ў падборцы. Гэта не можа не выклікаць павагу, як, зрэшты, і кожнае меркаванне, выказанае публічна. Але Мікола Мятліцкі, як на мой суб'ектыўны погляд, — гэта найперш паэт лірычна-элегічнага складу.

Наогул, нумар багаты на паэзію, прычым самую разнастайную. 3 вершамі выступаюць Мікола Маляўка, Ігар Пракаповіч, Рагнед Малахоўскі, Аляксандр Быкаў. На жаль, яркіх паэтычных знаходак тут няшмат. Шторазу адкрываеш новы нумар часопіса з надзеяй: а можа?.. Ды шчаслівыя выпадковасці надараюцца вельмі рэдка. Не, я не хачу сказаць, што ўсё так дрэнна і катастрафічна, але дзе пошук, дзе паступальнае развіццё айчыннай паэзіі? Творцаў, якія ўвесь час развіваюцца, у агульным літаратурным працэсе можна пералічыць па пальцах. Хацелася б вылучыць творы Рагнеда Малахоўскага, і найперш таму, што ён імкнецца ўжываць свежыя, незацяганыя тропы.

Крыху інакшай падаецца сітуацыя з прозай. Ужо каторы нумар запар "Полымя" друкуе з працягам буйны твор Уладзіміра Гніламёдава "Валошкі на мяжы". Безумоўна, рэч цікавая і заслугоўвае самай пільнай чытацкай увагі. Яркі прыклад часопіснай публікацыі ў прозе — раман Міхася Южыка "Леапард на балконе", які пачаў друкавацца якраз у гэтым нумары. Больш прадметную, дэталёвую гутарку пра сам твор варта правесці пасля, як раман будзе надрукаваны цалкам, цяпер жа адзначым асноўныя станоўчыя рысы стылю Міхася Южыка: псіхалагізм, характарнасць персанажаў, натуральнасць апавядання, адметны лексічны склад. А ў кароткім анонсе-анатацыі пра твор сказана наступнае: "Раман даследуе прыроду чалавечага злачынства, з'яву, якой літаратура ва ўсе часы надавала асаблівую ўвагу".

Заслугоўваюць увагі апавяданні Віктара Супрунчука. Яркія, запамінальныя вобразы, дэталёва, псіхалагічна дакладна выпісаныя характары змусяць чытача міжволі суперажываць героям, створаным фантазіяй пісьменніка, няхай яны нават будуць не вельмі сімпатычныя, але затое жыццёвыя і натуральныя.

Значная частка нумара прысвечана асобе беларускага класіка — незабыўнага Уладзіміра Караткевіча, 80-годдзе з дня нараджэння якога адзначалася ў лістападзе культурнай грамадскасцю краіны. У прыватнасці — артыкул Яўгена Гарадніцкага "Ut pictura poesis" (даследуецца паэтыка і эстэтыка Уладзіміра Караткевіча), эсэ-ўспамін Вячаслава Рагойшы "На Ракаўшчыне, у маім родным куце", а таксама інтэрв'ю пісьменніка балгарскай даследчыцы Розе Станкевіч, датаванае пачаткам 1980 года, і лісты Васіля Быкава да Уладзіміра Караткевіча.

Прысутнічае ў нумары таксама рубрыка "Школьныя далягляды", прысвечаная творам Якуба Коласа, адрасаваным дзецям, лістападаўскі каляндар памятных дат, а крытыка прадстаўлена артыкулам Вольгі Русілкі пра Уладзіміра Гніламёдава.




У гэтым нумары айчынны бестселер Алены Брава "Каменданцкі час для ластавак" загучаў па-руску ў аўтарскім перакладзе. Пра гэтую аповесць ужо шмат і пісалася. Адзінае, што можна дадаць да ўсяго раней сказанага, — гэта тое, што твор нічога не згубіў пасля перакладу, а наадварот, пашырыў сваю аўдыторыю за кошт рускамоўных чытачоў. Акрамя таго, ні для каго не сакрэт, што часопіс "Нёман" карыстаецца папулярнасцю за мяжой, у прыватнасці, у суседняй Расіі, так што будзем чакаць водгукаў на твор нашай "кубінскай ластаўкі" адтуль. А можа быць, і на іншыя мовы з цягам часу перакладзецца, хто ведае.

Даволі моцны празаічны блок нумара працягваюць апавяданні адметнага празаіка Алега Ждана. Каб не псаваць першаснае чытацкае ўражанне, не буду пераказваць змест твораў, адзначу толькі, што мастацкай прозы такога ўзроўню даўно не сустракаў на старонках перыядычных выданняў. Перад намі — творы незвычайныя, творы арыгінальныя і непадобныя да іншых, адзначаныя яскравай аўтарскай індывідуальнасцю, нягледзячы на тое, што аповед вядзецца то ад імя жанчыны (апавяданне "Сабачы Бог"), то ад імя… грашовай купюры (апавяданне "Кашалёк"). Прытчавасць, метафорыка, трапнасць жыццёвых назіранняў — вось толькі той няпоўны пералік усіх характэрных асаблівасцей жданаўскай прозы.

Паэзія прадстаўлена ў нумары арыгінальнымі вершамі Наталлі Ільюшынай і перакладнымі з беларускай — Галіны Дубянецкай. Як адзначае ў прадмове да вершаў першай аўтаркі рэдактар аддзела паэзіі часопіса Юрый Сапажкоў, "подборка её стихов… первая в толстом журнале. Думается, она много расскажет о поэте, о его философски окрашенном видении мира, чувствительной душе, способности подняться до афористических обобщений". Папраўдзе, нельга не пагадзіцца з аўтарам вышэйпрацытаваных радкоў пасля прачытання нізкі гэтай паэткі няпростага і адметнага лёсу, прыклад якога толькі пацвярджае заканамернасць, згодна з якой сапраўдны талент надзвычай сціплы і не любіць сябе афішаваць, з-за чаго па сутнасці і патрапляе часцяком у мутныя плыні Леты. Хочацца падзякаваць спадару рэдактару за такі шчодры "ўлоў" у вышэйпамянёнай рацэ. На карысць тонкага паэтычнага густу Юрыя Сапажкова сведчыць і тая акалічнасць, што наймацнейшыя паэтычны твор паэткі быў змешчаны на самым пачатку падборкі. Мяркуйце самі (верш пад назвай "Зарисовка с натуры"):

Выходят из дома
старик со старухой.
Старуха — слепая,
старик — тугоухий…
Подав старику
свою руку, старуха
Ему прокричала
на самое ухо:
"Держись за меня,
чтобы я не упала!"
Так мало сказала!
— Так много сказала!..

Вершам Галіны Дубянецкай (пераклад Георгія Кісялёва) уласціва метафізічна-міфалагічная заглыбленасць, балансаванне на мяжы сэнсаў, імпрэсіянізм:

мамины грезы веют
шиповником и укропом
ночь одиночество зреет
меркнут шаги по тропам

Раздзел сусветнай літаратуры прадстаўлены ў нумары першай часткай дэтэктыўнага рамана амерыканскага пісьменніка Брэта Халідэя "Забойства замужняй цнатліўкі" і вершамі польскага паэта Марэка Ваўжкевіча. Можа, і сапраўды публікацыя твораў дэтэктыўнага жанру, так званага масавага чытва, — неблагі шанц для часопіса ў справе далучэння чытача да больш сур'ёзнай літаратуры?

Не абмінуў сваёй увагай "Нёман" і 80-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Прапануецца шэраг матэрыялаў, якія выклікаюць безумоўную цікавасць да выдання. Сярод іх — эсэ "Святая Прадслава", створанае Караткевічам да 800-годдзя з дня смерці Еўфрасінні Полацкай, эпісталярная спадчына — лісты Караткевіча да аднакурсніка Міхаіла Гольдштэйна, а таксама ўспаміны Вячаслава Рагойшы, удала аздобленыя рэдкімі ілюстрацыямі.

Рубрыка "Час. Жыццё. Літаратура" прапануе роздум-апытанку пад назвай "Літаратура і чытво", дзе сваімі развагамі на тэму масавай літаратуры дзеляцца вядомыя пісьменнікі і навукоўцы, такія, як Анатоль Андрэеў, Валерый Гапееў, Уладзімір Гніламёдаў, Ягор Конеў, Наталля Якавенка. І нібыта ў працяг тэмы наступная публікацыя — артыкул нядаўна спачылага Станіслава Саладоўнікава "Чалавек і свет", дзе аўтар разважае пра айчынную фантастыку.

Напрыканцы нумара — інтэрв'ю з намеснікам дырэктара прыватнага выдавецтва "Харвест" Юрыем Хацкевічам, матэрыялы-водгукі, рэдакцыйная пошта.

Такім чынам, лістападаўскі "Нёман" атрымаўся цікавым і насычаным, здольным, на мой погляд, задаволіць густы нават самых патрабавальных чытачоў.




Як прызнаецца ў сваёй прадмове галоўны рэдактар Раіса Баравікова, гэты нумар часопіса — "традыцыйна-чарговы". Чаму? А таму, што "берасцейскі". Асаблівую прыхільнасць рэдкалегіі да гэтага сапраўды багатага на таленты рэгіёна пацвярджае не толькі прадмова галоўрэда, але і ўсе наступныя публікацыі, кожная з якіх так ці інакш мае дачыненне да Берасцейшчыны. Пакідае неблагое ўражанне падборка вершаў маладых паэтаў-берасцейцаў, дакладней, паэтак, бо друкуюцца адны дзяўчаты. Найбольш арыгінальнай і адметнай падаецца сярод іх нізка вершаў Маргарыты Прыкі, дзе не назіраецца імкнення да абавязковага выкарыстання традыцыйных вобразаў, а наадварот, прысутнічае пошук самастойнасці, што сведчыць пра наяўнасць творчай перспектывы:

Няхай збянтэжацца
суседзі,
Няхай зусім
не Ленан ты.
Гітара з ружаю
на снезе —
Амаль як раннія
"бітлы".

Часопісны варыянт рамана Лявона Валасюка, што таксама знайшоў месца на старонках нумара, зацікавіць аматараў прыгодніцкай прозы. У творы авантурна-фантастычная фабула перакрыжоўваецца з гісторыяй кахання. Але, на жаль, фрагментарнасць і неўпарадкаванасць аповеда замінае яго паўнацэннаму ўспрыманню, да таго ж амаль адсутнічаюць характары ў персанажаў, і наогул, ствараецца ўражанне, што аўтар крыху спяшаецца, спяшаецца… А шкада, бо ідэя была харошая.

Маргарыта Латышкевіч прапануе чытачу сваю новую паэтычную падборку пад агульнай назвай "Трымаць руку на пульсе навальніц". Адразу зазначу, што прачытаць вершы маладой паэткі варта, хаця б дзеля наступных чатырох радкоў:

На крок мы апярэдзім
лістапад —
З апошнім лета
водбліскам на тварах —
Пакрочым ў небе
і, як тыя хмары,
Ніколі больш
не вернемся назад.

Апавяданне Вячаслава Бурдыкі непрыемна здзіўляе нечаканым брутальным фіналам, які б несумненна прыйшоўся да густу аматарам "чарнушнага чытва" кшталту "Прыватнага дэтэктыва": "Яго (галоўнага героя — Я. Л.) цела Віктар скінуў у стары калодзеж, зверху засыпаў смеццем, затым падпаліў хату". Канечне, літаратура павінна быць рознай, але…

Аляксей Каўко знаёміць чытача са сваімі празаічнымі мініяцюрамі. Вершы Марыі Кобец сведчаць пра наяўнасць творчага патэнцыялу. Анатоль Брытун друкуе легенду пад назвай "Ашуканая ганарыстасць вікінга", твор несумненна цікавы і адметны. Літаратурную частку нумара завяршаюць вершы Васіля Жуковіча.

Пад рубрыкай "Мая прафесія" друкуецца артыкул Ірыны Клімковіч, у якім яна распавядае пра Пінскае дзяржаўнае вучылішча мастацтваў. Шэраг матэрыялаў нумара — пра вядомых выхадцаў з Берасцейшчыны, такіх, як прадпрымальнік Аляксей Кавалевіч, дэпутат парламента Сцяпан Кірычук.

Да 80-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча прымеркавана публікацыя даследавання Анатоля Вераб'я пад назвай "Даверлівая да свету душа", дзе навуковец адсочвае сувязь знакамітага творцы з Берасцейшчынай.

Гісторыка-літаратурнае эсэ Алеся Марціновіча прысвечана заснавальніку кнігадрукавання ў Расіі і аа Украіне Івану Фёдараву. Ігар Запрудскі разважае пра творчасць паэта з Давыд-Гарадка Віктара Вабішэвіча, а Кастусь Лешніца ў невялікім допісе віншуе з 50-годдзем празаіка Алеся Наварыча. Напрыканцы нумара — краязнаўчы даведнік "Літаратурныя мясціны Беларусі" і крыху гумару паддае Пятро Васючэнка "Вясёлым літаратуразнаўствам".

Янка ЛАЙКОЎ



## Святлана ЯВАР

### Касцёл

Я птушкаю ўляцела ў той палац,
Каб назаўсёды ў ім ручной застацца,
І замяніла праўдаю эрзац:
Цяпер магу заўжды
ў палац вяртацца…

Нібы каменьчык, кінуты ў ваду,
Так слова кожнае ў душу трапляе,
Што чую там. Я зноў туды прыйду
Ці прылячу: нічога не губляю!

Адно мне дзіўна. І дзівосна мне:
Якую ўладу нада мной ён мае!
Там пачуваюся, нібыта ў сне,
Заўсёды мой палац мяне чакае.

Як я магла забыцца пра палац
І жыць, як быццам мне
няма ў ім месца?
Сярод усіх будзённых маіх прац
Гучыць палацу ў сэрцы інтэрмецца.

* * *

Гавораць людзі: цудаў быць не можа.
Але паверыць хочацца мне ў іх.
Усемагутны Бог мне дапаможа…
О, Божа! Я заўжды ў руках Тваіх.

Хацела б я, каб спраўдзіліся мары,
Каб сустракаліся, каханы мой,
Каб разышліся ўжо нарэшце хмары,
Пайшла нарэшце ўдача каб са мной.

Бяссільная перад наканаваннем,
Якое спасцігае, як удар.
Ды буду верыць я і ў час скананія:
Жыццё — заўсёды варты, Боскі, дар.

* * *

І, моцную, мяне… табе слабою
Хацелася б лічыць. Але дарма!
Табе здалася, і — няма спакою,
Ды шлях я выбрала такі сама.

Жывём з табою пад адзіным сонцам.
Яно ўсім роўна свеціць. Вось і я
Паверыла ў бяссмерце і бясконцасць
Быцця душы. Цяпер жыву я для

Таго, каб дасканалаю зрабіцца,
Пра слабасці свае зусім забыцца.

* * *

Ці дачакаюся я свята?
Магчыма, так. Мажліва, не.
Душа мая ці ж так багата —
Яшчэ надзеяй палымнець?

Ды спадзяюся (можа, марна?),
Лічу, зарана паміраць.
Пакуль жыве агонь алтарны,
Бог будзе літаваць, караць…

Як пражыла? Відаць, што дрэнна:
Ані сяброў, ані сям'і.
Ды наракаю я дарэмна,
Пакуль не скончыліся дні…

* * *

Я ўсё жыццё гармонію шукала,
Заўжды каб прыгажосць была са мной.
Ніякіх цудаў быццам не чакала…
Наперад крочыла зімой, вясной…
І непрыгожае тады знікала,
Бы растваралася бясследна ў цішыні.
На шчасце, некага я ўсё ж кахала,
Любіла Бога ў недасяжнай вышыні.

У чым мой грэх, скажыце?.. Хіба цяжкі?
Прызналася на споведзі ўжо ў ім.
Мяне і не судзіце вы — манашку,
Бязгрэшную сваім быццём усім.

* * *

Я перастала адчуваць
Нянавісць, крыўду, адзіноту.
Мяне не будуць хваляваць
Хвіліны роспачы, маркоты.

Абрала просты шлях, прамы.
Нікуды ўжо з яго не збочу.
Ён дасць цяпло сярод зімы
І харч духоўны — еш дасхочу!

Дарує хай памылкі Бог
І ўсе правіны мне прабачыць.
Прыняць адзіны Ён і змог,
Дазволіў ісціну мне ўбачыць.

Я не жадаю грэшнай быць,
Пакаяцца заўжды хацела,
У характве, спакоі жыць.
Даверылася Богу смела…

* * *

Нядаўна нада мной лунаў Анёл
І быў вясёлы, лёгкі і бялюткі.
Ляцеў за мною Ён у наш касцёл.
Ты добры мой і мілы мне, Анёл.

І вельмі светлы,
вельмі чысты Ён —
Дык страшна мне
запляміць Яго брудам.
А дзень заўсёды прынясе свой плён.
Анёла ўбачыць зноў
магло быць цудам…



## Яўген СЕРГІЕНЯ

**Дэбют**

Яўген Сергіеня родам з прыгожай палескай вёскі Чудзін, што на Ганцаўшчыне. Цяпер жыве і працуе ў г. Гомелі, друкуецца ў "ЛіМе" ўпершыню.

* * *

Сціскаецца да болю шэпт душы.
Ты выдыхаеш словы, быццам
Наталяеш смагу.
Глыток, яшчэ глыток…
Цябе ратуе прахалода Слова,
Што праліваецца ў душу тваю
Струменьчыкам праз хмары.
Прама з неба.

* * *

Можна з кніг дакладна навучыцца,
Як зрабіць кар'еру паспяхова,
Жыць бязбедна, добра ажаніцца,
Авалодаць прыгажосцю слова.

А душа не цешыцца чамусьці.
Адыходзіць радасць маладосці.
Засыхае сэрца, а з крыніцы
Жыватворнае вады напіцца
Не хапае часу.

Слова Бога на стале пыліцца…

### Неба гаворыць

Прамаўляе неба
Громам навальніцы,
Пахкімі вятрамі,
Зыркасцю зарніцы;

Восенню дажджлівай —
Шапаценнем лісця,
Смуткам жураўліным,
Што ляціць у высях;

А зімою сцюжнай —
Завірухі спевам,
Прамневым марозам,
Шэранню на дрэвах;

А вясною чуем
З неба крык вяртання.
Кожны міг у неба
Ёсць зямлі пасланне.

### Неба

Цёплае неба,
Калі
Пачуццямі шчасця і ветласці
Сэрца маё захлынаецца.

Халоднае неба,
Калі
Натхнення няма ані ў чым,
А дождж за акном абыякавы.

Далёкае неба,
Калі
Адчай з адзінотаю разам
Сэрца сціскаюць бязгучнае.

Блізкае неба,
Калі
Сябры зноў яднаюцца з блізкімі,
Дзеляцца болем і радасцю.

Рознае неба;
Заўжды
Да кожнага з нас дачыняецца,
Ніколі прытым не канчаецца.



## Алег САЛТУК

### Снег

Якая шчодрая зіма —
Усе заснежаны абшары,
Нідзе ні следу ўжо няма,
Плывуць сумёты, нібы мары.

З-за снегу стрэхаў не відно,
А ён ідзе, не аціхае,
Кладзецца роўненька адно
І белізною асляпляе.

Як снегу шмат, то, — кажа хтось, —
Увосень будзе хлеба многа.
Дай Бог, а покуль прыгажосць
Лягла ля самага парога.

Усё наўкола замяло
Снягамі з веямі ў хаўрусе…
Яшчэ святлее больш чало
Маёй найсветлай Беларусі.

### Вяртанне

О, колькі моцы ў маразоў,
О, колькі шалу ў завірусе!
У думках ці то ў сне ізноў
Далёка недзе апынуся.

І да цябе вярнуся я,
Ад снегу і гадоў ссівелы,
Любоў апошняя мая,
Бяры маю душу і цела.

Імгненне гэта не парань
Ані маўчаннем, ані словам.
Віна іскрыстага дастань,
Напоўні чаркі пакраёва.

Няхай мяцеліца гудзе,
У правадах арганна грае.
Ты прытуліся да грудзей,
Уся жаданая такая.

Сумёты вечар награбе,
Запаліць зорку маладую…
Я ўсё ж вярнуўся да цябе
І да сябе.
І не шкадую.

### Сцюжа

Вар'яцела ў чыстым полі сцюжа,
А ў бакале пунсавела ружа.
Хмель ты падлівала, чаравала,
Кветка нам пялёсткамі ківала.
Як было ўсё дорага і люба,
Як гарэлі ў палкай млосці губы —
Аж на сёмым небе давідна!..
Я не знаю, ў чым чыя віна,
Што віно ўсё выпіта да дна,
І што тую зломленую ружу
Замяла і пахавала сцюжа.

### Жаданне

Прыручаю зайцаў і сініц
І да адзіноты прывыкаю.
У святле марозных бліскавіц
Мройна ўсё навокал замірае.

Пазасыпаў непраходны снег
Гоні, і дарогі, і сцяжынкі.
Толькі ці наяве, ці то ў сне
Ценькаюць сінічкі на галінках.

А за плотам прамільгнуў касы.
Цішыня на дзесяць вёрст наўкола.
Дзень апошні промень пагасіў,
Спаць залёг прымораны пасёлак.

Не спалохаць мне б цяпер сініц
І зайцоў у садзе дачакацца,
Усіх разам нанач падкарміць,
Каб над маразамі пасмяяцца.

Каб да ранку беспрабудна спаць
І ў святле нямым, маладзіковым
Тое сніць, пра што не расказаць,
І не высніць нават тыя словы.

### Надвор'е

Надвор'е, нібы п'янкае віно,
Шыпучае, марознае такое,
Як і яно.
Нічога не відно
За белаю суцэльнаю сцяною.

У каламуці выстылы прастор.
Шукаць дарэмна
ў некага спагады.
Вятроў шалёны,
Стагалосы хор
Сабе самому не знаходзіць рады.
Сп'янелая, што дырыжор, зіма —
Згубіла голаў
на сваёй пасадзе.
І слоў няма,
І музыкі няма,
Як на сучаснай
песеннай эстрадзе.

### Мой храм

Аніколькі сябе не шкадую
І ніколі не шкадаваў…
Я свой храм у душы будую,
Ды пакуль што не збудаваў.

Не хапае ў мяне цярпення,
Не стае маіх кволых сіл,
Яшчэ цемра тушыць праменне,
Што ў яго нашу і насіў.

На шляху камянёў замнога,
Хоць збіраў іх, як толькі мог,
Каб расчысціць да храма дарогу,
Каб у ім пасяліўся Бог.

Я будую свой храм зацята.
Не вялікі і не малы,
А такі, каб было ў ім свята
Аж пад самыя купалы.

Вы прыходзьце, як вокны зазз'яюць
І малітва пачуецца ў ім.
А пакуль яшчэ совы лятаюць
Над пакутлівым храмам маім.



Фота Марыны Жакаўкі

# Маміны казкі

## Павучок, пчолка і верабейчык



Георгій МАРЧУК

У горад прыйшло гарачае, вельмі спякотнае лета. Ля пад'езда дзевяціпавярховага дома мірна жылі, радуючыся цяплу, мама пчала з маленькай пчолкай і мама павучыха з маленькім павучком. Ля гэтага пад'езда расло шмат розных кветак: і настурцыі, і рамонкі, і мальвы, і заразнікі бальзаміны. Пчала гасцявала ў сваёй знаёмай павучыхі і збірала нектар з кветак, вучыла гэтаму і маленькую пчолку, якая вучыцца асаблівага жадання не мела — відаць, праз спякоту. Гарэзавала, гуляла з маленькім павучком у хованкі.

— Кажуць, ля Камароўскага рынку працуе "Мядовы кірмаш". Ужо ж там мёду ўсялякага — колькі хочаш, — даводзіла пчолка павучку. — Вось бы туды злётаць…

— Дык хто ж табе замінае… Мне паўзці далёка, а табе ўсяго толькі пяць хвілін, — адказаў ёй павучок.

— Гэта так, але ж мамка сварыцца будзе, — сумна адказала пчолка.

— Калі твая мама па абедзе будзе спаць пад лапуховым лістом, дык ты і ляці на кірмаш і хуценька вяртайся, — параіў павучок.

— Мамка насварыцца, — тужліва адказала пчолка.

— Ды пакуль яна спаць будзе, ты паспееш вярнуцца, — разважаў павучок.

— Ну, хай будзе, што будзе... Я толькі адным вокам зірну… пакаштую башкірскага мёду, закарпацкага, манастырскага — мне мама пра іх расказвала, — і назад, — адважылася пчолка на першае ў сваім жыцці самастойнае падарожжа. І хоць недалёка ад пад'езда Камароўскі рынак, ды час цяпер неспакойны, небяспека падпільноўвае маленькую пчолку.

Дачакалася яна, пакуль мама заснула, і паляцела на мядовы пах. Павучок застаўся адзін. Бабуля яго, што жыла ў падвале дома, цяжка захварэла, і мама павучыха ўвесь час знаходзілася ля ложка хворай бабулі. Павучок не любіў спускацца па павуцінні-лесвіцы ў падвал. Там вільгаць, там цёмна, вусцішна. Ён быў яшчэ зусім маленькі і ўсяго баяўся.

Павучок застаўся адзін, і яму зрабілася сумна. Не было з кім гуляць, і ён таксама вырашыў выправіцца ў падарожжа. Ля пад'езда рос дзікі вінаград, які да гарачыні дасягнуў незвычайнай велічыні, дацягнуўся ажно да даху дзевяціпавярховіка. Падумаў, падумаў павучок і вырашыў па вінаграднай ліяне ўскараскацца на дах, каб хоць здалёк убачыць мядовы кірмаш. Так ён і зрабіў. Доўга давялося караскацца ўверх, знясілеў, пакуль апынуўся на асфальтавым даху.

— Ты хто? Адкуль? — пачуў ён незнаёмы голас за спінай.

— Я? — павучок надта спалохаўся, — я павучок… Чарнушка. Я ўнізе жыву… не біце мяне, — хуценька адказаў спалоханы павучок, — а ты хто?

— Я верабейчык, — адказаў яму маленькі верабейчык, які сядзеў у гняздзе і не чакаў сустрэць гэткага госця: увесь чорны, з доўгімі лапкамі.

Павучок узгадаў словы сваёй мамы пра тое, што і вераб'і могуць быць ворагамі павукоў, і вельмі спалохаўся.

— Прабачце, я на хвілiначку… А дзе ваша мама? — пацікавіўся ён.

— Ды ўжо другі дзень чакаю. Паляцела ў суседні двор па харчаванне і не вяртаецца, — адказаў верабейчык.

— Можа, здарылася што? — запытаў цікаўны павучок.

— Не ведаю. Я вельмі галодны. У цябе нічога няма?

— Не, — пасмялеў павучок.

— Ну добра, сядай бліжэй, будзем знаёміцца.

— Не. Баюся, — адказаў павучок.

— Каго? — здзівіўся верабейчык.

— Цябе.

— Не бойся. Абяцаю, крыўдзіць цябе не буду.

— Не… баюся.

Яны б так і спрачаліся, ды нечакана наляцеў вецер з моцным дажджом. Такое здараецца ў задушлівыя спякотныя дні. Навальніца налятае імгненна і палохае ўсіх страшэннымі выбухамі грому. Каб уратавацца ад моцнага дажджу, павучок схаваўся ў верабейчыкавым гняздзе. Віхура як на тую бяду пазрывала вінаград з даху. Неўзабаве дождж скончыўся. Зірнуў павучок уніз і войкнуў. Лесвіцы з вінаграду, па якой ён трапіў на дах, не было. Шлях уніз, да пад'езда, да мамы, быў адрэзаны. Павучок забедаваў, заплакаў.

— Не плач. Пераначуем — болей пачуем. Прыляціць мая мама, дапаможа табе… — як мог супакойваў верабейчык павучка.

Надышла ноч, якая яшчэ больш палохала верабейчыка і павучка сваёй цемрай і таямнічасцю.

— Мне холадна, — слабым голасам паскардзіўся павучок.

— Вось, бяры маю коўдру, — прапанаваў верабейчык.

Коўдрай для верабейчыка было вялікае пяро голуба, якое дзесьці знайшла мама-вераб'іха.

Бяссонная надарылася ноч для мамы пчалы і мамы павучыхі. Каго толькі не распытвала пасля навальніцы пчала пра сваю дачушку-пчолку — ніхто не мог адказаць, ніхто не ведаў, дзе яе шукаць. А адзінокі дваровы кот — дык той увогуле сказаў, што яе, пчолку, віхура знесла. Гэты валацуга нікому дабра не зычыў.

Каго толькі не распытвала мама павучыха пра свайго павучка Чарнушку, ніхто ёй нічога пэўнага адказаць не мог. А адзінокі дваровы кот, які нікога не любіў і ні з кім не сябраваў, сказаў, што павучка віхура занесла ў суседні двор і там ён утапіўся ў лужыне. Заплакала мама павучыха, заплакала мама пчала… і ніхто не мог іх суцешыць, вялікае было ў іх гора.

А маленькая пчолка, якая шчаслівая далецела да мядовага кірмашу, нечувана радавалася на мядовым свяце. Ля бочачак з мёдам таўкліся пчолы, што пазляталіся сюды з розных канцоў горада. Дзяўчаткі ў жоўтых касцюмах пчолак скакалі пад вясёлую музыку. Пчолка пасябравала з іншымі пчолкамі, якія ўгаворвалі яе ляцець разам з кірмашом у іншыя гарады: "Штодзень будзе свята, спевы, скокі і мёд свежы на сподачку". Гуляючы, пчолка дарогу да свайго дому і забыла, дый чаго ляцець у зваротны шлях якраз у ноч. Засталася начаваць з іншымі пчолкамі ў шатры, пра маму нават не ўспомніла, якая гэтаксама як і мама павучыха ўсю ноч не заплюшчыла вачэй. Плакалі ды сумна ўздыхалі, не ведаючы, дзе шукаць дзяцей. І раніцай да верабейчыкавага гняздзечка мама таксама не прыляцела.

— Чыр-чыр, трэба штосьці рабіць, — сказаў верабейчык, калі варона на высокай таполі сваім першым карканнем абвясціла, што пачаўся новы дзень.

— Трэба штосьці рабіць, — сказаў і павучок.

— Не паўтарай. Гэта я сказаў "трэба штосьці рабіць", — пакрыўдзіўся верабейчык.

— Дык і я кажу, трэба штосьці рабіць, — зноў паўтарыў павучок.

— Вось што, — нарэшце даўмеўся верабейчык. — Ты з парашутам скакаў?

— Не, — адказаў павучок.

— І я таксама. Ты лягчэйшы. Бяры маю коўдру, галубінае пяро, сядай на яе і так даляціш да зямлі, — прапанаваў верабейчык.

— Не разаб'юся? — толькі і спытаў павучок.

— Не. Цябе вытрывае. Сядай, а я падштурхну.

Так яны і зрабілі. Падарожжа на галубіным пёрку закончылася для павучка шчасліва, і ён прызямліўся проста на шырокі ліст настурцыі, на якім сядзелі, гаруючы, маці павучка і маці пчала.

— А вось і я! — радасна закрычаў павучок.

Маці павучыха не паверыла сваім вачам.

— Адкуль ты?

— З даху.

— Ты быў на даху? Ну я табе дам, — але сварыцца не стала, толькі абняла і расцалавала яго.

— А маю пчолку ты там, на даху, не сустракаў? — праз слёзы спытала мама пчала.

— А хіба яна не вярнулася? Яна ж на мядовы кірмаш да Камароўскага рынку яшчэ ўчора з раніцы паляцела.

Двойчы маме пчале паўтараць не трэба было. З хуткасцю ракеты яна паляцела на кірмаш, знайшла сваю горападарожніцу, і яны абедзве вярнуліся да свайго пад'езда. Тут бы ім і песні з радасці заспяваць, ды павучок Чарнушка ўспомніў пра свайго адзінокага сябра верабейчыка, які не ведае, дзе яго мама. І тады вырашылі ўсе выправіцца на дапамогу маме вераб'іхе і неўзабаве знайшлі яе ў суседнім двары пад старой закінутай машынай. Мама была яшчэ жывая, але ўжо амаль памірала. А здарылася вось што. Нечакана сярод дня наляцеў на чародку вераб'ёў вераб'іны ястраб. Адхілілася мама-вераб'іха ў апошні момант, пазбегла пагібелі, але ястраб сваімі вострымі кіпцюрамі параніў ёй крыло. Пчолка змазала рану мёдам, павучыха-маці зашыла ранку ніткамі павуціны, павучок Чарнушка расказаў вераб'ісе, што яе сынок жывы-здаровы і чакае ў сваім гняздзечку. Апрытомнела маці вераб'іха, набралася моцы, узмахнула падужэлымі крылцамі і ўзляцела на дах. Вельмі ўзрадаваўся яе сынок. Так і меліся яны на сваёй добрай зямлі, ля свайго пад'езда, сярод сваіх кветак і добрых сяброў.

— Добрай раніцы, павучок Чарнушка, — вітае верабейчык свайго сябра.

— Добрай раніцы, — адказвае павучок.

— Добрай раніцы, пчолка.

— Добрай раніцы, — прымружваючы вочы ад яркага сонца, адказвае пчолка.

І ўсе былі шчаслівыя. А як жа інакш? Бо калі клапаціцца адно пра адно, жыць у любові ды сябраваць — гэта і ёсць самае сапраўднае шчасце.

## Павучок, пчолка і матылёк

Аднойчы да пад'езда, ля якога ў міры і згодзе жылі павучок са сваёй мамай і пчолка са сваёй мамай, прыляцелі тры матылькі. Усе кветкі, дрэвы, кусты ля дома матылькам вельмі падабаліся, і яны вырашылі гасцяваць як мага больш, ажно пакуль не пойдуць восеньскія дажджы. Заўважый іх адзінокі і злы кот, які нікога не любіў і якога ніхто не любіў праз яго кепскі характар. Ён з усімі з-за драбязы сварыўся, біўся, краў, што мог — хацелася яму кіраваць усім дваром, быць гаспадаром.

— А вы што тут робіце, ля майго пад'езда? — накінуўся ён на матылёў.

— Гэта не твой пад'езд, а агульны, не твае кветкі, а бабулі з другога паверха, яна іх садзіла, — заступіўся за матылькоў павучок.

— А ты маўчы, няўдаліца, цябе нават у музычную школу не прынялі… няма такога інструмента, каб граць на ім чатырма лапамі, — адказаў кот.

— Ідзі сваім шляхам, мы матылькоў крыўдзіць не дазволім, — смела адказала пчолка.

— Ай, ей, ёй, ёй, мне страшна… напалохаўся да смерці… прытрымайце язык… У мяне знаёмы газонакасільшчык, я яму дам грошай, і ён, калі будзеце спаць, пакосіць і траву, і ўсе кветкі… усё пакосіць… — напалохаў усіх кот.

Сябры засумавалі. Ад гэтага ката можна было чакаць чаго заўгодна.

А кот прыдумаў вось што. Ён наважыўся злавіць аднаго з матылькоў і прывязаць да яго ножкі нітачку, навучыць розным фокусам. І будзе матылёк акрабатам, як у цырку. І будзе злы кот насіць яго з аднаго дзіцячага садка ў другі… будзе забаўляць дзяцей і заробіць багата грошай. Ці засушыць яго і прадасць калекцыянеру. Вось што прыдумаў хітры і хцівы кот і толькі чакаў зручнага моманту, калі матылёк, лётаючы ад адной кветкі да другой, адляціць падалей ад сваіх сяброў і застанецца адзін. Кот ляжаў пад клёнам і чакаў зручнага моманту. Ля суседняга дома расла адзінокая мальва, і матылёк вырашыў наведаць яе. Ён паляцеў адзін, без сваіх сяброў.

Мальва вельмі ўзрадавалася, калі ўбачыла незнаёмца. Яны пасябравалі. Размаўляючы, не прыкмецілі, як вечар надышоў. Хмары зацягнулі неба, зрабілася цёмна.

— Заставайся ў мяне начаваць, куды ты паляціш гэткай цемрай, — прапанавала мальва, — я схаваю цябе ў кветачку і прыкрыю вялікім лістом.

І матылёк згадзіўся. Усё гэта бачыў і чуў кот, які ўжо і нітачку падрыхтаваў, каб прывязаць да матылькавай ножкі.

Шарай гадзінай пчолка і павучок пачалі хвалявацца. Усе клаліся спаць. Мама пчала ўжо спала, мама павучыха таксама спала, паснулі ў кветках і сябры матылька, а маленькага матылька ля пад'езда ніхто не бачыў.

— Пайду я да адзінокай мальвы, праверу там, — сказаў пчолцы назіральны павучок.

— А ты цемры не баішся? — захвалявалася пчолка.

— Павукі цемры не баяцца, — смела адказаў павучок.

— Вось што. Я дам табе маленькі сотавы тэлефон. Калі бяда якая здарыцца, тэлефануй, я адразу прылячу, — прапанавала разумная пчолка.

Гэтак і зрабілі. Павучок дапаўз да адзінокай мальвы вельмі своечасова. Кот ужо быў там і наважыўся злавіць матылька.

— Ідзі адгэтуль, мурзаты павук, гэта нічыя мальва і нічый матылёк, — прыстрашыў павука кот, але было позна, павучок ужо ўскараскаўся на мальву і трымаў абарону ля кветачкі, у якой спаў матылёк.

Кот тым часам прыцягнуў дзве кардонныя скрыні, зрабіў з іх нешта накшталт лесвіцы і трапіў наверх. Павучок убачыў злыя катовы вочы, што свяціліся зялёным святлом, зусім побач. Тут ён успомніў матчыну навуку. Хуценька сплёў сетку з павуціны. Нахіліўся кот, шукаючы матылька, які салодка спаў, і адразу ж заблытаўся ў павуціне. А кот надта ж баяўся ўсялякага павуціння. Ён і не зразумеў у цемры, што гэта аблытала яго з ног да галавы… не ўтрымаўся і зваліўся на зямлю. Павуціна парвалася, а кот ачомаўся і зноў пачаў падкрадацца да матылька. Тады павучок і патэлефанаваў пчолцы па маленькім сотавым тэлефоне.

Пчолка пачула трывожны сігнал і не раздумваючы паляцела да адзінокай мальвы. Яна вельмі баялася, бо ніколі ў жыцці нікуды не лётала цёмнай ноччу. Але трэба было ратаваць сяброў, і яна ляцела, амаль нічога не бачачы. Кот ужо быў блізка, ужо цягнуў сваю брыдкую лапу да кветкі, у якой спаў матылёк, калі пачуў над вухам дзумканне.

— Прэч, нягоднік, а не, дык так ужалю, што мала табе не будзе! — прыстрашыла смелая пчолка.

Кот ведаў, што такое пчаліное джала, напалохаўся і скокнуў уніз.

— Нічога… Яшчэ паглядзім, хто каго! Матылёк будзе маім. Зараз я вазьму ў свайго знаёмага газонавую пілу і адразу ж зрэжу мальву, — паабяцаў кот.

Сябры вырашылі не кідаць мальву ажно да раніцы.

— Не бойцеся ката. Ён нідзе не вучыўся і не ўмее абыходзіцца з газонакасілкай. Да таго ж дворнік ніколі не дазволіць яму ўзяць газонакасілку. Мы з ім пасябравалі, — супакоіла сяброў высокая і гнуткая мальва, якую паважаў і цаніў за яе прыгажосць дворнік дзядзька Лёша, па бацьку Макаравіч, — гэта ён са злосці ўсіх палохае.

І сапраўды, кот больш не з'яўляўся. Хутка надышоў летні ранак. Прачнуліся мама павучыха і мама пчала, убачылі, што побач няма маленькай пчолкі і павучка і, ведаючы іхнюю няўрымслівасць, вельмі захваляваліся і нават спалохаліся, не ведаючы, куды яны гэтым разам падзеліся. Але неўзабаве ўсе супакоіліся. Матылёк, пчолка і павучок прыляцелі да свайго пад'езда. Вы скажаце, што павукі не лётаюць? І правільна. Яго на сваіх крыльцах прынёс матылёк. Во дзе была радасць для ўсіх! Павучок і пчолка не расказвалі матыльку, як яны яго ўначы ратавалі. Яны сябры верныя, смелыя і да таго ж сціплыя. Толькі мальва ведала пра тое, што здарылася ў гэту летнюю ноч і расказала мне па вялікім сакрэце, а я расказаў вам. Вось і казка закончылася. Малайчына той, хто чытаў, а хто слухаў, не кідаючы сваіх спраў, той крыху падабрэў.

# Двойчы ў Амерыцы

На сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра з розніцай у некалькі месяцаў з'явіліся дзве прэм'еры. Спектаклі настолькі не падобныя між сабой — ні якасцямі музычнага матэрыялу і драматургіі, ні жанрам, ні пастановачнай стылістыкай... Ці не варта было б гаварыць пра кожны з іх асобна? Ды так ужо сталася, што абедзве пастаноўкі яднае, у простым і ў пераносным сэнсах, агульнае месца дзеяння: не толькі адна сцэна, але і "геаграфічная прывязка". Сюжэты эксцэнтрычнай камедыі "Мая жонка — падманшчыца" і музычнага рэвю "Аднойчы ў Чыкага" грунтуюцца на рэаліях з амерыканскага жыцця. Хоць урэшце гэта зусім не мае прынцыповага значэння, бо і той, і другі спектакль, па сутнасці, не пра Амерыку ў розныя перыяды мінулага стагоддзя, а пра сучасных людзей і пра тое, што іх збліжае, пра зразумелыя нам пачуцці, пра звычайнае чалавечае імкненне да кахання, шчасця, жыццёвай пэўнасці і ўпэўненасці, устойлівасці.



З'яўленню на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра новай пастаноўкі пад знаёмай назвай "Мая жонка — падманшчыца" паспрыялі ўнутрытэатральныя згадкі. Са зменамі ў кіраўніцтве калектыву пачалася, як вядома, грунтоўная карэкціроўка агульнай творчай пазіцыі і рэпертуарных планаў. Вось тут і прydаліся згадкі пра "забытае лепшае" — досвед артыстаў старэйшага пакалення. Яны прапанавалі вярнуць на афішу спектакль, які меў даволі трывалы глядацкі поспех каля трыццаці гадоў таму. А перачыталі музычную камедыю У. Ільіна і У. Лукашова (лібрэта Ю. Рыбчынскага паводле п'есы В. Мэё і М. Энекена "Падманшчыца") рэжысёр Галіна Галкоўская, дырыжор-пастаноўшчык Марына Трацьякова ды мастак Любоў Сідзельнікава.

Галіну Галкоўскую як рэжысёра-педагога насцярожвае цяперашняя тэндэнцыя, нават у акадэмічнай харэаграфіі і ў оперы, акцэнтаваць увагу гледача на вонкавым баку пастаноўкі, на відовішчнасці, знарочыста агрэсіўных тэхнічных прыёмах, эпатажнай кідкасці дэкарацый, рэзкасці акцёрскай пластыкі. І яна прапануе не зусім традыцыйны сёння для гэтай сцэны акцёрскі спектакль. Развіццё сюжэтнай інтрыгі, якая ўтвараецца з чарады непаразумеласяцей, падманаў, падазрэнняў у стасунках маладой сямейнай пары, "падаграваецца" не сцэнічнымі спецэфектамі, а сродкамі псіхалагічнага тэатра, праз імкненне рэжысуры і выканаўцаў роляў да паглыбленай распрацоўкі ўзаемадачыненняў персанажаў. Паглыбленай настолькі, наколькі гэта дазваляе зрабіць жанр эксцэнтрычнай камедыі дый здатнасць саміх артыстаў працаваць "паводле Станіслаўскага".

Гісторыя пра тое, як, не навучыўшыся падтрымліваць утульнасць і цеплыню, атмасферу ўзаемнага даверу і павагі ў доме, шалапутная жонка спрабуе вярнуць каханага раўнівіца-мужа, кінуўшыся на злом галавы ў вір бясконцай хлусні, з "прад'яўленнем" нібыта родных, а насамрэч выкрадзеных, а потым яшчэ і падмененых, немаўлят... Амаральна, жорстка, жудасна? Але ж не забывайцеся пра "лёгкасць" жанру: менавіта эксцэнтрычная камедыйнасць з адчувальным дамешкам сентыментальнасці, светлая гама сцэнаграфіі, маляўнічы і выразна абыграны рэквізіт спрыяюць панаванню ў зале вясёлага настрою. І смеху! Гэты смех знішчае ўсё, пакідаючы хіба для самых сур'ёзных і ўдумлівых гледачоў простую выснову: і шчаслівы шлюб, і сапраўднае сяброўства, і стабільная радасць у доме сілкуюцца любоўю, павагай, даверам і шчырасцю. А ўменне прыгожа бавіць час не вытрымлівае параўнання з клопатамі пра блізкага чалавека, пра дзяцей...

Спектакль "Мая жонка — падманшчыца" створаны, што называецца, навырост. Але ўжо з першага паказу вызначыліся дасціпныя і дынамічныя, па-тэатральнаму сакавітыя (і падтрыманыя аркестрам) каскады ансамблевых мізансцэн з удзелам маладых артыстаў Яўгена Ермакова (Уільям), Алы Лукашэвіч (яго жонка Кэці), Дзяніса Мальцэвіча (Джымі, сябар сям'і), Наталлі Дзяменцьевай (Мэджы, сяброўка галоўнай геранні, жонка Джымі) ды іх віртуозных старэйшых партнёраў Наталлі Гайды (начальніца дзіцячага прытулка) і Васіля Сердзюкова (Генры, спачатку метрдатэль, затым паліцэйскі). Яркім тэатральным дэбютам і сапраўдным адкрыццём спектакля можна, без перабольшвання, назваць увасабленне Вікторыяй Стрыганковай ролі Бэтсі — няўклюдная, але кемлівай цемнаскурай служанкі, якая, раскрыўшы багатыя абертоны свайго голасу, надзвычай арганічна і чулліва, нібы для роднага немаўляці, праспявала прыгожую калыханку...



**Спектакль-сюрпрыз** "Аднойчы ў Чыкага" ўяўляе сабой арыгінальны твор паводле мастацкіх брадвейскіх мюзіклаў, лібрэта і вершы якога напісала яго рэжысёр Сусана Цырук. Сюжэт нагадае гледачу стары добры фільм "У джазе толькі дзяўчаты", а слых пацешыцца жывым гучаннем як знаёмых матываў з класікі сімфаджаза, так і іншых, у тым ліку менш вядомых для нашай публікі, але вельмі прыгожых мелодый.

Нагадаю, што мюзікл Дж. Стайна "У джазе толькі дзяўчаты" Сусана Цырук увасобіла ў тэатрах Новасібірска ды Іркуцка. Для мінскай сцэны прапанавала свой варыянт меладраматычнай гісторыі пра захапляльныя прыгоды вечна маладых і папулярных экранных герояў: Дафны, Джазэфіны і Душачкі (у спектаклі яе імя — Шугар, "цукар" па-нашаму) — з музыкай Дж. Стайна, Г. Мілера, Дж. Кандэра, К. Веласкес, Б. Стрэйзанд... Але не варта "па літарах" параўноўваць класіку кіно, завучаную многімі на памяць, з новым сучасным відовішчам. Дарэчы, тое, што на афішы сціпла пазначана словам "рэвю", па сутнасці — мюзікл, створаны шляхам адмысловай, не руціна-механічнай, а крэатыўнай кампіляцыі, і ўвасоблены зладжанай камандай пад кіраўніцтвам рэжысёра: дырыжорам-пастаноўшчыкам Андрэем Галанавым, расійскімі мастачкамі Таццянай Каралёвай (сцэнаграфія) ды Ірынай Уторнікавай (святло), балетмайстрам-пастаноўшчыкам Аленай Дзмітрыевай-Лаўрыновіч, хормайстрам Святланай Пятровай, акцёрамі.

Гэты збалансаваны кактэйль фантазій, алюзій, кароткіх імгненняў пранізлівай лірыкі ды несупыннага гумару варта паспытаць і пераборліваму эстэту, і музычна-тэатральнаму гурману, і таму, хто называе сябе проста гледачом і ходзіць у тэатр па радасць і добры настрой, каб скінуць з душы цяжар будзённасці... Пасля гэтага шматкроп'я і дадаць няма чаго: не так і часта нараджаецца на мінскай сцэне жывы і цэласны арганізм — дзіця сапраўднага, прафесійнага музычнага тэатра, дык ці ж варта разбіраць яго па костках! Падчас дзеяння не заўважаеш зацягнутых паўз і швоў, масавыя харавыя сцэны пластычна пераходзяць у дыялог, размоўныя зоны далікатна "перахопліваe" танец... Густ, пачуццё меры, унутраная культура і прафесіяналізм усіх, хто годна, без двух-сэнсоўнасцей і цыркавой банальнасці, увасобіў і ўвасабляе самыя крутыя і рызыкоўныя перыпетыі сюжэта "Аднойчы ў Чыкага", — уражваюць. А Настасся Цялежнікава-Шапо (Шугар), Дзмітрый Якубовіч (Джо-Джазэфіна), Дзяніс Мальцэвіч (Джэры-Дафна), Ігар Бычкоў (мільянер Філдынг), Святлана Маціеўская (кіраўніца жаночага джазбэнда), Віктар Цыркуновіч (менеджар Бінстак), майстры эпізодаў Віталь Краснаглазаў, Аляксандр Крукоўскі, Рыгор Крукоўскі ды іншыя артысты — таленавітыя, прыгожыя, пластычныя, тэмпераментныя — вартыя шчодрых авацый!

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: сцэны са спектакляў "Мая жонка — падманшчыца" і "Аднойчы ў Чыкага".





# Выбар мастакоў

На XX з'ездзе Беларускага саюза мастакоў, які прайшоў у Мінску, адбылося галасаванне па выбары кіраўніцтва гэтага творчага аб'яднання.

Галасы 216 дэлегатаў у ходзе выбараў старшыні саюза размеркаваліся наступным чынам: за Уладзіміра Савіча пададзена 162 галасы, за Аляксандра Дранца — 29, за Генадзя Буралкіна — 21 і за Сяргея Крыштаповіча — 4. Такім чынам, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі нашай краіны, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Савіч паўторна абраны (тэрмінам на тры гады) старшынёй БСМ. Першым намеснікам старшыні творчага саюза застаўся Рыгор Сітніца, а намеснікам старшыні па выставачнай дзейнасці — Сяргей Цімохаў.

Па стане на першае снежня ў грамадскім аб'яднанні налічваецца 1055 членаў. Пасля Мінска і Мінскай вобласці — 745 чалавек — другое месца ў краіне па колькасці членаў займае Віцебская абласная арганізацыя — 105 творцаў.

Беларускі саюз мастакоў арганізоўвае і праводзіць мастацкія выстаўкі разнастайнай стылістыкі і кірункаў адпаведна плану выставачнай дзейнасці: гэта міжнародныя і замежныя праекты, рэспубліканскія, абласныя, гарадскія і персанальныя экспазіцыі мастакоў, міжнародныя пленэры па жывапісе і скульптуры, сацыяльныя і камерцыйныя, выстаўкі памяці мастакоў. БСМ бярэ чынны ўдзел у міжнародных і замежных выстаўках, якія адбываюцца па ініцыятыве Міністэрства культуры і Міністэрства замежных спраў Беларусі, а таксама па асабістых кантактах мастакоў з галерэямі і творчымі арганізацыямі.

За апошнія тры гады БСМ сумесна з музеямі і галерэямі нашай краіны і за яе межамі ўдзельнічаў у арганізацыі больш як 500 выставак, пленэраў, сімпозіумаў і іншых мерапрыемстваў у галіне выставачнай дзейнасці. За гэты ж перыяд адзначаны званнямі, узнагародамі і прэміямі наступныя творцы: народны мастак Беларусі — Іван Міско і Уладзімір Тоўсцік; заслужаны дзеяч мастацтваў — Віктар Гаўрылаў; заслужаны дзеяч культуры — Уладзімір Слінчанка; ордэн Пашаны — Май Данцыг; ордэнам Францыска Скарыны ўганараваны Андрэй Заспіцкі, Мікалай Казакевіч; медалём Францыска Скарыны — Валерый Шкаруба, Уладзімір Пракапцоў, Валерый Славук, Леў Алімаў, Анатоль Арцімовіч, Віктар Барабанцаў; Дзяржаўнай прэміяй Беларусі — Віктар Альшэўскі, Уладзімір Зінкевіч, Уладзімір Савіч; спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва — Ігар Бархаткоў, Валерый Калтыгін; прэміяй Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва — Леанід Шчамялёў, Леў Гумілеўскі, Сяргей Гумілеўскі; міжнароднай прэміяй імя М. Шолахава — Віктар Грамыка; прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі — Уладзімір Вішнеўскі, Аляксей Панцюк-Жукоўскі; званнем ганаровага акадэміка Расійскай акадэміі мастацтваў — Уладзімір Зінкевіч, Уладзімір Савіч, Міхаіл Баразна, Уладзімір Мурахвер.

Паводле слоў Сяргея Цімохава, сярод галоўных кірункаў работы кіраўніцтва БСМ на наступны тэрмін — развіццё выставачнай дзейнасці, павышэнне якасці экспазіцый і дэманстрацыйных пляцовак, якія павінны адпавядаць агульнапрынятым стандартам, пашырэнне міжнароднага супрацоўніцтва, умацаванне эканамічнага становішча БСМ з развіццём яго вытворчай базы, а таксама кансалідацыя намаганняў членаў саюза для абароны творчых інтарэсаў і дабрабыту мастакоў.

Віктар КАВАЛЁЎ



Нашы юбіляры



Генадзь ОБУХ — заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь.

# Перамога Андруся Савосціна

Сёлета ў Брэсце прайшоў X Рэспубліканскі адкрыты дзіцячы конкурс-фестываль "Пралескі" сярод выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах. Строгае журы ўзнагародзіла многіх юных удзельнікаў. У намінацыі "Медныя духавыя інструменты" лаўрэатаў і дыпламантаў вылучылася шмат, але ўладальнік Гран-пры быў толькі адзін. І атрымаў гэтую найвышэйшую ўзнагароду (за бездакорнае выкананне на тубе "Канцоны" Аладава і II ды III частак Канцэрта № 2 Блажэвіча) гамяльчанін Андрусь Савосцін. Ён вучань ДМШ № 1 імя П.І. Чайкоўскага (выкладчык Юрый Дзегцяроў, канцэртмайстар Вольга Харытончык). Юрый Дзегцяроў расказвае:

— Туба — інструмент не для слабенькіх. Тут трэба мець не толькі моцныя лёгкія, але цярплівасць і настойлівасць, бездакорны слых. Яшчэ — ніколі не хвалявацца. Гэта ўсё ў Андруся ёсць. І ёсць больш значнае: звышпрацавітасць. Мяне чамусьці не пакідала ўпэўненасць у тым, што мой выхаванец заваюе на конкурсе прэстыжны прыз. Калі выступалі тубісты з усёй Беларусі, а я іх слухаў, седзячы ў зале, адзначаў пра сябе: "Не, да Андруся ім далёка!". Сёння век мабільнікаў і камп'ютараў, уставіў у вушы дынамічкі — і слухай суткамі ўлюбёныя мелодыі. А стаць музыкам, навучыцца граць бездакорна, удзельнічаць у конкурсах — гэта праца. Здараецца, калі трэба навучэнцам прыкласці намаганні, ахвяраваць сваім вольным часам, — кідаюць вучобу. Але я люблю сваю працу, люблю сваіх вучняў, радуюся, калі яны, пераадолеўшы сумненні і цяжкасці, "упрагаюцца" ў складаную працу і дамагаюцца поспехаў у музыцы.

А гэта — словы Андруся Савосціна, вучня 11 класа гімназіі № 56, васьмікласніка Гомельскай ДМШ № 1 імя П. Чайкоўскага:

— Я рады, што стаў уладальнікам Гран-пры. Але сваю перамогу адношу да супольнай працы. Гэта вынік настойлівай працы майго выкладчыка Юрыя Пятровіча Дзегцярова. А сам конкурсны іспыт мы вытрымлівалі разам з канцэртмайстрам. Шмат у чым маё выступленне залежала ад яе: адчуваў духоўную падтрымку Вольгі Мікалаеўны, падчас выступлення пачувалі сябе як адзіны арганізм.

Не ведаю, кім я стану (у школе яшчэ вучыцца год) — музыкам, ці медыкам, ці эканамістам, — але ўпэўнены, што музыка будзе суправаджаць мяне ўсё жыццё. Я навучыўся іграць не толькі на тубе, а і на гітары, на фартэпіяна. Дзякуй за гэта майму выкладчыку!

Анатоль БАРОЎСКІ

# Дом, дзе гадуюцца таленты

Шэсцьдзесят гадоў таму ў Слуцку, у драўляным будынку па вуліцы Віленскай, адкрылася музычная школа. Вераснёвымі днямі далёкага 1950-га ў яе першы клас прыйшлі 23 вучні па двух класах: "Баян" і "Фартэпіяна". Арганізатар і першы дырэктар школы Яўген Картуновіч запачаткаваў тыя добрыя традыцыі выхавання таленавітых дзяцей, якія падхапілі і працягнулі ў сваёй дзейнасці яго паслядоўнікі — наступныя кіраўнікі ўстановы: Васіль Мартэцкі, Уладзімір Чабаткоў, Арэст Мякіннікаў, Віктар Паўлоўскі, Міхаіл Зяневіч, Людміла Грудзініна. На працягу трыццаці гадоў кожны з іх яшчэ і дабудоўваў музычны дамок, бо кантынгент вучняў павялічваўся. А ў 1986 годзе горад падарыў школе новы, спецыяльна спраектаваны, сучасны будынак.

І сімвалічна, і ўсцешна, што з 2007 года дырэктарам Слуцкай музычнай стала яе выпускніца — Наталля Сапелкіна. Ды і з 65 настаўнікаў, якія цяпер працуюць тут, — 51 колішні навучэнец гэтай школы. Дарэчы, сёння яе наведваюць 610 юных музыкантаў. І нават не верыцца, што пачыналася ўсё з дзвюх спецыяльнасцей: баяна ды фартэпіяна. Сучасныя школьнікі (або за іх — бацькі) могуць выбіраць з дзесяці аддзяленняў: ёсць фартэпіяннае, струнна-смыковае, духавое і ўдарнае, струнна-народнае, народнае, харавое, эстраднае, тэарэтычнае і нават харэаграфічнае! А яшчэ тут працуе цэлы тузін творчых калектываў, сярод якіх ёсць адзначаныя званнямі "ўзорны" і "народны": ансамбль скрыпачоў "Туцці" (кіраўнік І. Кулакова), эстрадны ансамбль "Радуга" (кір. У.Трафімовіч), хор "Пралескі" (кір. В.Улазоўская), духавы аркестр (кіраўнікі П.Лазука, С. Лях ), аркестр народных інструментаў (кір. Н. Сапелкіна), хор малодшых класаў фартэпіяннага і струнна-смыковага аддзяленняў (кір. Л. Гурбо), хор малодшых класаў струнна-народнага і народнага аддзяленняў (кір. А. Лях), хор хлопчыкаў (кір. Г. Бруй), фальклорны ансамбль (кір. А. Лях), дзіцячы баянны аркестр (кір. А. Рэут), дзіцячы аркестр рускіх народных інструментаў (кір. А. Музыка), гітарна-мандалінны аркестр (кір. К. Вечар-Кавалеўская).



Усе калектывы актыўна ўдзельнічаюць у канцэртным жыцці школы, конкурсах, фестывалях розных узроўняў. Толькі за апошнія два гады яе вучні і настаўнікі былі адзначаны больш як 120 дыпломамі і граматамі рэгіянальных, абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і фестываляў. Яны з гонарам спаборнічалі з прадстаўнікамі Расіі, Украіны, Чэхіі. Сёлета Слуцкая дзіцячая музычная школа заняла першае месца ў Мінскай вобласці паводле вынікаў абласных, рэспубліканскіх конкурсаў, якія праводзіліся пад патранатам Міністэрства культуры Беларусі. І, вядома ж, ганарыцца калектыў вучнямі, якія сталі стыпендыятамі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі: віяланчэлісткай Настассяй Мігель (клас В.Турэйкі), дамрысткамі Настассяй Баканавай (клас Н.Сапелкінай) і Ганнай Хаміцэвіч (клас Ж. Ануфрэйчык), мандаліністкай Вікторыяй Барадзіной (клас К. Вечар-Кавалеўскай), акардэаністам Аляксандрам Кулагам (клас А. Рэут), ксілафаністам Паўлам Гурбо (клас настаўніка С. Ляха), Іванам Шкулепам (тэорыя музыкі, клас В.Шэпшук), узорным хорам "Пралескі". І такі радасны факт: упершыню за 60 гадоў гісторыі школы на абласным конкурсе юных піяністаў уладальнікам Гран-пры стала юная случанка — вучаніца 6 класа Паліна Карцель (настаўнікі — В. Андрушчанкава і Я. Кулевіч).

Змяняюцца пакаленні, з'яўляюцца новыя імёны, але ў школе заўсёды застаюцца вечнымі такія каштоўнасці, як дабрыня, справядлівасць, прыгажосць. І, вядома ж, — Музыка...

Наталля ВАСІЛЁНАК

На здымку: ансамбль "Радуга".

# Дзевяноста? Не ўзрост!

Для чалавека 90 гадоў — лічы, век за плячыма. Яна ж у росквіце творчасці, у руху наперад. Разам з таленавітымі кіраўнікамі, педагогамі, вучнямі піша новыя старонкі сваёй гісторыі, а таксама — гісторыі музычнага жыцця ў горадзе над Сожам. Яна — дзіцячая музычная школа № 1 імя П. І. Чайкоўскага — з'яўляецца самай старэйшай на Гомельшчыне і адной з першых паслярэвалюцыйных музычных навучальных устаноў у Беларусі. Многія педагогі ды выпускнікі школы сталі гонарам беларускага музычна-педагагічнага, кампазітарскага і выканальніцкага мастацтва, адыграўшы велізарную ролю ў развіцці айчыннай культуры. Дзесяткі таленавітых гамяльчан год за годам працягваюць вызначацца і перамагаць на конкурсах розных узроўняў. А зала іх школы "трымае марку" адной з галоўных канцэртных пляцовак горада, на якой выступаюць лепшыя музыканты краіны, замежныя госці, ладзяцца разнастайныя выканальніцкія конкурсы, у тым ліку міжнародны — "Музыка надзеі".

З чаго пачыналася? У ліпені 1919-га па ініцыятыве групы аўтарытэтных мясцовых музыкантаў (А. Ягораў, М.Назараў, Е. Брук, А.Брук, Б. Разенблюм, А.Туранкоў) была заснавана Народная кансерваторыя для працоўных, дарослых і дзяцей. Яе загадчыкам стаў харавы дырыжор, педагог і кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Ягораў. Гэтая асветніцкая ўстанова мела на мэце даць сваім слухачам агульнае музычнае развіццё і пісьменнасць. Апроч таго, выкладчыкі далучалі да музыкі жыхароў Гомеля: ладзілі бясплатныя лекцыі-канцэрты, вялі гурткі мастацкай самадзейнасці на прадпрыемствах і рабфаках. А ў красавіку 1920 года Народная кансерваторыя была рэарганізаваная ў Гомельскую дзяржаўную музычную школу I і II ступені спецыяльнай музычнай адукацыі. У праграму ўваходзіла спецыяльная ігра на фартэпіяна, скрыпцы, альце, віяланчэлі, кантрабасе, флейце, фагоце ды іншых аркестравых інструментах; вывучэнне тэорыі музыкі ды гармоніі; сумесная ігра дуэтаў, трыа, квартэтаў. Праз год на базе гэтай школы ствараецца Дзяржаўны музычны тэхнікум і спецыяльная школа, якая рыхтавала навучэнцаў для тэхнікума. Яшчэ праз год установе было нададзена імя заснавальніка першай расійскай кансерваторыі Антона Рубінштэйна, у 1926-м — імя кампазітара Аляксандра Скрабіна. А 12 кастрычніка 1940-га, да 100-годдзя з дня нараджэння Пятра Чайкоўскага, Указам Прэзідыума Вярхоўнага савета БССР школе, па просьбе выкладчыкаў і навучэнцаў, было нададзена гэтае вялікае імя.

У даваенны час школай кіравалі габаіст М. Назараў; скрыпач, маэстра гарадскога сімфанічнага аркестра С. Захарын; выпускнік Лейпцыгскай кансерваторыі піяніст Б. Разенблюм ды іншыя выдатныя музыканты. Працавалі тут знакамітыя дзеячы беларускай культуры, педагогі, кампазітары А. Туранкоў, Р. Пукст, піяніст Г. Пятроў. Гонар школы складалі і яе таленавітыя выпускнікі...

У 1951 годзе школа аддзяляецца ад музычнага вучылішча (тэхнікума). І шырокую вядомасць за межамі не толькі вобласці, але і Беларусі, набывае дзякуючы актыўнай дзейнасці харавога дырыжора, заслужанага работніка культуры Беларусі, першага старшыні Гомельскага абласнога аддзялення Беларускага саюза музычных дзеячаў У. Курыліна, які быў яе дырэктарам два дзесяцігоддзі — з 1985 года да апошніх дзён свайго жыцця, што абарвалася ў 2005-м. За гэты час Уладзімір Віктаравіч здолеў перабудаваць і ўзбагаціць навучальна-выхаваўчы і творчы працэсы, сфарміраваць высокапрафесійны калектыў педагогаў-музыкантаў, наладзіць шырокую музычна-асветніцкую работу. Ён ведаў і апекаваў усіх навучэнцаў, сачыў за лёсам кожнага. У школе яго любілі. І гэта было галоўным складнікам агульнага поспеху. Тое, што не паспеў зрабіць У. Курылін, выконваюць сёння шматлікія яго выхаванцы — адданыя музыцы людзі.

У педагагічным калектыве школы, які сёння ўзначальвае М. Галавач (выканаўчы дырэктар міжнароднага дзіцячага конкурсу "Музыка надзеі", кіраўнік народнага хору гомельскага Дома настаўніка), столькі яркіх асоб! Гэта завучы Т. Кавалеўская і Т. Канавалава; кіраўнік струннага аддзялення, салістка народнага ансамбля народных інструментаў "Быліна" А. Вальніцкая; пераможца абласнога конкурсу "Настаўнік года-2010", намеснік старшыні Гомельскага абласнога аддзялення БСМД Л. Фёдарава; кіраўнік аддзялення духавых інструментаў і ўзорнага аркестра духавых інструментаў школы С. Дабрыдзенеў; кіраўнік аддзялення "Баян-акардэон", а таксама ўзорнага аркестра беларускіх народных інструментаў і народнага ансамбля народных інструментаў "Быліна" А. Склема; кіраўнік харавога аддзялення, узорнага хору "Звонкія галасы" і вакальнага педагагічнага ансамбля "Натхненне", якія часта гастралююць у Германіі ды Францыі, Г. Крэс; выкладчык-музыказнаўца, таленавітая вядучая значных канцэртных праграм, у тым ліку ў абласной філармоніі, — Н. Сапранкова...

І яшчэ большым атрымаецца пералік выдатных вучняў — лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. За імі — будучыня айчыннай музычнай культуры.

Народная кансерваторыя для працоўных, дарослых і дзяцей мела на мэце даць сваім слухачам агульнае музычнае развіццё і пісьменнасць. Апроч таго, выкладчыкі далучалі да музыкі жыхароў Гомеля: ладзілі бясплатныя лекцыі-канцэрты, вялі гурткі мастацкай самадзейнасці на прадпрыемствах і рабфаках.

Арцём КУМЕЛЬСКІХ




## Слова краязнаўцы



Мікалай Мароз з Мінска разважае пра тое, як цікавасць да ўласнага радаводу можа стаць штуршком да больш глыбокіх краязнаўчых пошукаў:

— Яшчэ ў маленстве, бываючы ў Капылі ў сваякоў, я не раз чуў гісторыі пра тое, як жылі мае продкі, мне паказвалі месца на адной з вуліц Капыля, дзе раней быў каменны крыж, што паставіў мой прапрадзед Фама Мароз. У 1880-я гады Фама ажаніўся з дачкой капыльскага войта Юстынай Зарамбоўскай. Бацькі Юстыны не падтрымлівалі замужжа з небагатым Фамой, але каханне было мацней. Аднойчы ўлетку Фама, разгарачаны працай (ён быў добрым цесляром), акунуў галаву ў бочку з халоднай вадой і пасля гэтага аслеп на ўсё жыццё. Атрымалася так, што ніводнага са сваіх дзяцей ён не ўбачыў… Памёр Фама ў пачатку 1920-х і быў пахаваны на старых праваслаўных могілках, знесеных у 1970-я пры будаўніцтве стадыёна.

Гісторыі пра родзічаў выклікалі цікавасць да ўласнага радаводу. Так, я звярнуўся ў Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, дзе даследаваў метрычныя кнігі Капыльскай царквы, рэвізскія сказкі (перапісы насельніцтва часоў Расійскай імперыі), інвентары Капыля часоў Вялікага Княства Літоўскага. Паступова расла цікавасць да гісторыі мястэчка, асяроддзя, у якім жылі продкі. У другой палове 1990-х гадоў у Капылі праходзілі археалагічныя раскопкі пад кіраўніцтвам Л. У. Калядзінскага, у якіх давялося ўзяць удзел і мне. Гэта было шчасце: раскопваць зямлю, знаходзіць рэчы, якімі карысталіся капыляне ў старажытныя часы. Цікавасць да гісторыі Капыля падштурхоўвала да новых даследаванняў.

Так мне стала вядома і пра своеасаблівую гаворку — кравецкую мову, створаную капыльскімі мяшчанамі, сярод якіх было шмат краўцоў. Пры яе дапамозе сябры кравецкага цэха зносіліся паміж сабой так, каб гэтага не разумелі іншыя людзі. “Калі знахціш, то маўкор!” — такія словы, як пісаў ураджэнец Капыля С. Х. Александровіч, можна было пачуць на капыльскім рынку ў пасляваенны час. Азначала гэта: калі ведаеш, дык маўчы. Сярод іншых слоў можна адзначыць: супнік — хлеб, ерац — бацька, лабур — хлопец, карбоння — дзеўка, хадырыкі — ногі, буська — работа, лавад — конь і інш. Апошнія носьбіты кравецкай мовы жылі яшчэ ў канцы XX стагоддзя.

## Да 660-годдзя Вітаўта

Прайшлі Пятыя Гарадзенскія чытанні, прымеркаваныя да 660-годдзя Вітаўта Вялікага, князя гарадзенскага, трокскага і вялікага князя літоўскага. Канферэнцыя ладзілася аддзелам краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага. У ёй прынялі ўдзел вядомыя гісторыкі — Алесь Краўцэвіч, Святлана Марозава, Святлана Сяльверстава, Ігар Трусаў, Андрэй Чарнякевіч. У сваіх выступленнях яны звярнулі ўвагу на розныя аспекты дзейнасці Вітаўта Вялікага. Вітаўт прадстаў як дзяржаўны дзеяч, была ахарактарызавана яго перасяленчая і ўсходнееўрапейская палітыка, палітыка па арганізацыі лясной гаспадаркі і палявання. Не абышлі ўвагай навукоўцы ваенны рыштунак і зброю тых часоў, а таксама культурнае жыццё — мастацтва, архітэктура, рукапісныя кнігі і нават кананічнае права і вянчанне дачкі Вітаўта, летазлічэнне ў канцы XIV — першай чвэрці XV ст. разглядаліся на чытаннях.

Анастасія ВЕСЯЛУХА

## Музейны ўнікат

# Дуда і сёння добра грае

Лепельскі раённы краязнаўчы музей можа прэтэндаваць на званне Меккі для даследчыкаў беларускай народнай музыкі і фольк-выканаўцаў. Менавіта там захаваны адзіны дакладны прыклад старадаўняй беларускай дуды — самы стары інструмент на тэрыторыі Беларусі.



Самая старая дуда, якая захавалася ў Беларусі.

У 1966 годзе дуду перадаў у музей унук музыкі Івана Місніка з вёскі Верабкі Лепельскага раёна. У шматлікіх крыніцах яна датуецца 1887 годам. Але ў гэтым годзе інструмент быў набыты дударом у сплаўшчыкаў лесу на Бярэзінскім канале, выраблены ён быў раней.

Лепельская дуда адносіцца да тыпу аднабурдонных дудаў (бурдон — трубка-гук). Яна цікавая сваімі невялікімі памерамі і эстэтычным аздабленнем.

Дуда — традыцыйны беларускі інструмент. Яна абавязкова гучала на святах, выкарыстоўвалася ў абрадах. Дударская музыка павінна была гучаць на хрэсьбінах і на вяселлі. Мясцовыя жыхары сведчаць, што верабскага дудара запрашалі на вяселлі нават у вёсачкі Полацкага павета, бо гэтае сакральнае свята ўявіць без дуды было немагчыма.

— Дудар — гэта маг, чараўнік, валхвіт, той, хто злучае два светы, разважае Яраш Малішэўскі, музыка-мультыінструменталіст, сааўтар кнігі “Незвычайная энцыклапедыя беларускіх народных інструментаў”. — Своеасаблівы беларускі шаман. Дудар — гэта той, хтоператварае прыродную стыхію, хаос у элемент космасу. Лічылася, што дудар нават можа змяніць надвор’е — асабліва карысна гэта было падчас сухмені ці бясконцых залеваў, што пагражалі ўраджаю. Сёння мы можам хіба вельмі прыблізна, у агульных рысах рэканструяваць тую сістэму, тую касту валхвоў, у якую ўваходзілі і дудары. Да нас дайшла адно мізэрная часцінка тых ведаў. Але досыць пачуць дуду, каб ты адчуў нешта надзвычайнае. Гук уздзейнічае на падсвядомасць, абуджае штосьці забытае.

Гучала верабская дуда ў руках майстра прыкладна да 50-х гадоў XX стагоддзя. Потым стала музейным экспанатам. Але знаўцы сцвярджаюць пра лепельскі інструмент: “Дуда і сёння добра грае”.

Дударскія традыцыі, дарэчы, на Лепельшчыне не зніклі. Гаспадар аграсядзібы “Поўсвіж” Васіль Шкіндзер ужо тры гады самастойна асвойвае дуду, якую зрабіў майстар Тодар Кашкурэвіч. Дударскім мастацтвам Васіль захапіўся, пабываўшы на рамесным фэсце на Браслаўшчыне. Вырашыў паспрабаваць, і цяпер аднавяскоўцы чуюць традыцыйную беларускую музыку на Купалле, Каляды ды іншыя святы. Пад дуду Васіля Шкіндзера можна станцаваць “Падыспань”, “Кракавяк”, “Бабыля” дый іншыя танцы.

Заўтра, на каталіцкія Каляды, на Лепельшчыне традыцыйна будуць жаніць Цярэшку (старадаўняя абрадавая гульня моладзі, асноўнай мэтай якой з’яўляецца падбор шлюбных пар). Злучаць хлопцаў і дзяўчат у пары так званыя “бацька” і “матка” будуць пад гукі дуды Васіля Шкіндзера.

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ
Фота аўтара

# Гісторыя аднаго прозвішча

Энцыклапедычны даведнік “Асветнікі зямлі Беларускай”, выпушчаны выдавецтвам “Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі” ў 2006 годзе, у біяграфічнай даведцы, прысвечанай вядомаму беларускаму гісторыку і краязнаўцу М. В. Без-Карніловічу (1796 — 1862), адзначае, што ён нарадзіўся ў дваранскай сям’і ў Магілёўскай губерні. А гэта значыць, аўтар гэтай даведкі, які чамусьці вырашыў застацца невядомым, сцвярджае, што Міхась Восіпавіч нарадзіўся ў Беларусі, таму што Магілёўская губерня знаходзілася ў нашым краі.



Але яшчэ ў 1984 годзе гісторык-краязнаўца Г. А. Каханоўскі ў біяграфічным нарысе пра М. В. Без-Карніловіча, змешчаным у кнізе “Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XIII — XIX стст.”, звярнуў увагу чытачоў на тое, што па гэтым пытанні ёсць два пункты гледжання: “Паводле архіўных звестак, — піша Генадзь Аляксандравіч, — (Без-Карніловіч. — В. А.), — паходзіў са шляхты Магілёўскай губ., паводле іншых — нарадзіўся ва Украіне”. Пры гэтым Г. А. Каханоўскі спасылаўся на даволі сур’ёзныя крыніцы — матэрыялы Цэнтральнага Дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва.

На жаль, Генадзь Аляксандравіч не выказаў тады, якому з гэтых двух пунктаў гледжання ён аддае перавагу. Аднак праз дзесяць гадоў, у 1994 годзе, у сваёй даведцы пра Без-Карніловіча, падрыхтаванай адмыслова для першага тома “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” (Мн., 1994), ён адзначыў, што Міхась Восіпавіч нарадзіўся ў Магілёўскай губерні, г.зн. у Беларусі. У якасці крыніц, якія паслужылі яму ў гэтым азначэнні, Г. А. Каханоўскі назваў сваю кнігу “Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі…” і кнігу В. К. Бандарчыка “Гісторыя беларускай этнаграфіі” (Мн., 1964), якая, дарэчы, цалкам нічога не кажа пра месца нараджэння М. В. Без-Карніловіча.

Паколькі Генадзь Аляксандравіч не назваў крыніц, якія дазволілі яму прыйсці да такога меркавання, то аднясём гэта да яго высокага патрыятычнага пачуцця, якім сапраўды валодаў гэты незвычайны чалавек, бязмежна закаханы ў сваю радзіму — Беларусь. І паспрабуем самі разабрацца ў гэтым вельмі далікатным пытанні.

Справа ў тым, што М. В. Без-Карніловіч сапраўды нарадзіўся ў дваранскай сям’і, але не ў Магілёўскай (у Беларусі), а ў Падольскай губерні (ва Украіне). Бацька яго служыў кантралёрам у памежнай мытні горада Магілёва на Днястры, дзе меў уласную хату, а калі выйшаў у адстаўку, пасяліўся ў сваім маёнтку пры сяле Барсукоўцы Ушацкага павета Падольскай губерні. Менавіта тут, у радавым маёнтку Карніловічаў, прайшло дзяцінства Міхася і яго роднага малодшага брата — дзекабрыста Аляксандра. І невыпадкова ж, вядома, у лісце з Петрапаўлаўскай крэпасці ад 23 чэрвеня 1831 года да брата Міхася Аляксандр Карніловіч пісаў: “Я даведаўся, што ў нашай благаслаўлёнай Падоліі халера”. Пад словам “бласлаўлёнай” дзекабрыст, безумоўна, меў на ўвазе родную зямлю, на якой яны з братам нарадзіліся і выраслі.

Але гэтая акалічнасць не дае нам падстаў лічыць М. В. Без-Карніловіча не беларускім гісторыкам і краязнаўцам. Доўгае, на працягу шматлікіх гадоў, знаходжанне яго ў Беларусі, дбайнае яе гістарычнае, тапаграфічнае і статыстычнае вывучэнне, карпатлівае збіранне пра яе архіўных дакументаў, этнаграфічных матэрыялаў, а таксама паданняў і легенд дазволіла Міхасю Восіпавічу ажыццявіць два выдатныя даследаванні нашага краю: “Витебская губерния” (СПб., 1852) і “Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней относящихся” (СПб., 1855).

Таму, лічым, вельмі дарэчы прывесці тут некалькі маларвядомых фактаў з біяграфіі Без-Карніловіча, якія чамусьці дагэтуль не знайшлі месца ў нашай гістарычнай і краязнаўчай літаратуры.

Так, пасля заканчэння ў 1816 годзе 1-га кадэцкага корпуса Міхась Восіпавіч служыў каля дзесяці гадоў пры галоўнай кватэры 2-й арміі і ў 1826 годзе стаў штабс-капітанам. У сувязі з удзелам брата Аляксандра ў падзеях 14 снежня 1825 года і наступным яго зняволеннем, Міхась Восіпавіч вымушаны быў змяніць сваё прозвішча. Ва ўсіх афіцыйных паперах і дакументах 20 — 30-х гадоў XIX стагоддзя ён падпісваўся: “Бескарніловіч”. У 1828 — 1829 гадах Міхась Восіпавіч прыняў удзел у турэцкай кампаніі і быў узнагароджаны ордэнамі Георгія 4-й ступені і Уладзіміра 4-й ступені з мячамі і бінтамі. Гэта дазволіла брату Аляксандру ў лютаўскім лісце 1831 года заўважыць: “Ты быў у паходзе, дакладна, адрозніўся, бо бачу на пячатцы тваёй два крыжы”.

Пасля гэтага Міхась Восіпавіч знаходзіўся пры галоўнай кватэры 1-й арміі, дзе пад кіраўніцтвам вядомага геадэзіста Ф. Ф. Шуберта праводзіў трыганаметрычную здымку ў Наўгародскай губерні. Да гэтага часу адносяцца першыя публікацыі Міхася Восіпавіча на гістарычныя тэмы. Прычым, усе свае друкаваныя працы ён падпісваў нелегальна сваім сапраўдным прозвішчам “М. В. Карніловіч”. У “Северной пчеле”, напрыклад, ім апублікаваныя: “Гістарычна-статыстычнае апісанне павятовага горада Валдая (у Наўгародскай губерні)”, 1832; “Статыстычнае апісанне горада Баровічы”, 1834; “Нашэсце літоўцаў у 1609 годзе на Усцюжну, павятовы горад Наўгародскай губерні”, 1836; “Шведы ў Ціхвіне ў XVII стагоддзі”, 1837, а таксама ў часопісе “Сын Айчыны” ў № 168 за 1834 год — гістарычнае даследаванне “Князь Міхаіл Глінскі”.

За ўдзел у трыганаметрычнай здымцы ў Наўгародскай губерні Міхась Восіпавіч 10 красавіка 1832 года быў узведзены ў падпалкоўнікі. Гэту важную падзею ў сваім лісце ад 31 мая 1832 года адзначыў брат Аляксандр: “Душэўна віншую цябе з павышэннем: ты зараз штаб-афіцэр ва ўсёй форме”.

І яшчэ пра адну цікавасць і цікаўную рысу ў біяграфіі Міхася Восіпавіча хочацца распавесці. У пачатку 50-х гадоў, калі ён дасягнуў чыну генерал-маёра і надышоў час аддаваць сваіх сыноў — Зміцера і Мікалая — у навучальныя ўстановы, Міхась Восіпавіч звярнуўся ў Дэпартамент геральдыі, а потым і непасрэдна да Мікалая І пра дазвол адкінуць у сваім прозвішчы прыстаўку “Бес-” і пісаць яе, як і ўсе яго сваякі, проста “Карніловіч”. Але такога дазволу ён не дачакаўся, і яму было загадана пісаць сваё прозвішча надалей “Без-Карніловіч”. Пад такім менавіта прозвішчам была выдадзена яго праца “Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней относящихся”. З гэтым імем ён і ўвайшоў у нашу беларускую гісторыю.

Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ

# У люстэрку дакументаў

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшло ўрачыстае адкрыццё выстаўкі “Спадчына акадэміка Я. Ф. Карскага: да 150-годдзя з дня нараджэння” і прэзентацыя аднайменнага электроннага выдання. Выстаўка сталася сумесным праектам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і Санкт-Пецярбургскага філіяла Архіва Расійскай акадэміі навук. У ёй прынялі ўдзел Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці, Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гродзенскай вобласці, Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў. У гэты ж дзень на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прайшоў “круглы стол” з удзелам навукоўцаў, прысвечаны Я. Ф. Карскаму.

Падчас адкрыцця выстаўкі і прэзентацыі электроннага выдання намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай рабоце і сувязях з грамадскасцю Людміла Кірухіна распавяла прысутным пра лёс прыватнага кнігазбору Я. Ф. Карскага, ён сёння захоўваецца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Людміла Генадзьеўна заўважыла, што калекцыя кніг мае асобныя інвентарныя нумары; выданні, што ў яе ўваходзяць, адлюстроўваюцца ў электронным каталогу бібліятэкі і паступова ўводзяцца ва ўжытак.

Унікальныя дакументы, сярод якіх — фотаздымкі, біяграфічныя матэрыялы, запісныя кніжкі з выпраўленнямі і ўстаўкамі аўтара, для часовай экспазіцыі прадаставіў Санкт-Пецярбургскі філіял Архіва Расійскай акадэміі навук. Ларыса Бондар, кандыдат гістарычных навук, вучоны сакратар гэтай установы, падкрэсліла: “Святкаванне 150-гадовага юбілею Я. Карскага было запланавана і ў Пецярбургу. У маі 2010 года мы правялі ўласную выстаўку, прысвечаную акадэміку, прыемна паўдзельнічаць і ў гэтым сумесным праекце. Фонд Я. Карскага багаты і разнастайны, у ім прадстаўлены разнапланавыя дакументы, яны адлюстроўваюць не толькі біяграфію акадэміка, але і гісторыю эпохі, у якую жыў і працаваў вучоны”.

Аляксандр Карскі, праўнук Я. Ф. Карскага, прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы электроннага выдання і прадаставіў для публікацыі шэраг каштоўных матэрыялаў, у іх ліку — спіс публікацый Я. Ф. Карскага, звесткі пра месцы, у якіх Яўхім Фёдаравіч спыняўся (на працягу 2 — 3 дзён) і дзе ён збіраў лінгвістычны і фальклорны матэрыял. На дыску змешчаны таксама і поўны пералік лістоў да Я. Ф. Карскага, тых, што захоўваюцца ў фондзе акадэміка ў Санкт-Пецярбургскім філіяле Архіва РАН і ў сямейным архіве. Аляксандр Аляксандравіч падкрэсліў: “Спадзяюся, што звесткі пра гэтыя карэспандэнцыі будуць садзейнічаць далейшаму вывучэнню жыцця і навуковай дзейнасці Я. Ф. Карскага, што электроннае выданне зацікавіць вучоных у розных краінах, таму падаецца, раздзел эпісталярнай спадчыны яшчэ будзе папаўняцца”.

Загадчык аддзела публікацый Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Віталь Скалабан заўважыў: “Архіўны дакумент — справа спецыфічная, і сёння ў люстэрку гэтых дакументаў мы бачым новага Карскага, які не толькі адкрыў свету Беларусь, намаляваў карту нашай краіны, што стала асновай для вызначэння межаў беларускай дзяржавы ў пачатку XX ст., ён паўстае як жывы чалавек. На выстаўцы адметным з'яўляецца раздзел пра жонку акадэміка Сафію Сцепуржынскую, тут упершыню падаюцца ўспаміны Сафіі пра яе знаёмства з будучым мужам. Гэтыя матэрыялы прадаставіў адзін з арганізатараў выставы — Санкт-Пецярбургскі філіял Архіва РАН. Гэты архіў надзвычай багаты на беларускія матэрыялы. Вельмі добра, што сёння мы зрабілі вялікі крок наперад у кірунку сумеснага выкарыстання архіўнай спадчыны, думаю, што наперадзе яшчэ шмат навуковых праектаў”.

Марына ВЕСЯЛУХА

1 студзеня 2011 г. спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага вучонага і грамадскага дзеяча, акадэміка Расійскай акадэміі навук Яўхіма Карскага (1861 — 1931). Ён вядомы перш за ўсё як вучоны — філолаг, этнограф, фалькларыст, палеограф, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, аўтар больш як 700 навуковых прац, у тым ліку трохтомнага даследавання “Беларусы” — аднаго з вышэйшых дасягненняў еўрапейскай славістыкі канца XIX — пачатку XX ст.

# Кнігазбор Яўхіма Карскага

Яўхім Фёдаравіч Карскі пакінуў яркі след у гісторыі беларускага народа як актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальнага руху, грамадска-палітычны дзеяч на ніве асветы і культуры. Постаць гэтага акадэміка знакавая не толькі для беларускай, але і для расійскай культуры: ён быў адным з арганізатараў акадэмічнай навукі ў Расіі, членам праўлення і прэзідыума Расійскай акадэміі навук, дырэктарам Музея антрапалогіі і этнаграфіі, рэдактарам шырокавядомых часопісаў “Русский филологический вестник” і “Известия Отделения русского языка и словесности”.

У фондзе навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі захоўваецца ўнікальны прыватны кнігазбор Я. Ф. Карскага, падараваны бібліятэцы ў 1922 г. самім уладальнікам. Гэта калекцыя на сённяшні дзень налічвае каля 2,5 тысяч экзэмпляраў і з'яўляецца каштоўным і, верагодна, найбольш поўным у Беларусі зборам літаратуры па славяназнаўстве, славянскай філалогіі і этнаграфіі канца XIX — першай чвэрці XX ст. Знешні выгляд кнігазбору даволі сціплы, у ім адсутнічаюць дарагія пераплёты. Каштоўнасць гэтай бібліятэкі абумоўлена перш за ўсё падборам і зместам кніг. Яна ўключае работы вядомых беларускіх, рускіх, польскіх, балгарскіх, чэшскіх, сербскіх, славацкіх, французскіх навукоўцаў. Многія кнігі ўтрымліваюць аўтографы знакамітых аўтараў, адрасаваныя акадэміку Карскаму, а таксама пазнакі і запісы самога Яўхіма Фёдаравіча. Шмат выданняў у кнігазборы прысвечана Беларусі.

Прыватная бібліятэка — важная крыніца вывучэння жыцця і дзейнасці Я. Ф. Карскага. У свой час яна служыла вучонаму творчай лабараторыяй, была неабходнай прыладай яго навуковай працы. І таму сёння праз тэматычны склад і змест выданняў, пазнакі і аўтографы на асобных кнігах яна адлюстроўвае працэс даследчай працы, ход думкі, этапы навуковых дасягненняў, эвалюцыю навуковых і грамадска-палітычных поглядаў, а таксама кола калег, аднадумцаў і сяброў.

Лёс бібліятэкі Я. Ф. Карскага, як і лёс самога вучонага, вельмі няпросты. Першую сусветную вайну яна перажыла ў акупіраванай немецкімі войскамі Варшаве, Яўхім Фёдаравіч не змог забраць яе з сабой у эвакуацыю. Толькі ў 1919 г. з вялікімі цяжкасцямі ўдалося перавезці кнігазбор у Мінск. Пасля таго, як у маі 1919 г. Народны камісарыят асветы Літоўска-Беларускай ССР адхіліў Я. Ф. Карскага ад пасады прафесара Мінскага педагагічнага інстытута па прычыне “няправільнага” палітычнага крэда вучонага, вучоны выехаў на сталае месца жыхарства ў Петраград. Але яго бібліятэка засталася ў Мінску. І калі ў 1921 г. быў створаны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, для адкрыцця якога Яўхім Фёдаравіч прыклаў шмат намаганняў, перадаў яму сваю калекцыю кніг. У той час яна налічвала па розных звестках ад 3 да 4 тысяч асобнікаў. У гады Другой сусветнай вайны бібліятэка вучонага моцна пацярпела. Яна была часткова знішчана, а часткова — вывезена ў Германію. У 1945 г. кнігазбор вярнуўся ў Мінск, але з вялікімі стратамі. Па падліках Н. Б. Ватацы і М. Я. Кандратоўскай, страчана каля 500 адзінак, у тым ліку першая кніга састаўленага Я. Ф. Карскім рукапіснага каталога бібліятэкі.

Пасля вайны асноўны масіў кнігазбору Яўхіма Фёдаравіча захоўваўся цэласным комплексам, але шэраг выданняў быў заінвентарызаваны ў розныя фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Ёсць верагоднасць адшукаць кнігі з гэтай калекцыі і ў фондах іншых бібліятэк Беларусі. Напрыклад, Псалтыр з дрэварытамі Васіля Вашчанкі, выдадзены ў Магілёўскай Багаяўленскай друкарні ў 1757 г., сёння захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Мяркуем, гэта беларускае выданне Псалтыра займала пачэснае месца на паліцах прыватнай бібліятэкі вучонага, які абараніў доктарскую дысертацыю на тэму “Беларускія пераклады Псалтыра ў XVI — XVII стагоддзях”. На кнізе ёсць адзнака “БК2300”, якая сведчыць пра тое, што да Вялікай Айчыннай вайны яна захоўвалася ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (цяпер — Нацыянальная бібліятэка Беларусі) у складзе калекцыі кніг, падараваных Я. Ф. Карскім. Паводле звестак А. І. Цітавец, пасля вайны гэты асобнік нейкі час знаходзіўся ў запасніках Урадавай бібліятэкі БССР (цяпер — Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь), а потым быў перададзены ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук. Далейшая работа па навуковым апісанні старадрукаваных і рэдкіх фондаў беларускіх бібліятэк, магчыма, дапаможа высветліць лёс некаторых згубленых падчас вайны кніг з калекцыі акадэміка.

> Прыватная бібліятэка — важная крыніца вывучэння жыцця і дзейнасці Я. Ф. Карскага. У свой час яна служыла вучонаму творчай лабараторыяй, была неабходнай прыладай яго навуковай працы. І таму сёння праз тэматычны склад і змест выданняў, пазнакі і аўтографы на асобных кнігах яна адлюстроўвае працэс даследчай працы, ход думкі, этапы навуковых дасягненняў, эвалюцыю навуковых і грамадска-палітычных поглядаў, а таксама кола калег, аднадумцаў і сяброў.

На працягу апошніх 30 гадоў быў зроблены шэраг спроб увесці прыватную бібліятэку Я. Ф. Карскага ў навуковы абарот шляхам публікацыі ў друку артыкулаў з папярэднім апісаннем калекцыі. Шмат карыснай для сучаснага даследчыка інфармацыі ўтрымліваюць артыкулы супрацоўнікаў НББ Н. Б. Ватацы і М. Я. Кандратоўскай, Л. Г. Кірухінай, Л. Д. Сільновай. Аднак характару сістэмнай мэтанакіраванай работы з кнігазборам гэтыя спробы так і не набылі. Адсутнасць комплекснага навуковага даследавання і бібліяграфічнага апісання прыватнай бібліятэкі выдатнага навукоўца не дазваляе зрабіць гэты ўнікальны рэсурс даступным шырокаму колу зацікаўленых асоб.

У 2010 г. у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі распрацаваны і пачаў рэалізоўвацца навукова-даследчы праект, накіраваны на сістэмнае вывучэнне і ўвядзенне ў навуковы абарот дакументальнай спадчыны Яўхіма Фёдаравіча, прымеркаваны да 150-гадовага юбілею з дня нараджэння вучонага. У межах рэалізацыі праекта запланаваны шэраг мерапрыемстваў, у ліку якіх — фарміраванне калекцыі “Бібліятэка Я. Ф. Карскага” ў электронным каталогу НББ шляхам навуковага апісання наяўных у фондзе НББ выданняў з кнігазбору акадэміка, аліўбоўкі найбольш цікавых і каштоўных экзэмпляраў і змяшчэння паўнатэкставых копій у электроннай бібліятэцы НББ. У першую чаргу апрацоўваюцца выданні з аўтографамі. На сённяшні дзень у калекцыі Я. Ф. Карскага выяўлена каля 400 выданняў з дароўнымі надпісамі аўтараў, адрасаванымі вучонаму і членам яго сям'і. Выпуск электроннага выдання “Спадчына акадэміка Я. Ф. Карскага: да 150-годдзя з дня нараджэння”, прысвечанага Яўхіму Фёдаравічу і яго прыватнай бібліятэцы; арганізацыя ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі выстаўкі да 150-годдзя з дня нараджэння Я. Ф. Карскага; стварэнне навуковай асновы для пастаяннай экспазіцыі, якая адлюстроўвае кнігазбор вучонага ў фондзе НББ; выданне каталога прыватнай бібліятэкі акадэміка ў фондзе НББ у электронным або друкаваным выглядзе.

Спадзяёмся, рэалізацыя праекта будзе садзейнічаць прыцягненню ўвагі шырокіх колаў грамадскасці да асобы Я. Ф. Карскага, свабоднаму доступу да навуковай спадчыны акадэміка і інфармацыі пра яго жыццё і дзейнасць, увядзенню ў навуковы і культурны абарот яго прыватнай бібліятэкі. Думаецца, гэта тэма выкліча цікавасць у прадстаўнікоў бібліятэчнай супольнасці, і звесткі пра лёс згубленых у час ваенных ліхалецця выданняў з калекцыі выдатнага вучонага будуць дапоўнены дзякуючы знаходкам у фондах розных бібліятэк.

Ксенія СУША



На здымку: электроннае выданне “Спадчына акадэміка Я. Ф. Карскага: да 150-годдзя з дня нараджэння”.

# Урокі Ясеніна

Кожны выбітны пісьменнік, не кажучы ўжо пра вялікіх, стварае сваю школу. Гэта школа адносін да жыцця і творчасці, маральная і прафесійная сістэма каардынат, шкала каштоўнасцей, якіх прытрымліваўся мастак, нарошчваючы тым самым маштаб сваёй асобы. Чытаючы творы свяцілаў паэзіі або прозы, мы робімся ўладальнікамі іх творчай спадчыны і атрымліваем уяўленне пра жыццёвую пазіцыю і погляды майстроў праз герояў, персанажаў кніг. Але ёсць прамыя ўказанні і ўчынкі гэтых дарыльшчыкаў прыгажосці, пакінутыя імі і пераказаныя відавочцамі, — думкі і справы, не ўвасобленыя ў мастацкую форму. Сабранае разам, гэта не што іншае, як своеасаблівы курс этыкі і майстэрства, майстар-клас, як зараз стала модна гаварыць, збор прынцыпаў і правілаў жыцця. Менавіта пра гэта я думаў, перачытваючы ўспаміны сучаснікаў вялікага рускага паэта Сяргея Ясеніна. Падобна, яны асабліва важныя ў наш час, калі паэзія, пры ўсёй неверагоднай колькасці аматараў вершатворчасці, знаходзіцца ў такім заняпадзе, як ніколі дагэтуль. Маякі згаслі і, як зазначыў адзін з яе апошніх магікан, "нету их и всё разрешено".

## «Шукай радзіму!»

Гэта адзін з галоўных запаветаў Ясеніна. Ён часта паўтараў: "Паэт можа пісаць толькі пра тое, з чым ён арганічна звязаны". Крыўдзіўся, калі крытыка пісала пра яго як пра дамскага ўгодніка, выбіраючы часам выразы і больш моцныя. Гэта быў самы сапраўдны паклёп на яго. Арганічна паэт звязаны быў толькі з Радзімай. "Пачуццё радзімы — асноўнае ў маёй творчасці". Іншым разам заяўляў някемлівым: "У мяне няма перыядаў — праз усю маю творчасць праходзіць адна і тая ж тэма: любоў да радзімы". Аднойчы яго, што называецца, "дасталі" параўнаннямі з Маякоўскім. Вядома, што адносіны паміж імі былі, мякка кажучы, нацягнутымі. У варожасць ніколі не пераходзілі, але і сяброўства ніколі не было. Раннія вершы Маякоўскага Ясенін нават любіў. "Ах, закройте, закройте глаза газет!" нават рэкамендаваў чытаць. Дык вось, калі Ясеніна дапяклі Маякоўскім, ён выказаўся ясней няма куды: "Ведаеш, чаму я — паэт, а Маякоўскі так сабе — незразумелая прафесія? У мяне радзіма ёсць. У мяне — Разань! Я выйшаў адтуль, і які ні ёсць, а прыйду туды ж! А ў яго — шыш! Вось ён і блукае без дарог, і ткнуцца яму няма куды. Хочаш добрую параду атрымаць? Шукай радзіму! Знойдзеш — пан! Не знойдзеш — усё сабаку пад хвост пойдзе! Няма паэта без радзімы". Але ў іншы раз, згодна са сваім выдатным правілам быць аб'ектыўным, дадаў: "Што ні гавары, а Маякоўскага не выкінеш. Ляжа ў літаратуры бервяном. І многія аб яго спатыкнуцца". Гаворачы пра радзіму як пра святая святых паэта, нельга не ўспомніць яшчэ два выпадкі з яго жыцця. Першы раз збіраючыся ў замежжа, вырашаў для сябе — ці вітацца з Меражкоўскім і Гіпіус, калі выпадкова сустрэне іх. Прыйшоў да высновы — не, не падасць руку, яны ж кінулі радзіму. І яшчэ. Аднойчы ў адным з парыжскіх кафэ былыя белагвардзейцы, якія служылі там афіцыянтамі, сталі папракаць яго, што прадаўся, маўляў, бальшавікам. Ясенін рэзка абарваў іх: "Вы тут знаходзіцеся ў якасці афіцыянтаў! Выконвайце свае абавязкі моўчкі!".

## Класік за левым плячом

Кожны паэт, лічыў Ясенін, павінен мець у анёлах свайго класіка. У яго былі тры самыя-самыя: Пушкін, Гогаль, Фет. Блока любіў, ганарыўся знаёмствам з ім, цытаваў, але гэта быў сучаснік, з ім можна было нават паспрачацца. Зрэшты, спрачаўся ён і з Пушкіным. Пра гэта ніжэй. Літаратуразнаўцы, уважліва прачытаўшы "Баладу аб дваццаці шасці", тут жа знайшлі ў ёй нешта няўлоўнае гогалеўскае. Ясенін не пярэчыў: гэта была прысутнасць Гогаля на падсвядомым узроўні. Цэлыя старонкі з Гогаля, асабліва апісанні прыроды, ён мог чытаць на памяць. У Пушкіна больш за ўсё любіў "Деревню": "Роняет лес багряный свой убор". Упарта



абараняўся ім ад крытыкаў, якія абвінавачвалі яго ва ўпадніцкіх настроях. Як сваё, з натхненнем цытаваў: "Дар напрасный, дар случайный, // Жизнь, зачем ты мне дана?". Ён наладжваў сваю ліру па пушкінскай. Нібы адчуваў за спінай дыханне любімага

Калі Ясеніна дапяклі Маякоўскім, ён выказаўся ясней няма куды: "Ведаеш, чаму я — паэт, а Маякоўскі так сабе — незразумелая прафесія? У мяне радзіма ёсць. У мяне — Разань! Я выйшаў адтуль, і які ні ёсць, а прыйду туды ж! А ў яго — шыш! Вось ён і блукае без дарог, і ткнуцца яму няма куды. Хочаш добрую параду атрымаць? Шукай радзіму! Знойдзеш — пан! Не знойдзеш — усё сабаку пад хвост пойдзе! Няма паэта без радзімы".

паэта. Як ён ставіўся да Пушкіна, ведалі ўсе. Труну з целам Ясеніна тройчы абнеслі вакол помніка Пушкіну ў Маскве.

Вучыцца ў класікаў было для яго законам. Распавядаў пра гэта не саромеючыся. "У першым выданні ("Радуніцы" — Ю. С.) у мяне шмат мясцовых, разанскіх слоў. Слухачы часта здзіўляліся, а мне гэта спачатку падабалася. Потым вырашыў, што гэта ні да чаго. Вось і Гогаль: у "Вечерах" у яго шмат украінскіх слоў; цэлы слоўнік спатрэбілася прыкласці, а ў далейшых сваіх маларасійскіх аповесцях ён ад гэтага адмовіўся. Увесь гэты мясцовы, разанскі, каларыт я з другога выдання сваёй "Радуніцы" выкінуў".

Аднак не заўсёды з вялікімі згаджаўся. Працуючы над сваім "Пугачовым", Ясенін кінуў пальчатку самому Пушкіну. "Я вельмі і вельмі шмат прачытаў для сваёй трагедыі і знаходжу, што шмат чаго Пушкін намаляваў (у "Капітанскай дачцэ" — Ю. С.) няслушна. Перш за ўсё сам Пугачоў. Ён жа быў амаль геніяльным чалавекам, ды і многія з яго паплечнікаў былі людзьмі моцнымі, яркімі фігурамі, а ў Пушкіна гэта неяк знікла". З сумненнем ставіўся Ясенін і да інтрыгі кахання ў гэтай аповесці, лічачы, што яна "не вельмі падыходзіць да гістарычнай часткі. У мяне ж зусім не будзе любоўнай інтрыгі. Хіба яна такая неабходная? Умеў жа без яе абыходзіцца Гогаль".

У Лермантава ўважлівы вучань упершыню адзначыў такі прыём, як перанос сказа з аднаго радка ў іншы. Не спадабалася. Натуральная плынь верша абдудзецца тады, калі ў кожным радку будзе новы змест. "Я люблю супадзенне фразы і радка". Але так не заўсёды атрымліваецца, таму што пішацца залпам, а перарабляць потым — усё роўна што перашываць ужо пашытае. Мы ўсе прывыклі, як да паветра, да радкоў: "Не бродить, не мять в кустах багряных // Лебеды и не искать следа". Але Ясенін быў проста прыгнецены, што напісалася менавіта так. Па яго перакананні, лебяда павінна ўлегчыся ў першы радок, у другім ёй рабіць няма чаго. Стаў перарабляць. Атрымалася так: "Лебеды не мять в кустах багряных, // Не бродить и не искать следа". Напісаў і адразу адчуў: "не падыходзіць: занадта вялікае значэнне надаецца "лебядзе". Бо галоўнае ў фразе — "бродить". Другараднае — "бродя, мять лебеду". Давялося вяртацца да першага варыянта. Абвостраная паэтычная чуласць не дазволіла зрабіць памылку.

## «Прасцей! Прасцей!»

Калі б сабраць усё, што гаварыў Ясенін з нагоды сваіх і чужых вершаў, атрымалася б кніга, не меней цікавая і карысная, чым "Як рабіць вершы" Маякоўскага. Карысная не ў сэнсе магчымага перайманне. Для нас важныя прынцыпы працы над вершам вялікага майстра. Прычым, на той яго стадыі, калі верш

Яснасць верша — для Ясеніна гэтае патрабаванне што віза для мытніка. Мадэрн? — ідзі па чырвоным калідоры. Пушкінская традыцыйнасць — зялёнае святло. "У паэзіі, як на вайне, трэба кроў праліваць". Паэзія не спектакль, хочацца дадаць ад сябе. Гэта сёння выраз "традыцыйны верш" з вуснаў многіх сучасных паэтаў гучыць паблажліва: што, маўляў, за дапатопнае мастацтва?

ужо напісаны. Таму што кожны піша па-свойму і працэсу пісання вучыцца — глупства. Ясенін запісваў ужо вынашаны ў галаве і прачулы верш, перад гэтым (калі ўмовы хатнія) вымыўшы галаву, надзеўшы чыстую кашулю і паставіўшы на падлогу кветкі. Калі верш не ішоў адразу, ён адкладаўся. Відавочна, каб не ператварыць святую працу ў вымучванне радкоў. У шумах паэтычнага эфіру гукаўспрыманне ўпэўнена шукае след, як дасведчаны радыётэлеграфіст адзіна патрэбныя яму пазыўныя. Але часам з-за хуткасці адбываецца збой. У "Ваўчынай згубе" спачатку напісалася: "Из чёрных недр кто-то спустит сейчас курки". Пасля ўслухоўвання і ўглядання ў радок Ясенін мяняе эпітэт "чёрных" на "пасмурных". "Из пасмурных недр кто-то спустит сейчас курки". І з задавальненнем адзначае, што так гучыць лепш. І. Старцаў, які давёў нам гэты эпізод, не адзінокі. У Ройзмана свая гісторыя. Ён паказаў свой "Платан Пушкіна" Ясеніну як будучаму рэдактару часопіса "Вольнодумец" (праект праваліўся) на прадмет публікацыі ў першым нумары. У вершы было 16 радкоў. Ясенін зрабіў 25 заўваг. "Пішаш: "грызуць", а ў наступным радку "згрызоту". Не падыходзіць! Потым: "І тут гаварылі мне Пушкін...". Мнепушкін! Замяні! "Ціхія воплескі". Знайшоў новы эпітэт! Або: "Аб мілай сяброўцы"! А ўжо гэта чорт ведае што: "вокліч зямлі".

Яснасць верша — для Ясеніна гэтае патрабаванне што віза для мытніка. Мадэрн? — ідзі па чырвоным калідоры. Пушкінская традыцыйнасць — зялёнае святло. "У паэзіі, як на вайне, трэба кроў праліваць". Паэзія не спектакль, хочацца дадаць ад сябе. Гэта сёння выраз "традыцыйны верш" з вуснаў многіх сучасных паэтаў гучыць паблажліва: што, маўляў, за дапатопнае мастацтва? Як старыя лапці ў час загнутых лодачкай туфляў. Адсутнасць сінтаксісу сягоння таксама не што іншае, як спроба падмануць чытача. У тым, што вершы напісаныя на адным выдыху. Прадыктаваныя, маўляў, нябёсамі. Нам застаецца толькі захапляцца. 500 гадоў таму першыя кнігі ў Арменіі пісаліся ручайком, гэта значыць, злучнымі словамі, без прабелаў. Каб зэканоміць пергамент. На адну Біблію ішла скура 100 цялят. Мы прыходзім пакуль да эканоміі фарбы. Выдатна!

А Ясенін цягнуўся да класікі і выдаваў класіку: "Стихи! Стихи! Не очень лефьте! // Простей! Простей! // Мы пили за здоровье нефти // И за гостей". Той, хто чытае гэтыя радкі, упэўнены, нацешыцца не толькі энергетыкай верша, але і рыфмамі.

## «Вучыся быць сціслым»

Набіраючы партфель з матэрыяламі для "Вольнодумца", Ясенін разумеў: у часопісе побач з масцітымі аўтарамі павінны быць прадстаўленыя і маладыя, невядомыя імёны. Але толькі "з вялікім адборам і з умовай, калі ў іх ёсць штонебудзь за душой". Вось гэтая апошняя заўвага канцэнтруе ў сабе найважнейшыя думкі Ясеніна пра паэзію. "Усе яны думаюць так: вось рыфма, вось — памер, вось — вобраз, і ўсё ў парадку. Майстар. Чорта лысага — майстар! Гэтаму і кабылу навучыць можна. Рыфмы, як лакіраваныя туфлі, блішчаць! Гэтым мяне не здзівіш. А ты здолей усміхнуцца ў вершы, капялюш зняць, сесці, — вось тады ты майстар". У іншы раз ён дадае: "Няма гэтага — сябе не знайшоў! Ну а раз не знайшоў...". Вось што азначае ў Ясеніна "калі ў іх ёсць штонебудзь за душой". Пры ўсім пры гэтым лірычны верш павінен быць кароткім: "інакш ён, безумоўна, страціць лірычную напружанасць, стане бледным і вадзяністым". Ясенін спасылаецца на Блока, які рэкамендаваў 20 радкоў як ідэальны памер лірычнага верша. Але і гэта мала — толькі сябе знайсці. Трэба адчуць і зразумець, што вакол. Замкнуць на сабе. І. Розанаў узгадвае словы Ясеніна: "У Клюева ў вершах адлюстраванне жыцця. Я ж у аснову кладу ўтрыманне, паэтычнае светаадчуванне". Іншымі словамі — самое жыццё. Гэтай задачы ў яго служаць усе дапаможныя сродкі формы. "Вобраз для яго — гэта гаць, якую ён пракладае праз балота", — знаходзіць даволі дакладную метафару сябар Сяргея Ясеніна па імажынізме Іван Грузінаў. Цікава і такая яго заўвага: "...некаторыя з яго сяброў лічаць, што ў вершах вобразы павінны быць нагрувашчаныя бязладным натоўпам. Такое бязладнае нагрувашчванне вобразаў яго не задавальняе, замест натоўпу вобразаў у вершы павінен быць арганічны вобраз".

Рыфмы я параўнаў бы з гузікамі на гарнітуры. Яны павінны быць натуральнымі, не рэзаць вока, дапамагаць агульнаму ўспрыманню твора. Вельмі цяжка дабіцца гэтага з дапамогай асанансных рыфм. Таму выкарыстанне дзеяслоўных лічыцца слабасцю паэта, гаворыць пра недахоп яго вынаходлівасці. Спачатку так думаў і Ясенін. Але з узростам усвядоміў, што бедныя (дзеяслоўныя) рыфмы самі па сабе мала значаць. Галоўнае — у энергетычна-сэнсавым полі паміж імі. Калі, дзякуючы волі і таленту паэта яно ўзнікае, дзеяслоўная рыфма становіцца рыфмай-невідзімкай. Гэта быў шлях да прастаты. Цяпер Ясенін нярэдка цытаваў Аляксандра Сяргеевіча: "К чему же? Ведь и так мы голы. / / Отныне в рифмы буду брать глаголы".

## Да якой пары паэт малады?

Не ведаю ніводнага паэта, які, падышоўшы да трыццаці, не адчуў бы: трэба спяшацца. Лірыка ў гэтым узросце выглядае як госць, які засядзеўся. Хай сабе і дарагі госць. Усе памятаюць: "Лета к суровой прозе клонят". Але Ясенін само паняцце лірыка ўспрымаў інакш. Для яго яна не толькі суб'ектыўнае асабістае пачуццё або настрой. А па жанры не толькі, скажам, раманс, элегія, пасланне. "Гавораць, лірыка, няма дзеяння, адны апісанні... Ды ці ведаюць яны, дурні, што "Слова пра паход Ігаравы" — усё аб прыродзе. Там прырода ў змове з чалавекам і замяняе яму інстынкт". Вось чаму ў традыцыйнай лірыцы Ясеніну было цесна. Ён быў згодны з Гарадзецкім, што лірыка можа пераходзіць у тэатр або эпас. Адгэтуль цяга да вялікіх твораў: "Страна негодяев", "Пугачёв". Вызначыў Ясенін і тэрмін для лірычнага пісьма. "Звярніце ўвагу (запісаў Іван Розанаў), што яму ўжо за сорак. Відавочна, што паэтычны ўзрост у яго прайшоў. І вось апошняя кніга яго вершаў ужо гаворыць пра заняпад. Наогул лірычны паэт не павінен жыць доўга. Або ў пэўным узросце ён павінен кінуць пісаць. Выключэнні, як мой любімы Фет, рэдкія". Але ўсё ж бываюць. Ды яшчэ якія! Сам Сяргей Аляксандравіч пражыў усяго 30 гадоў, а потым, у душы народнай, яшчэ 85. І дагэтуль малады!

Юрый САПАЖКОЎ

*Аляксандр ГРЫБАЕДАЎ*

# «Гора ад розуму»

(фрагменты)

Чацкі:
А суддзі хто?
Са старажытных лет
Натоўп свабоду
кляў непрымірыма.
Ўсе меркаванні —
са старых газет
Гадоў Ачакаўскіх
і пакарэння Крыма.
Заўсёды ў смутку і журбе,
Не прыкмячаючы сябе,
Пяе натоўп адно і тое
І ганіць дружна ўсё старое,
Хоць продкаў ганіць сорам.
Яны з'яўляюцца для нас узорам —
Не спрытнякі,
што крадзяжом багаты,
Бо абарону ў сваяках знайшлі,
Пабудавалі дзіўныя палаты
І ў роскашы купацца пачалі.
Былое не ўваскрэсяць іншаземцы
Так, як і мы —
тых продкаў спадкаемцы.
Каму не заціскалі тут раты
Абеды, танцы ды вячэры
І прывучылі нас да нематы?
Надзей ніякіх і ніякай веры!
А можа, гэта зробіць ён —
Той, да якога на паклон
Вазілі вы мяне спрасонку,
Загорнутага ў чыстую пялёнку.
Той Нестар хамаў і хапуг,
Акружаны гурмою верных слуг,
Што шмат яму рабілі
добрых спраў
І баранілі махляра, аднак,
Якіх ён неўзабаве прамяняў
На паляўнічых трох сабак?
Мо зробіць гэта
клоўн той салонны,
Які дзяцей адрынутых сагнаў
На фурах на балет прыгонны
І ўсёй Маскве дзівіцца загадаў
З Амураў і Зефіраў тых,
што пакрысе
Былі прададзены паштучна ўсе?
Мы тых, што дажылі да сівізны,
Павінны ўганароўваць
на бязлюддзі!
І строгія ацэншчыкі, і суддзі,
І гонар наш яны.
Калі з нас, маладых,
і знойдзецца адзін
Шукальнік праўды, для якога чын
Не будзе марай
самай запаветнай,
Ці хто натхніцца праўдаю асветнай,
Або ў каго ў душы сам Бог
раздзьмухне жар
Да творчасці якой
з яе запалам вечным,
Яны адразу: гвалт! Пажар!
І назавуць яго вар'ятам
небяспечным!
Ад іх нам гэта чуць не ў навіну.
Убогасць іх і цела галізну
Дагэтуль прыкрывае іх мундзір!
Але для нас ён не арыенцір,
Хоць дочкі з жонкамі
дагэтуль шчыра
Павагу адчуваюць да мундзіра.
Я захапляўся сам, калі
Гвардзейцы вуліцай ішлі
Або асобы царскага двара
Сюды калісьці прыязджалі.
Жанчыны ўсе крычалі ім: ура!
І ўгору чэпчыкі кідалі.

Чацкі:
Нязначная ў пакоі тым сустрэча:
З Бардо французік
з хрыпамі ў грудзях
Сабраў вакол сябе
штосьць тыпу веча
І гаварыў, як ён збіраўся ў шлях
У дзікую краіну са слязамі;
Калі ж прыехаў,
безліч асалод знайшоў
І не пачуў спрадвечных
нашых слоў,
Нібыта на радзіме ён з сябрамі.
Свая правінцыя.
Як глянеш, вечарком
Сябе ён адчувае тут царком.
Такія ж строі, гэткія ж абрады...



Ён рады, мы не рады.
Замоўк. І тут з усіх бакоў
Сум, вохканне і стогны зноў:
— Ах! Францыя!
Лепш не знайсці краіны! —
Сказалі дзве князёўны,
дзве жанчыны,
Нібыта паўтараючы урок,
Завучаны з дзяцінства назубок.
Куды падзецца ад жанчын такіх?
І пажадаў, абураны, я ўслых,
Каб вынішчыў Гасподзь
нячысты гэты дух
І рабства прыкрага разбіў ланцуг,
Каб словам утрымаў нас хтосьці,
як ляйчынай,
Ад захаплення прыкрага
чужой айчынай.
Хай стараверам назавуць мяне,
Ды Поўнач наша зараз утрайне,
Кажу я, горш, чым некалі была,
Бо ўсё на глум чужынцам аддала —
Абрады, мову, даўніну святую.
І вопратку змяняла на другую.
Калі яе надзенеш, дык выразна
Нагадваць будзеш постаць блазна:
Хвост, спераду глыбокі выраз,
Вачэй славянскіх
неславянскі выраз,
Пабрытыя сівыя падбародкі
І розум, як сукенкі іх, кароткі!
Раз мы народжаны ўсё пераймаць,
Дык у кітайцаў, можа, лепш заняць
Нам незалежнасці ад іншаземцаў,
Каб уваскрэснуць
некалі ад іхніх мод
І каб разумны, жвавы мой народ
Нас не лічыў па мове
хоць за немцаў.
Як еўрапейскае паставіць
нам у паралель
З нацыянальным? Дзіўна штосьці!
Як перакласці нам мадам,
мадмуазель?
"Няўжо спадарыня?" —
прамармытаў мне хтосьці.
І, уявіце, тут, нібы на грэх,
Наконт мяне падняўся смех.
"Спадарыня! Ха! Ха!
О як цудоўна!
"Спадарыня! Ха! Ха!
Як безгустоўна!"
Я раззлаваўся. Кленучы жыццё,
Падрыхтаваў ім грамавы адказ.
Ды ўсе чамусьці разышліся ўраз,
Пакінуўшы мне крыўды пачуццё.
А чалавек, чыё радзіннае гняздо
Знаходзіцца ў Парыжы ці Бардо,
Яшчэ раскрыць не паспявае рот,
Як ля яго шалее ўжо народ
І ў Пецярбургу, і ў Маскве.
А вораг слоў пустых і нечуваных
І твараў маляваных,
Што слушных думак мае ў галаве
Больш, чым адну ці дзве,
Калі пра гэта гаварыць пачне
І навакол зірне...

Азіраецца, усе кружацца ў вальсе і не слухаюць яго.

Чацкі
(пасля нядоўгага маўчання):
Я ашаломлены і вінаваты,
І слухаю, але не разумею.
Чаму я вамі ўзведзены ў вар'яты?
Напэўна, што маўчаць не ўмею.

(Палымяна.)

Дзе ўзнагароду я шукаў, сляпак?
Ляцеў, спяшаўся. Думаў,
шчасце блізка.
І перад кім згінаўся я так нізка?
Каму я кляўся страсна так?
Каму вы перавагу аддалі?
Чаму адразу не сказалі,
Што дні шчаслівыя
ў нябыт сышлі
І мы чужымі з вамі сталі?
Што вы мінулае
ператварылі ў смех?!
Што сэрца ваша для мяне астыла,
Што прагнеце вы
не са мной уцех,
Хоць далячынь мяне
не астудзіла?
І за мяжой я вамі жыў адной.
Сказалі б, што прыезд
раптоўны мой,
Мае учынкі, выгляд, словы
Разгневаць вас гатовы,
Я вузел бы,
што звязваў нас, рассек.
І перад тым,
як назаўжды расстацца,
Не стаў бы вельмі дазнавацца,
Хто гэты ваш каханы чалавек,

(Насмешліва.)

З якім памірыцеся вы, вядома?
Сябе гнясці навошта, для чаго?
Бо вы заўсёды можаце яго
Пасладзь па справах
і пакінуць дома.
Муж-паслугач, муж-хлопчык
і муж-паж —
Усіх масквічак ідэал і ваш.
Я ашчасліўлены маім разрывам.
Вы ж бацька,
што паклоны б'е чынам!
Драмаць вам зычу я
ў няведанні шчаслівым
І сватаннем сваім
не пагражаю вам,
Бо знойдзецца высакародны
Нізкапаклоннік і дзялок,
Разумнік і не абібок,
Што вартасцямі цесцю ўгодны.
Спаўна працверазеў я — і ўбачу
Святлей намнога стала. І хачу
На бацьку, на дачку, на
палюбоўніка дурнога,
На свет увесь я
жоўці выліць многа.
З кім быў я і куды занёс
Мяне такі непрадказальны лёс?!
І ганяць! І клянуць!
Натоўп бяздарных катаў!
Драпежная гайня
разумнікаў-вар'ятаў;
Зайздроснікаў,
нястомных у варагаванні,
І здрадцаў у сяброўстве
і каханні;
Злавесных, гаваркіх бабуль
І адпаведных ім дзядуль,
Якім не дакучае сорам!
Вар'ятам вы мяне
праславілі ўсім хорам.
Ды я не ганю вас і не віню.
Загартаваным выйду я з агню,
Бо хто адным паветрам з вамі
Падыхаць дзень адзін паспее,
Загартаваным стане сам — і
Ягоны розум ацалее.
Бягом з Масквы!
Сюды я болей не яздок.
Бягу шукаць
пад шум і рогат свету,
Дзе ёсць пакрыўджанаму
пачуццю куток! —
Карэту мне! Карэту!

Пераклад з рускай
Уладзіміра Скарынкіна

Аляксей АПУХЦІН

## Астрам

Познія госці адцвіўшага лета,
Шэпчуцца вашы галоўкі панурыя,
Быццам вы дні кленяце без прасвету,
Быццам пужаюць вас ночачкі хмурыя…

Ружы — вось тыя жылі, хоць і звялі...
Што ж прыгадаецца вам перад сконам?
Зоры вам ноччу вясновай не ззялі,
Ранкам не чулі птушынага звону...

Канстанцін СЛУЧЭЎСКІ

## Раніца

Вось раса нябачная апала,
Узыход збіраецца палаць;
І раслінасць нібы ўся прыўстала
Паглядзець, як будзе ноч збягаць.

Хутка распачнецца абуджэнне...
Хмары, бы вандроўнікі ў плашчах,
Цягнуцца на ўсход для пакланення,
У пурпурных ззяюць прамянях.

Сонца тых вандроўнікаў сустрэне,
Будзе песціць іх ды залаціць;
Абагрэе ўсіх сваім праменнем
І пашле дажджом наш свет крапіць!

Пойдзе дождж без глузду, без разбору,
Застукоча гулка па вадзе.
Выпадзе найбольш на долю бору,
Ды й на поле штосьці упадзе!

Пераклад з рускай
Уладзіміра Стасюка

Уладзіслаў ХАДАСЕВІЧ

## Перад люстэркам

Nel mezzo del cammin di nostra vita[1]

Я, я, я. Што за дзікае слова!
Хіба той чалавек — гэта я?
Хіба мама любіла такога,
Жоўта-шэрага, напаўсівога
І ўсёведнага, нібы змяя?

Хіба хлопчык, што некалі летам
Танцаваў на Астанкінскіх днях, —
Гэта я, той, хто кожным куплетам
Жаўтаротым вяшчуе паэтам
То агіду, то жорсткасць, то страх?

Хіба той, хто ў паўночныя спрэчкі
Усю хлапечую выцягнуў раць, —
Гэта я, той жа бесчалавечны,
Хто на розныя брыдкія рэчы
Навучыўся маўчаць, жартаваць?

Так бывае заўжды ў палавіне
Непражыта-пражытых гадоў:
Ад маленькай прычынкі — к прычыне,
А глядзіш — заблудзіўся ў пустыні
І сваіх ты не знойдзеш слядоў.

Так мяне не пантэра скачкамі
На парыжскі паддашак вяла.
І Сакрата няма за плячамі, —
Толькі ёсць адзінота ў той раме
Непадманнага чыстага шкла.

## Акрабат

Надпіс да сілуэта

Ад даху да даху — напяты канат.
Спакойна і лёгка ідзе акрабат.

Увесь нібы вагі, і палка ў руках.
Натоўп гледачоў аж гудзіць па баках.

Таўхаюцца. Шэпчуць: "Ды зваліцца, псіх".
І кожны чагосьці чакае штоміг.

А справа — бабулька ўсё зырыць з акна,
А злева — гуляка з бакалам віна.

Ды неба сінее. Надзейны канат.
Спакойна і лёгка ідзе акрабат.

А раптам, сарваўшыся, ўсё ж упадзе
І стане хрысціцца натоўп, бы ў бядзе, —

Паэт, не спыняйся, ідзі як ідзеш:
Такім рамяством кожны дзень ты жывеш.

Пераклад з рускай
Міколы Шабовіча

[1] Жыццёвы шлях прайшоўшы напалову (з іт.) — першы радок "Боскай камедыі" Дантэ Аліг'еры.

**Нішто не раскажа пра чалавека лепей, чым свет яго захапленняў — творчых, непаўторных і арыгінальных. І, на мой погляд, нельга пакінуць без увагі сапраўды ўнікальную па сваёй тэматыцы і разнастайнасці калекцыю Ігара Лізуры — народнага майстра разьбы па дрэве з невялічкага горада Старыя Дарогі Мінскай вобласці.**




# Дрэва здольна ажываць...

### Яго формула поспеху

З таго моманту, як была зроблена першая драўляная фігурка — легендарныя "Песняры" — прайшло амаль 40 год. І сёння народны майстар Беларусі можа пахваліцца колькасцю сваіх работ — прыкладна 3000! Немагчыма? Я ўпэўнілася, што для прафесіяналаў немагчымага быць проста не можа! У кватэры Ігара Іванавіча можна бліжэй пазнаёміцца з язычніцкім светам і "сустрэцца" з прэзідэнтамі розных краін, стаць сведкам Кулікоўскай бітвы і вайны з Напалеонам. Сапраўды, простая формула творчага чалавека (фантазія + цікавае светаўспрыманне + цудоўнае пачуццё гумару) здольная ствараць цуды.

Большасць сваіх работ майстар прэзентаваў сябрам і знаёмым, засталося каля 350. Самую вялікую калекцыю — ваенную — Ігар Іванавіч плануе падараваць Мінскаму сувораўскаму ваеннаму вучылішчу.



### Для пачатку — пенапласт...

Свае першыя работы майстар выконваў з пенапласту — трэба было ўдасканаліць тэхніку, а гэты матэрыял падыходзіў як ніякі іншы. Але менавіта дрэва лічыцца матэрыялам, найбольш прыдатным для мастацтва, таму ў далейшым Ігар Іванавіч "пазнаёміўся" з ліпаю, кедрам, чырвоным дрэвам. Як заўважыў майстар, найлепшым па сваіх прыродных якасцях матэрыялам з'яўляецца менавіта ліпа.

### Як жывыя!

Хітры дамавік, Дон Кіхот і чароўныя гномы ў выкананні Ігара Лізуры адухаўлёныя і быццам жывыя: яны маюць не толькі асабістыя элементы адзення, але і ўласны характар, тэмперамент. Некаторыя з іх нясуць у сабе пэўную сімвалічнасць. Так, гном у жыцці чалавека сімвалізуе дабрабыт, эканамічную стабільнасць. Нездарма каля будынка "Беларусбанка" ў Старых Дарогах усталявалі гэтага незвычайнага персанажа, зробленага Лізурам. Тыя, каму давядзіцца бываць тут, заўсёды захапляюцца майстэрствам і прафесіяналізмам мясцовага "таты Карла", а першае, што можна ад іх пачуць: "Фігуркі нібы жывыя!" — з'яўляецца стымулам для майстра ствараць новыя цуды.

Скульптурная разьба з'яўляецца найбольш складаным відам, паколькі патрабуе ад майстра ўмення працаваць, адчуваючы аб'ём, перспектыву, прапорцыі.

Менавіта людзі і іх жыццё сталі для майстра невычэрпнай крыніцай натхнення і фантазіі. Творца досыць плённа працуе. Дастаткова згадаць яго калекцыю па гісторыі старадарожскага краю. Альбо цыкл выдатных пано пад назвай "Беларусь", якія ўпрыгожылі мясцовую бібліятэку.

Усім вядома здольнасць беларусаў аздабляць прыроднымі, цёплымі матэрыяламі мясцовыя храмы. Работамі Лізуры аздоблена Свята-Мікалаеўская царква.

### А мог бы быць нядрэнным журналістам...

Па рознабаковай тэматыцы работ можна адразу здагадацца, што Ігар Іванавіч усур'ёз цікавіцца гісторыяй і літаратурай. Ён ахвотна паведаміў мне малавядомыя факты з гісторыі Старадарожчыны. Заінтрыгавалі і тоўсценькія папкі і альбомы, якія знаходзіліся побач з вялізным драўляным караблём, які, на мой погляд, быў сапраўдным лідарам па сваім памеры. Аказалася, гэта своеасаблівыя кнігі водгукаў — тут пакідаюць свае ўражанні ад выстаў майстра іх наведвальнікі. У папках змешчаны таксама разнастайныя публікацыі майстра (калісьці ён вёў сваю рубрыку ў раённай газеце). Ігар Іванавіч валодае цудоўным паэтычным талентам: на самыя свае ўдалыя работы ён піша гумарыстычныя вершаванкі, стварае паэтычныя партрэты знаёмых і блізкіх, гумарыстычныя вершы. Але дэвіз "Ні дня без радка" не стаў для яго галоўным — ён прысвяціў сябе зусім іншай справе.

Юлія ВІЛЮХА,
студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ



На здымках: народны майстар Ігар Лізура са сваімі работамі; арыгінальныя скульптурныя выявы бытавых сцэн з сённяшняга жыцця.

## У наступным нумары

Шаноўныя чытачы!

Звяртаем вашую ўвагу на тое, што наступны нумар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выйдзе ўжо ў новым годзе — 6 студзеня. Дарэчы, у Новым, 2011-м, газета трапіць да вас у новым аблічлы і з новымі праектамі. Адзін з іх — знаёмства з калекцыяй афарызмаў Зміцера Цехановіча. У першым нумары вы знойдзеце падрабязны расповед пра незвычайнага калекцыянера, а на працягу года зможаце пазнаёміцца з афарызмамі Уладзіміра Караткевіча, якія сабраў Зміцер Цехановіч.

З глыбінкі

## Чалавек-Свята

Тамару Прыгун добра ведаюць і любяць у Нясвіжы. Рэдка які канцэрт у раёне і горадзе абыходзіцца без яе ўдзелу. Таму некаторыя называюць яе Чалавек-Свята. Тамара Міхайлаўна сама піша вершы і музыку. Яна — кіраўнік адразу некалькіх калектываў мастацкай самадзейнасці: "Вяночак" у аграгарадку Сноў, супрацоўнікаў цэнтральнай раённай бальніцы, настаўнікаў Нясвіжскай музычнай школы, хору пенсіянераў "Элегія".

Удзельнікі хору шануюць Тамару Міхайлаўну, якая шчодра дорыць ім свой талент: вучыць годна паводзіць сябе на сцэне, дзеліцца таямніцамі спявацкага майстэрства. "Элегіі" ўжо два гады, у хоры спяваюць у асноўным інтэлігентныя людзі. Веды і вопыт некаторых яшчэ запатрабаваны, і яны працягваюць працаваць, нават знаходзячыся на пенсіі. Але ўсё роўна прыходзяць у вольны час на рэпетыцыі, стараючыся не прапускаць ніводнай. На ўласныя грошы пашылі касцюмы і з задавальненнем выступаюць у іх.

"Элегія" вядомая не толькі ў Нясвіжы. Гэтай восенню, напрыклад, харысты прымалі ўдзел у Фестывалі польскай культуры ў Івянцы. У калектыве ёсць свае "зорачкі". Гэта Марыя Чэркас — яе голасу так пасуе выкананне народных песень! Барыс Юшко — саліст хору, былы ўрач, любіць спяваць рамансы. Барыс Вятлугін — былы афіцэр, варта паслухаць яго выкананне арый з аперэт — які дыяпазон у яго голасу! Лідзія Дыкіна —яе голас так хораша гучыць у ансамблях: дуэтах, трыа!

У пачатку снежня ўсе калектывы, якімі кіруе Тамара Прыгун, прынялі ўдзел у дабрачынным канцэрце, што праходзіў на сцэне раённага Дома культуры. Усе сродкі ад яго былі перададзены на будаўніцтва ў Нясвіжы праваслаўнага храма.

Ларыса КЛЮСІЛАВА

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"

РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2970
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 23.12.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 6201
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686